# Крыніца

1(61)
2001
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

**КРЫНІЦА**
**№ 1 (61)**
**2001**

Штомесячны
літаратурна-культуралагічны часопіс

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнікі:** калектыў рэдакцыі,
Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630
ад 31 ліпеня 1996 года



Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца

**Пішыце:** **220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**Званіце:** **2-366-113, 2-366-142**

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 16.01.2001.
Фармат 60x84 1/8. Папера афсетная № 1. Гарнітура "Таймс".
Афсетны друк. Ум.-друк.арк. 11,16.
Тыраж 808 экз. Зак.49.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку",
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

# Ты

З *Табой:*

## З Алесем ЖУКАМ гутарыць Юры СТАНКЕВІЧ

**Юры СТАНКЕВІЧ: У сувязі з тым, спадар Алесь, што мы аднаго пакалення (у свеце нам, пасляваеннікам, нават мянушку прыдумалі – "бэбібумеры") і да таго ж у мінулым мотастралкі (маю на ўвазе службу ў арміі), а ты яшчэ і са Случчыны, то і дыялог наш будзе, спадзяюся, як на старонках Платона – спакойны і шчыры. Чаму падкрэсліваю, што ты са Случчыны? Скажу прама: і ў арміі, і ў звычайным жыцці (можа, гэта і выпадковасць, але ў кожнай выпадковасці праследжваецца нейкая своеасаблівая заканамернасць) мне сустракаліся толькі станоўчыя случакі, і таму стаўлюся да іх з павагай – мо ў іх балцкай крыві ў жылах больш, ёсць жа там у вас цэлыя сельсаветы (прускі), дый Слуцкі збройны чын і падзеі ў пасляваенны час гавораць самі за сябе. Кампліментарнасць тут, згадзіся, абстрактнага парадку, але... Ты адчуваеш гэты, няхай і прыглушаны часам, покліч, скажам так, сапраўднай беларускасці? Гены ж падмануць нельга... І большасць таго, што напісана, зноў жа пра Случчыну, пра сваё. А гэта ўжо – як несці крыж...**

**Алесь ЖУК:** Паважаны Юра, дзякуй за добрую думку і добрыя словы ў адрас случакоў. Думаю, што іх можна адрасаваць усім беларусам незалежна ад наяўнасці ў жылах балцкай крыві. Ды і случакі, як і ўсе людзі, розныя, не толькі станоўчыя... На жаль, з часам гэтых "нестаноўчых" большае... Агаваруся адразу, што для мяне Случчына – гэта не толькі раён. Случчына там, дзе і Капыль, і Клецк, і Старобін... Гэта цэлы рэгіён. І за гэтай Случчынай стаіць вялікая гераічная і

 



трагічная гісторыя, якая чакае свайго пісьменніка, які данясе яе да сваіх сучаснікаў. Іван Чыгрынаў неаднойчы папракаў мяне за тое, што не звяртаюся да такога ўдзячнага матэрыялу. Але кожнаму сваё. Магчыма, табой залішне гучна сказана: "несці крыж"... У мяне крышку прасцейшая фармулёўка: "даплакаць у сваім полі". Яна склалася ў душы пасля таго, як у сувязі з надрукаваннем "Паляванне на Апошняга Жураўля" адзін вядучы маскоўскі крытык у "Новом мире" аб'явіў мяне плакальшчыкам, вядома ж, у негатыўным разуменні. І я зразумеў, што правата за мною, калі звернута ўвага і кінуты такія абвінавачванні. Таму, як дапаўзці да вогнішча, мару дапісаць пятую аповесць з задуманай кнігі аповесцяў "Праклятая любоў". А аповесць гэтая супраціўляецца, не хоча давацца.

**Ю.С.: А табе не здаецца, што мы ўсе ў нейкай ступені "плакальшчыкі"? І літаратура, і мастацтва? Урэшце, "прарасці між Захадам і Усходам", як кажа Масей Сяднёў, і быць ад гэтых мацнейшых за нас сутнасцяў у залежнасці – тут заплачаш...**

**А.Ж.:** Тут ты мяне крыху не так зразумеў. Баюся, што і чытачы няправільна зразумеюць. Чалавек плача, калі яму баліць. Значыць, я знайшоў тое важнае, значнае, пра што нельга маўчаць, што, магчыма, не зразумеюць на Захадзе, як не захацелі зразумець і на Усходзе. Але не ўсе і на Захадзе, і не ўсе на Усходзе, пры ўсёй іх "мацнейшасці" і нашай "залежнасці". У літаратуры, у мастацтве ўся справа ў тым, наколькі ты крануў самае істотнае ў чалавеку, у яго душы, з якім узроўнем мастацкага асэнсавання ўсё гэта зроблена. Яскравы прыклад – вопыт Івана Мележа, Янкі Брыля, Васіля Быкава.

Але вернемся да Случчыны і случакоў. Не задумваўся раней, адкуль у чалавека з'яўляецца адчуванне сваёй нацыянальнай прыналежнасці: ад генаў, ці ад выхавання, ці ад таго і другога разам. Ва ўяўленні многіх сёння існуе крыху ідэалізаваны вобраз Случчыны, які ідзе ад гістарычных часоў, нават 20-х гадоў. Задумаўся пра гэта пасля адной з гаворак з Янам Скрыганам за некалькі гадоў да яго смерці. Мы збіраліся сесці ў "Жыгулі" і праехаць па яго і маіх



 

родных мясцінах (нашы вёскі амаль па суседству). І раптам Іван Аляксеевіч сказаў: “Не люблю бываць у Слуцку. Там ужо ўсё счужэлае, не наша. У Капыль яшчэ заедзем”.

І гэтыя горкія словы былі сказаны чалавекам, які ўсё жыццё пісаў пра Случчыну з любасцю, цяпер разумею, што апошнім часам і з горыччу.

**Ю.С.: Так, ідзе на нас, мяркую, “апошняя бяда” – распад этнасу. Тут, вядома, не толькі твой Слуцак не выстаяў... Калі я ў сваім быццам родным Барысаве выходжу ў завулак, дзе доўга жыў раней, і чую гергетанне в’етнамцаў, крыкі цыганоў, армянаў, азербайджанцаў (а ўсе яны засяліліся побач і, пэўна ж, атрымалі грамадзянства і, між іншым, патрабуюць у школах, як ведаю, рускамоўнага, а не беларускамоўнага навучання для сваіх дзяцей), то становіцца не па сабе.**

**А.Ж.:** Колькі ўжо прарочыць наступ гэтай “апошняй для беларусаў”! Дай Бог, перажывём і апошнія прароцтвы. А чаго ж крыўдаваць на тых жа в’етнамцаў, азербайджанцаў, калі мы, гаспадары, не ўмеем прымусіць лічыцца з нашай гаспадарскасцю? З кожным абыходзяцца так, як ён гэтага заслугоўвае. Ды ўрэшце пагроза знікнення мовы, а з ёй і этнасу, ідзе не ад прыезджых в’етнамцаў і азербайджанцаў, а ад нашага манкурцтва, якое па-майстэрску выкарыстоўваюць.

Тым не меней са Случчыны, на радасць, працягваюць ісці ў літаратуру, у мастацтва, у культуру таленавітыя маладыя людзі з адчуваннем сваёй годнасці і беларускасці. Значыць, не патухла зусім там цяпельца, а надзея, як вядома, памірае апошняй. І магчыма, калі не хапае выхавання, сваю справу робяць гены, той самы невынішчальны кліч продкаў...

**Ю.С.: Яшчэ ў 1936 годзе Олдас Хакслі ў эсэ “Пісьменнік і чытач” падзяліў літаратуру прыблізна на тры раздзелы: 1 – тую, каб бавіць час, паралізуючы думку, 2 – тую, што імкнецца змяніць рэлігійныя і этычныя погляды і асабістыя паводзіны чытачоў і скіроўвае на змену іх сацыяльных і эканамічных поглядаў (у другі раз-**

**дзел ён залічыў, прыкладам, такіх розных пісьменнікаў, як Кіплінг і Рэмарк), 3 – менавіта мастацкую літаратуру. Дык вось, час імклі-ва змяняе формы нашага існавання, змяняецца і літаратура: адыходзіць яе выхаваўчая роля, яна, магчыма, набудзе новыя якасці, можа, жорсткую класавасць – будзе літаратура асобная для эліты і для мас, ва ўсякім разе гэты працэс, мяркую, ужо пачаўся. Магчыма, увогуле канчаткова пераможа відэакультура, што адзначыў, напрыклад, і Васіль Быкаў у інтэрв'ю "Народнай Волі" (23 траўня 1999 г.). У сувязі з гэтымі тэндэнцыямі, як ты, яшчэ малады па ўзросце празаік, бачыш сябе ў літаратурнай будучыні? Ці не ўзнікаюць часам думкі перайсці з пункта 2 (па Хакслі) у пункт 3 і г.д.?**

**А.Ж.:** Літаратура і сапраўды выконвае розныя функцыі ў грамадстве, а грамадская сукупнасць разнародная, стракатая. Думаю, што на сённяшні дзень чытачы ўжо крыху здаволіліся рознай там "забароненай", "пікантнай" прадукцыяй. Можна па-рознаму называць усю гэту кніжную пену. Там, дзе ёсць хвалі, пена заўсёды будзе, і будуць "трэскі на хвалях". Сёння ўжо новаму нуварышу-мешчаніну хочацца чаго-небудзь больш прыстойнага, чым "чарнуха", такога кішэньковага, накшталт "мыльных" серыялаў, але каб мыла прыемна пахла. Знойдуцца выканаўцы і на такі сацыяльны заказ...

Ніколі не спрабаваў падводзіць "тэарэтычную базу" пад сваю творчасць, не задумваўся, у якім яна пункце згодна твайго пытання зараз, у якім будзе. «Каждый пишет, что он слышит, каждый слышит, как он дышит, как он дышит, так и пишет, не стараясь угодить». Цалкам падтрымліваю гэтае крэда Булата Акуджавы. А форма, няхай і самая экстравагантная, мяне ніколі не бянтэжыла, абы яна працавала на існасць. У маім старамодным разуменні літаратура – гэта служэнне самым высокім, нябесным, калі хочаце, ідэалам, яна для мяне адзіны спосаб існавання, а не сродак для існавання. Можа, залішне патэтычна сказалася, але словы не вінаватыя, што яны часам сціраюцца ад залішняга ўжывання дарэчы і недарэчы.

**Ю.С.: Добрыя словы, мне падабаюцца. І ніякай тут асаблівай патэтыкі няма. Спосаб, а не сродак... Вось днямі адзін былы бізнесмен, які хоча стаць пісьменнікам, кажа: "Якая ў вашым свеце гале-**

 



**ча...” А раней паважаны мной Уладзімір Дамашэвіч неяк з горыччу выказаўся: “У нас, Юры, жыццё страшнае”... І тут ён меў на ўвазе, нэўна, не толькі матэрыяльны бок існавання...**

**А.Ж.:** Несумненна, Уладзімір Дамашэвіч у словы “страшнае жыццё” ўкладваў не матэрыяльны бок нашага жыцця. Хаця б адна са складовых гэтага “страшнае” – тое, што сёння стала не сорамна, а нават і за гонар лічыцца сказаць, ды не толькі сказаць, але і на справе “даказаць”, зрэзаўшы ганарары, прышчаміўшы выдавецтвы, згарнуўшы кнігагандаль, а зараз і да часопісаў дабіраючыся. І нягледзячы на гэта, усё той жа самы бізнесмен імкнецца ў літаратуру, у галечу, каб застацца калі не ў вечнасці, то ў часе. Значыць, ёсць у беларускім слове яшчэ сіла і будучыня, хочацца спадзявацца.

У самай вялікай кнізе чалавецтва – Бібліі – сказана, што напачатку было Слова. Выходзіць, пакуль будзе чалавек, датуль будзе і слова, а калі чалавек трансфармуецца ў нейкую іншую істоту, то, магчыма, яна створыць і іншы сродак камунікацыі, пра які мы сёння і здагадвацца не можам. Прадраканні ж наконт скону слова нагадваюць прароцтвы пра канец свету.

Працы з яго вялікасцю Словам хопіць не толькі на наш век, а і многім, многім пакаленням. Дай Божа паспець зрабіць тое, што задумана і хочацца.

**Ю.С.: Неяк у думках адзначыў я цікавую для псіхааналітыка дэталь: беларусы ў большасці сваёй любяць армію і служыць любяць, форму любяць армейскую і г.д. Колькі нашага чалавечага матэрыялу расплылося, апранутага ў тую ж форму, па бяскрайніх расійскіх прасторах, і колькі жанчын-беларусак з’ехалі адсюль з чужынцамі ў форме... Што гэта – жаноцкасць нацыі, якая хоча неяк сцвердзіць сябе? А салдаты ж у нас неблагія – хіба не так? Я гэта вяду да матыву зброі ў тваіх творах. Тут і “партызанка” (некалькі апавяданняў), і аповесць “Зоркі над палігонам”. Ты служыў камузвода і напісаў даволі праўдзівую на той час аповесць, так. Але вось зараз, праз гады, што ты можаш сказаць пра армію і ці апісаў бы яе так, як у тых жа “Зорках...”? Вялічкаў жа ў арміі процьма і менш не**



 

**стала, а Карповічаў адзінкі, і... усё-ткі служыць яму, Карповічу, падабаецца – хіба не парадокс?**

**А.Ж.:** Не думаю, што ў любові да формы ў беларусаў праяўляецца нейкая "жаноцкасць". Форму насілі ў свой час і гімназісты, і студэнты, і чыгуначнікі, і чыноўнікі... І тая форма надавала беларусу адчуванне, што ён перастаў быць "хамам", "быдлам", адным словам – выбіўся ў людзі. Інстынкт, відаць, застаўся. Армейская ж служба – цяжкая работа, а беларусу да яе не трэба прывыкаць.

Што датычыць зброі. У "партызанцы", у час супрацьстаяння, то там спрацоўвае "закон зброі" – яна павінна прынесці смерць, забіць ворага. Не кожны здольны вытрымаць выпрабаванне зброяй. У каго зброя можа ператварыць чалавека, я пісаў у аповесці "Чыгун", у апавяданнях пра вайну.

"Зоркі над палігонам" пісаліся і пра іншы час, і пра іншыя ўмовы. Я не спрабаваў у аповесці вырашаць праблемы арміі. Ты маеш рацыю – у той час гэта было проста немагчыма. Скажу, што тады і "бээмпэшку" нельга было называць БМП, яна яшчэ ішла пад грыфам "сакрэтна". Нашы салдаты не хадзілі з рыдлёўкамі, а мы, афіцэры, не стаялі над імі паганятымі. Мы вучылі БМП хадзіць на маршы, плаваць, страляць. Таму і хацелася мне напісаць пра гэтую сапраўдную мужчынскую цяжкую і часам небяспечную работу, пра рамантыку вайсковай службы, а яна была, ёсць і будзе. Магчыма, не да канца мне гэта ўдалося, а стваральнікі двухсерыйнага фільма "Палігон" па матывах аповесці і наогул узялі іншы ракурс. А шкада.

**Ю.С.: Вось бачыш, відэакультура што робіць. Аповесць твая (я яе летась перачытаў) мяне кранула: шчырасцю прыхаванай, можа, нечым іншым, а фільм... Тут ты маеш рацыю. Чаму ў нас ёсць літаратура, а кіно няма? Што яны з Караткевічавымі творамі зрабілі? Назваў неяк наша кіно "мулам" – ні канём, ні аслом... Віск пачаўся...**

**А.Ж.:** Бяда нашага кіно – у адсутнасці прафесійных кадраў. Адзінкі, якія працуюць, нічога не могуць рашыць, ды і тыя ў прастоі з-за адсутнасці фінансавання. Што датычыцца беларускага кіно,

то я на яго і не крыўдую, даўно люблю паўтараць фразу: “Ну што ты хочаш – кіно!”

**Ю.С.: Ты паказаў сябе ў сваіх творах “Паляванне на Апошняга Жураўля”, цыкле “Праклятая любоў” і г.д. тонкім псіхолагам. І псіхолагам менавіта беларуса. Бо ёсць жа ў нас пісьменнікі з небеларускай, да слова, ментальнасцю, якія падсвядома апісваюць польскі хутар ці рускую “общину”. Вось Чорны, Гарэцкі, Багдановіч, Караткевіч – былі менавіта беларускімі пісьменнікамі. І яны стварылі лепшае ў літаратуры...**

**А.Ж.:** Дзякуй, Юра, за добрыя словы. А што датычыць “хутара” ці “общины”, то калі пра іх напісана таленавіта – на здароўе, вядома ж, што не трэба выдаваць гэта за беларускую вёску. Хаця і яна ў адпаведнасці з рэгіёнамі не аднолькавая, адсюль і псіхалогія розная.

**Ю.С.: Мне заўсёды цікава: што любіць той ці іншы пісьменнік у літаратуры? У суседзяў, у свеце? Вось ты, напрыклад?**

**А.Ж.:** Усё, што сапраўды таленавітае і па-майстэрску зроблена.

**Ю.С.: І, можа, апошняе. Наша існаванне трагічнае. Але існаваць трэба. І мне падабаецца твой “стаічны песімізм”, скажам так. Чалавек, які змагаецца і, хаця і атрымлівае “шэрань”, а ўсё ж змагаецца: хіба не мадэль гэта нашага “варушэння” у варожым Космасе?**

**А.Ж.:** Я гаварыў бы не пра “існаванне”, а пра “жыццё”. Таму што жыццё чалавечае – рэч трагічная, бо мае свой пачатак і свой канец, гэтак жа, як і аграмадзіны Галактыкі. І жыццё чалавека, няхай і “варушэнне”, а было, ёсць і будзе змаганнем з тым жа Космасам. Кожнаму трэба мець мужнасць, каб прайсці свой шлях да канца праз усё з простай чалавечай годнасцю.

**Ю.С.: Што ж, дзякуй за гутарку.**

Алесь ЖУК

# ЛАКНЕЯ

## (З кнігі прозы “Па дарозе дадому”)

З самага дзяцінства зайздросціў і зайздрошчу тым, хто нарадзіўся і вырас пры вадзе: пры рацэ ці пры возеры. Рэчка была забрана ў нас на самым пачатку дзяцінства, і магу толькі ўспомніць, як яна памірала і яшчэ некалькі гадоў цешыла нас, дзяцей, сваёй ужо сыходзячай вадой.

...Купіны былі высокія, у мой дзіцячы рост. Між імі вялі мяне ў шчаўе на другі бок рэчкі старэйшыя дзяўчаткі-сваячкі. І самым страшным на купінах былі жабы, якія, вядома ж, скакалі прэч ад людзей, але мне здавалася, што яны вось-вось кінуцца на мяне. І другое запомнілася: кладка цераз шыракаватую канаву, поўную чорнай, як дзёгаць, вадою, імклівую і страшную. Тут ужо прайшлі па рацэ сталёвымі каўшамі экскаватары.

Пазней, калі адступіла вільгаць і куп'ё пачалі зносіць, распрацоўваць поле магутныя трактары з вялікімі плугамі-балотнікамі, на ім паўсталі, як нейкі чортавы лес, выдраныя з торфу карчы магутных дрэў. Карчы стаялі амаль цэлае лета, сохлі, а потым палявая вёска пілавала іх, вазіла дадому і калола на дровы: рабіла запас на некалькі гадоў. Паспрабуйце распілаваць высахлы балотны корч пілой-двуручкай і пакалоць яго на дровы!

# Ты

...Яшчэ адзін урывачак з тае дзіцячае памяці. Калі экскаватары спрамлялі рэчышча, падымалі тарфяную каламуту, вёска як магла цягала дадому рыбу. Яе было багата, рознае, але ў памяці застаўся шэры нейкі, вялізны, як бервяно, шчупак, які не ўмяшчаўся ў ночвы, і, як мне здавалася, яшчэ паварушваў хвастом. Не толькі дзеці, але і дарослыя прыходзілі паглядзець на таго шчупака.

Ад былое прыгажуні-пятлянкі, якая трымала пойму амаль у два кіламетры, з берагамі, парослымі ракітнікам, аерам, асакою, ад усёй гэтай прыгажосці засталася толькі глыбокая чорная канава ды па берагах яе кучы торфу, перамешанага з глеем. Пра былую рачную прыгажосць нагадвалі толькі ацалелыя лукі-старыцы. Адна з іх, самая вялікая і глыбокая – дзве звязаныя насілы не даставалі дна – яшчэ пры жыцці ракі мела сваю назву –Конскае, бо там купалі коней.

Але рэчка не хацела змірыцца са смерцю. Пра гэта яна дала зразумець першаю ж вясною. Зімы тады былі і доўгія, і марозныя, і снежныя. Нашу палявую вёсачку замятала амаль па стрэхі, а таму, калі прыгравала сонца, ды яшчэ дружнае, моцнае, каб вада не затоплівала падворкі і пабудовы, на вуліцы ў гурах капалі траншэі амаль у чалавечы рост. Не толькі з нашае вёскі, але і з палёў абапал даліны вада ведала адну сваю дарогу – да рэчкі. У гэтую пару нас, дзяцей, утрымаць дома было немагчыма.

Тут неабходна тлумачэнне. Цераз рэчку ў свой час быў пабудаваны моцны драўляны мост, па якім праходзіла чыгуначная ветка-вузкакалейка ад Слуцка да Канюхоў, у якіх да вайны стаяў кавалерыйскі поўк. Таму і падсыпку дарогі ў пойме зрабілі высокую, каб руху не перашкаджала нават самая высокая паводка. Ад вузкакалейкі пасля вайны застаўся толькі гэты высокі насып, у якім ва-

ляліся іржавыя кастылі. Рэйкі і шпалы надта ж добра ішлі ў наваколлі на перакрыцці паграбоў, якія ў нас рабілі глыбокія і дабротныя.

Дык вось па гэтым былым чыгуначным насыпе можна было дайсці да моста і адтуль назіраць, як пачынаўся крыгалом, як грувасціліся, паўставалі на дыбкі крыгі і рыхталіся ісці на прарыў на мост, бо пойма ўжо была заліта вадою і ёй патрэбен быў выхад.

Яшчэ адна акалічнасць: мост не меў цяпер тае даваеннае моцы і трываласці, каб вытрымаць ледаход, ды і ледаходы былі не такія нахабныя, як цяпер, пры спрамленым рэчышчы. Па́лі ў мосце падпілавалі ў пачатку вайны вайсковыя мужчыны для таго, каб не прайшлі нямецкія танкі і танкеткі, каб можна было праехаць толькі на падводзе. У палявую глухую вёсачку ні танкі, ні танкеткі ехаць не збіраліся, паліцыя наязджала на падводах і пастаўкі для вялікага рэйху збірала пунктуальна. Падпілаваныя вярхі паляў пасля вайны давялося выкінуць, мост апусціць ніжэй. Пасля гэтай калгаснае рэканструкцыі мост перастаў вытрымліваць паводкі.

Дзея штогод адбывалася па адным сцэнарыі. Усё мацней і мацней прыгравала сонца. Ад яго станавілася горача ў плечы нават праз куфайку, слеплі вочы ад белізны падталага снегу. Усё болей і болей збіралася крыг перад мостам, усё пагрозлівей гула вада між паляў. І стаяць на мосце, які пачынаў уздрыгваць і пахіствацца, болей ахвотнікаў не знаходзілася.

Для нас, хлапчукоў, было самае крыўднае і недаравальнае прапусціць галоўны момант – калі ў ледзяны затор, быццам таран, ударае вялікая крыга. Пасля гэтага ўся ледзяная грамада ўздрыгвала і паціху, амаль непрыкметна пачынала рухацца. І вось мост уздрыгваў, здавалася, лёгенька падымаўся ўверх, сыходзіў з месца, нейкі час плыў паперадзе крыг, потым павольі саступаў дарогу і

пачынаў дрэйфаваць па пойме, як паром з парэнчамі. Потым ён прыбіваўся да берага. Яго мужчыны на вяроўках прыводзілі да свайго месца, і там ён, прывязаны, чакаў, пакуль не спадзе вада. Раставаў тоўсты пачарнелы слой зімовага лёду, дрэва абсыхала. Потым мост разбіралі і клалі на сваё месца. На час паводкі вёска была адрэзана ад цэнтра калгаса, а мы, вучні, на вялікую радасць – ад школы.

Увесь гэты час мы прападалі на рэчцы. Старэйшыя і больш адчайныя хлопцы каталіся на крыгах. Ускоквалі на іх з доўгімі кіямі і ўмудраліся прыстаць да берага. На шчасце, гэтыя адчайныя гульні заканчваліся добра. Калі вада спадала, у пойме, на берагах, як вялікія рыбіны, чарнелі і доўга раставалі крыгі.

Ці не ў апошні раз, бо з кожным годам сіла паводкі слабела, рэчка падманула многіх. Можа таму, што дзень той быў з на дзіва зыркім сонцам. Мы гуртам ішлі дадому са школы ў расшпіленых куфайках, з аблавушкамі ў руках. Яшчэ з узгорка, з курганоў, мы ўзгледзелі нечаканае: моста не было на месцы, ён ужо падарожнічаў па вадзе. На дарозе на адным і другім беразе тоўпіліся людзі. Там адбывалася штосьці незвычайнае, чаго не здаралася раней. Тут ужо нам стала не да настаўніцы Марыі Антонаўны, якая вярталася са школы разам з намі. Хлапчукоўская чарада пырхнула да моста.

Там працавала пераправа. На змураваных лёдам плахах, якія адарваліся ад моста, стаяў Коля Мікалайчыкаў, самы адчайны "наезнік" на крыгах. У аблавушцы набакір, у расшпіленай куфайцы, у кірзавых ботах з абкасанымі халявамі ён кіраваў пераправаю. З аднаго і з другога боку самадзейны плыт навязалі на вяроўкі, цераз бурлівы паток перавінулі для страхоўкі вужышчы.

Дасюль помню не столькі каламутнасць вады, не

лёгкі халадок пад сэрцам, пакуль пераплывалі тых пару дзесяткаў метраў. У памяці застаўся глухі патаемны, глыбінны гул з-пад плыта, гул *адтуль*, з нягэтага свету.

І тым не меней нам, ужо перапраўленым, было весела ад таго, што наша Марыя Антонаўна ў сваім доўгім, амаль да пят, прыталеным зімовым паліто стаяла на плыце на чацвярэньках, трымаючы ў руцэ абшарпаны партфель з нашымі двойкамі ў сшытках. Яе перавозілі адну, і ўсё б было яшчэ нічога, каб Марыя Антонаўна ад страху не вухкала: "Вух! Вух! Вух!" Калі ж плыцік ткнуўся ў бераг, яна наўздзіў спрытна сіганула на бераг, быццам нешта адчуўшы. Нават вопытны "мараплаўца" Коля не паспеў адрэагаваць – па пояс апынуўся ў вадзе, і яго за вяроўку выхапілі на бераг. Ад лёгенькага ўдару ў бераг плыт раптоўна рассыпаўся на асобныя плахі і кавалкі пачарнелага, за зіму тоўста натоптанага конскімі капытамі і наезджанага санямі лёду. Рассыпаныя веерам плахі падхапіла плынь, і яны лёгка паімчалі паперадзе крыгі, якая пайшла за імі, быццам уцякаючы ад яе.

Рака не ўзяла з людзей смяротную даніну. Яшчэ гады са тры яна спрабавала бунтаваць, падымала лёд, але паламаць яго і пусціць крыгамі неставала сілы. Больш не было ледаходу, не залівалася талаю вадою пойма. Вада спадала, і лёд, які не стаў крыгамі, доўга яшчэ канаў на берагах пад сонцам цяпер ужо і сапраўды не ракі, а меліярацыйнага магістральнага канала.

Першыя гады пасля меліярацыі людзі ўвіхаліся, быццам стараліся апраўдаць знішчэнне рэчкі. Вялікімі балотнымі плугамі рэзалі канавы ў пойме, падымалі плугамі пойменныя лугі, секлі дзёран культыватарамі. На меліяраваных палях адпаведна разнарадцы з раёна сеялі і садзілі. Трэба была дзяржаве гума – новыя палі ўсці-

лаў нетутэйшы кок-сагыз, над якім пакутавалі, стоячы на каленках, вясковыя жанчыны, каб ён не зарос пустазеллем, якое любіла тарфянікі і раскашавала на іх, асабліва драсён і асот. Давалі ўстаноўку засыпаць краіну пшаном – і проса густа мяцелілася па ўсёй пойме. Потым патрэбна была пянька, і ўся рачная даліна ператваралася ў канапляныя джунглі, ад чаду якіх пакутавалі навакольныя вёскі. Каноплі раслі густыя, высозныя, як лес, і ў іх хаваліся ваўкі.

Сярод усяе гэтае ўзаранае чарнаты, як жывыя блакітныя вочы, па ўсёй пойме глядзелі ў чыстае неба ацалелыя рачныя старыцы. Выгнутыя сярпом, захінутыя аерам, кіяшнікам, сітнягом, з кусцікамі жоўтае мяккае лазы, старыцы працягвалі жыць.

Імі на развітанне рэчка цешыла малечу ўсіх вёсак, якія на працягу дзесяткаў кіламетраў туліліся да рачное даліны то з аднаго, то з другога боку. Па адной, а то і па дзве старыцы было насупраць кожнае вёскі. Наша дзяцінства ўлетку праходзіла ля іх.

Вада ў старыцах была цёплая, як луг, чуць рыжаватая, пахла аерам і асакою. На старыцах большыя хлапчукі вучылі плаваць малечу сваім спосабам: бралі і кідалі з берага ў ваду. Адзін з іх стаяў у вадзе і страхаваў. Калі будучы плывец наглытваўся вады, яго выкідвалі на бераг, каб аддыхаўся і адпляваўся. Потым заход паўтараўся, і так да таго часу, пакуль небарака, задраўшы галаву, каб не хлябаць вады, малоцячы рукамі і нагамі з усяе сілы, не пачынаў плысці "па-сабачы". Далей ужо плывец самастойна асвойваў навуку.

Той сонечны спякотны дзень застаўся ў памяці. І адзінокая белая аблачынка на небе, быццам вялікае пяро з белае гускі, якое павісла ў чыстым небе. Не ведаю, ці то зазяваўся страхоўшчык, ці то я сам залішне хлебануў вады, але паспеў яшчэ адчуць, як яна мякка і няўмольна

сышлася над галавою. Здалося, што я нема закрычаў перад правалам у чорную мокрую прорву.

...Белая аблачынка-пяро найперш выплыла ў вачах, калі я ачнуўся на беразе, не разумеючы, чаму ляжу, чаму прыціхла насцярожана хлапчукоўская чарада. Мабыць, не толькі мне, але і маім трэнерам прыпомнілася мінулагодняя смерць марачка, які прыехаў дадому на пабыўку ў суседнюю вёску. Купаўся ён не ў такой, як наша, маленькай і бяскрыўднай старыцы, а на самой Конскай, куды нам было забаронена хадзіць. Ды, здаецца, пасля смерці марачка і дарослыя пазбягалі купацца ў Конскай. Але не глыбіня забрала марачка, а яго бяздумнасць, жаданне пафарсіць, паказаць сябе. З разгону нырнуў з берага каб чым глыбей, не ведаючы, што ў старыцы ў вадзе паўз берагі тырчалі карчы. У адзін з іх галавою і патрапіў марачок. Гэта ж трэба было заслужыць пабыўку, прыехаць дадому, каб утапіцца не ў вялікім моры, а ў вадзяной слязінцы ў параўнанні з ім.

Смерць ідзе па чалавека, ці сам чалавек да свае смерці? І нехта нябачны вядзе яго да гэтага шляхамі, якія і сасніцца не могуць.

Згадка пра марачка напаткала і мяне за тысячу кіламетраў ад Случчыны, на другім баку планеты, на Кубе. Туды была накіравана дэлегацыя, каб мацаваць дружбу з пабрацімнаю правінцыяй Камагуэй. Нават і калгас, ці, па-кубінску, сельгаспрадпрыемства, было ў той правінцыі пабрацімнае з нашым калгасам. Па мерках таго часу ў дэлегацыю ўваходзіла артыстычная група, прадстаўнікі інтэлігенцыі, рабочага класа. Маладому столяру Івану пашанцавала як перадавіку ў працы трапіць у дэлегацыю, пабачыць тую Кубу, пра якую па радыё амаль кожны дзень гучала папулярная песня “Куба – любовь моя”.

Вядома ж, савецкай дэлегацыі трэба было паказаць

дасягненні. Таму маршрут пралягаў праз буйнейшы на Кубе рыбкамбінат, з якога, ахалоджаныя ў лёдзе, ішлі на экспарт зарабляць валюту акіянскія ракі – лангусты. Нас пачаставалі імі ў камбінатаўскай сталоўцы. І арганізавалі прагулку ў акіян на спецыяльным караблiку. Па кубінскіх мерках прагулка была раскошная не толькі ад сонечнасці, ад акіянскае сінечы, якая лёгкімі хвалямі штурхалася ў дно няспешанага караблiка. Уся экзатычнасць і незвычайнасць прагулкі была ў тым, што за некалькі кіламетраў ад берага з акіянскага дна ўставалі паўразбураныя вапняковыя горы, і там можна было сысці з караблiка і паплаваць сярод акіяну, не баючыся агрэсіўных акіянскіх насельнікаў, якія не любяць малое глыбіні. Весела было нам, гасцям, весела было і гаспадарам, бо ў ёмкасцях з лёдам ляжала ахалоджанае піва – для кубінцаў дарагое і нячастае задавальненне. Звонка смяяліся жанчыны – і нашы, і кубінкі, загарэлыя, шакаладныя. У нашым мужчынскім гурце чамусьці загаварылі пра тое, як небяспечна купацца ў незнаёмай вадзе.

І вось тады нечакана загаварыў Іван, звычайна маўклівы, усмешлівы ў свае пшанічныя вусікі, якія былі яму да твару. Высокі, шырокі ў касці, з вялікімі натруджанымі рукамі, якія ён у інтурыстаўскіх рэстаранах, беласнежных настольнікамі, нібы саромеючыся, клаў на калені. Іван расказваў пра *таго* марачка, які прыехаў на пабыўку, пайшоў купацца і нырнуў. Аказваецца, гэты малады мужчына быў мой сусед па рацэ, з недалёкае вёскі Падліпцы, і мне захацелася пазнаёміцца з ім бліжэй. Але гэта не было суджана.

Караблiк спыніўся, белазубыя хлопцы-кубінцы смела саскочылі ў акіян, які ім быў тут толькі па пояс. З борта прагулачніка апусцілі трап-лесвіцу, каб маглі сысці ў ваду і жанчыны. І яны гаманліваю гусінаю чародкаю сыпанулі ў ваду. Мужчыны не спяшалі. І толькі Іван

весела, каб папалохаць жанчын, сігануў з нізкага борта ў ваду. Жанчыны з крыкамі кінуліся ў бакі, але Іван не вынырнуў, не стаў на ногі. З палубы было відаць, як падняла яго шчыльная акіянская вада, нежыццёва павіслага ўніз галавою. Разгубіліся хлопцы-кубінцы, якім належала клапаціцца пра нас, замоўклі жанчыны, нібыта халодным ветрам пацягнула ў гэты спякотны кубінскі поўдзень.

Пасля Іван, нечакана бледны, нерухома ляжаў на нейкім шчыце, знойдзеным на караблiку. Ён не страціў прытомнасць, але і не мог нічога сказаць, глядзеў блакітнымі, раптам такімі глыбокімі вачыма ў чужое неба, у якім не было ніводнай аблачынкі. Што яму ўспаміналася? Маленькая дачушка, родная вёска, змялелая і збяднелая рэчка-пакаленка, у якой любіў гуляць дзіцем? Пра гэта ён ніколі нікому не раскажа. Яго прааперыруюць нашы савецкія нейрахірургі ў кубінскім шпіталі, але ўсё марна...

Недарэмна спрадвеку вёскі туліліся да рачное даліны. Рэчка дапамагала ім жыць. Цяпер выпрамленая, з асушанаю поймаю, яна пазбавіла палявікоў патрэбы ездзіць у лес па дровы за дзесяткі кіламетраў.

Насупраць кожнае вёскі калгасам былі выдзелены ўчасткі пад тарфяныя кар’еры. Колькі і якое работы ні перарабіла вёска! І гэтым кар’ерам была рада. Каб не займаць лішняй плошчы, было за гонар узяць з кар’ера чым паболей штыхоў – адзінаццаць і болей. Гэта залежала ад таго, як пойдзе ў кар’ер вада, болей чым двухмятровай глыбіні. У кар’ерах нават і ў спякотны поўдзень было холадна, церпка пахла торфам, нейкім глыбінным нутраным балотным духам. Мокры торф чвякаў пад нагамі, тлуста і чорна блішчалі выразаныя тарфіны. Звычайна жанчыны і дзеці разносілі іх і складвалі

ў клеткі на ўчастку на сушку. Торф потым давядзецца яшчэ не раз перакладваць, пераварочваць. Затое зімою ад яго цяпла – не раўня дровам.

Не шанцавала таму, каму ў кар'еры трапляўся корч. Мяккі, жоўты, набрынялы вадою, ён лёгка рэзаўся, але ж, вядома, тарфіна з яго не атрымоўвалася. Нашы з суседзямі ўчасткі былі нешчаслівыя: болей дзесяці рэзакоў углыб узяць не выходзіла. Далей рэзалася дрэва, на два рэзакі ў глыбіню.

Калі ўпершыню натрапілі на гэты драўляны пласт пад паўтарамятровым слоем торфу, мужчыны сабраліся ля кар'ера, курылі самакруткі і разважалі: хто і калі вымасціў тую гаць цераз балота, каму і навошта трэба было перабрацца цераз рэчку на высокі бераг? І міжволі пазіралі на курган, які звалі Вялікім. Ён з адзінокаю бярозкаю наверсе панаваў над усім наваколлем. Збоч яго горбіліся, парослыя маладзенькім бярэзнікам, малыя курганы. Хадзілі чуткі, што ў Вялікім кургане закапана залатая карэта, гаварылі, што курганішча гэта шведскае. Курганы паціху раскопвалі на каменне для паграбоў. Потым і да Вялікага кургана дабраўся калгасны старшыня: падагнаў экскаватар, самазвалы, скапаў Вялікі курган, высыпаў пяском з яго гравійку ад цэнтральнае сядзібы да канторы. На астатнія курганы паціху наехалі дзве свінафермы.

Цяпер і следу не засталося ад былога курганішча, толькі купка ўжо дарослых каструбаватых бяроз пры свінарніках ды чорны, пастаянна атрутны ручаёк ад іх у рэчку, які ніколі не перасыхае. Не засталося следу і ад тарфяных кар'ераў, яны зраўняліся з зямлёю. На памяць аб іх мне засталося здабытае некалі пры капанні торфу чорнае каменнае ручное зубіла даўняга продка, які калісьці-калісьці жыў над маёй рэчкаю, якую пасля людзі назвалі ласкавым словам Лакнея, магчыма, за тое, што яна, прабі-

раючыся з Гальскага балота цераз насунутую ледніком Капыльскую граду на Слуцкую раўніну, сваімі лукамі, быццам локцямі, пракладала сабе дарогу.

Сёння над Лакнеяй пануе цішыня. Крутыя яе берагі апусціліся да ўзроўню вады, якая цурчыць нешырокай плыткай плынню між сітнягу, плюшніку, асакі, вычэсвае доўгія грывы зялёных водарасцяў, як і належыць сапраўднай рэчцы. Сям-там над вадою нахіляюцца лазнякі. Абапал рэчкі ляжаць роўныя, акультураныя калектары-палі, на якіх расце трава-сеянка.

Што адчувала і думала рэчка, калі яе паклалі ў магістральны канал, выпрасталі, як чалавека на смерць? Хутчэй за ўсё ёй успаміналася. Згадваліся затуманеныя карцінкі: асака, чорная балотная прорва пад дрыгвою, кволенькая тоненькая нітачка жывое, цякучае, а не стаячае вады. На гэтую нітачку багна наплывала, заціскала з абодвух бакоў гэтак, што струменьчыку даводзілася ныраць пад яе, каб прабіваць дарогу далей. Па дарозе струменьчыка да яго з бакоў далучаліся яшчэ меншыя, і той нарэшце змог расхінуць багну, паплыў адкрыта, адлюстроўваючы ў сабе ноччу зоркі, пасля золкіх туманных раніц саграваючыся на сонцы. З усяго наваколля спяшалася да ручая жывая вада, збіраючыся ў адну моц. Вада, вырваўшыся на волю, пачала церабіць сабе дарогу далей у пошуках яшчэ большай вады, якая мкне некуды ў далёкую і такую заманлівую невядомасць. З'явілася адчуванне сілы і ўпэўненасці. Дарэмна дарогу заступалі дрымучыя, цёмныя і страшныя сваёй цёмнаю сілаю лясы. Яны клалі папярок шляху векавыя магутныя дрэвы, абманвалі, заблытвалі ў гушчары. Тады жывая вада балаціла зямлю, абыходзячы перашкоду то з аднаго, то з другога боку. І гэтак з году ў год, стагоддзе ў стагоддзе ў ложы даліны, якое

адолець не можа ніводная рака. І калі ўжо стамілася была жывая вада, на дапамогу нечакана з правае рукі прыйшоў незнаёмы струмень, які браў свой пачатак з крыніц, што білі з берага рачное даліны. Гэтак рачулка Вужанка сустрэлася з Лакнеяй, якая для яе была вялікаю вадою. Яна аддалася ёй, і далей у дарозе не было ўжо Вужанкі, была толькі годная Лакнея, якую на шляху да вялікае вады чакала Случ, а Случ чакала аж за сотні кіламетраў Прыпяць... Тады рэчкі не ведалі сваіх назваў. Іх потым дасць ім чалавек. Яны былі проста жывою вадою. Але і вада мае сваю памяць, памяць свайго пачатку, якая потым пераходзіць у памяць шляху, вечнага, пакутлівага, але няўмольнага шляху наперад, напоўненага асалодаю і горыччу руху, нястомнае працы.

Рэчку на сённяшні дзень не трывожаць. Спяць, дасынаюць свае сны абапал даліны прыціхлыя і заціхлыя вёскі, у якіх толькі летам, калі пара канікулаў, звіняць дзіцячыя галасы. Тады зрэдку дабіраюцца дзеці і да Лакнеі, пабоўтацца ў вадзе з кашамі, палавіць шустрых верхаводак і пячкурыкаў.

Чалавек, быццам замольваючы сваю віну, працягвае называць Лакнею рэчкаю, нават уключае яе ў разумныя кнігі – энцыклапедыі, і ў такую, якой назва “Блакітная кніга Беларусі”.

“Лакнея, рака ў Капыльскім і Слуцкім р-нах, правы прыток р. Случы (бас. Прыпяці). Даўжыня 36 км. Пл. вадазбору 274 км$^2$. Сярэднегадавы расход вады ў вусці 1,2 м$^3$/с. Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,5%. Пачынаецца каля паўднёвай ускраіны в.Сунаі Капыльскага р-на, вусце за 3 км. на Пд. ад г. Слуцк. Асноўны прыток – р. Вужанка (справа). Цячэ ў межах Слуцкай раўніны. Даліна добра выражана, слабазвілістая, пераважна трапе-

цападобная, шырынёй 1—1,5 км. Рэчышча каналізавана, яго шырыня 4—7 м."

Вось і ўсё ад тае, чыё імя ўпершыню ўспамінаецца ў старадаўнім гістарычным запісе ў 1455 годзе: "Купити дворец… на Локнеи".

Перш чым ствараць чалавека – уладыку над усім створаным Богам светам, ён сам паклапаціўся, каб спачатку была і суша, і вада, каб зямля падняла зеляніну і дрэвы, каб вада нарадзіла рыбін, і жывёлін, і птушак, і каб яны запоўнілі зямлю і ваду. І каб усё гэта было чалавеку на ўцеху, каб жыў ён у гармоніі з падараваным яму Богам шчасцем. Чаму ж тады чалавек ідзе насуперак Богу і нішчыць зямлю і ваду, птушку і звера? Да чаго ён прыйдзе? Зноў да пустыні? Хто ж тады выведзе чалавека з яе, які Бог пашле дапамогу?

Калі гляджу на блакітную карту свае зямлі, жахаецца душа. Усюды, там, дзе цяклі, пятлялі рэчкі, звіваліся і вывіваліся, прачэрчаны прамыя, як кінжалы, сінія лініі, якія злучаюцца ў такія ж самыя сінія краты меліярацыйных каналаў. Як уявіць жывым чалавека, якому ліхі хірург узяў і выпрастаў усе жыццяносныя сасудзікі і вены? Не выжыве чалавек. Як трывае і выжывае зямля?

Зусім нядаўна быццам спатыкнуўся ў сталічным мэблевым магазіне. На шыльдачцы над "мяккім кутком" вісела назва: "Лакнея". Даплыла і сюды, ва ўрбанізацыю.

Стаяў здзіўлены і ўражаны, і бачыў яе самую, якая цячэ праз усё маё жыццё і звязвае, зNітоўвае розныя жыццёвыя варункі ў адно, і думаў, што хутка буду ехаць дадому і ля невялікага бетоннага маста-шлюза кароткім аўтамабільным гудком прывітаю і памяну адну з многіх беларускіх рэчак з неразгаданай, ласкавай і такою назаўсёды роднаю назвай – Лакнея.

 

# Ты



**У пошуках адпаведнага,** незацяганага слова для таленавітага і прызнанага Алеся Жука маладзейшы калега Андрэй Федарэнка назваў яго восеньскім і журботным пісьменнікам. Але калі азірнуцца на ўсю нашу новую літаратуру, то ўся яна, ад Ядвігіна Ш. да Алеся Наварыча, калі не восеньская, дык журботна-трагічная паводле настрою і безнадзейна-тупіковая паводле сваіх матываў. Уся яна, за невялікімі выключэннямі новае плыні (А.Глобуса ды Ю.Станкевіча), як тая халодная птушка Алеся Жука, укрыжаваная на сценах сімвалічнай беларускай вясковай хаты, што выбудоўвалася калісьці на шчасце сабе і дзецям, але зараз парахнее пустой і нікому не патрэбнай...

*"Рукою схопішся за скронь*
*І – пахіснешся ненарокам,*
*Нібыта ўдарыў цябе конь*
*У полі вольным і шырокім.*

Навошта? Ведаеш жа ўжо, што не будзе ў тваім жыцці болей ніякага вольнага поля, як не было яго ў апошнія імгненні і ў паэтавым. У гэтым свеце дай Бог яшчэ хоць нейкі догляд у прапахлай казённым смуродам бальнічнай палаце.

Ды якіх коней і якой волі захацелася табе, чалавеча, у гарадскім дзіцячым парку, дзе сёння нават і ў выхадныя дні не ўгледзіш дзяцей, а выгульваюцца featureрознага росту і розных парод сабакі – ахова кватэрнага спакою і дабра? І сёння тут каралюе спустошаны сваёй пустой свабодаю чалавек, у саквояжы якога "штосьці" яшчэ ёсць, як увасабленне спасцігнутага шчасця і знак нашага часу".

Так напісаў Алесь Жук у апавяданні "Рукою схопішся за скронь...", пазначаным 1993 годам. Гэта быў год, які пісьменнік сустрэў



 

ушанаваны шматлікімі ўзнагародамі, прызнаннем літаратурнай крытыкі і чытачоў.

Адкуль жа гэты смутак, гэтае непрыдумана шчырае адчуванне марнасці, наканаванай бессэнсоўнасці лёсу, адкуль гэтая адсутнасць жаданняў і надзей і млявая пакорлівасць прадвызначанай долі?

Літаратуру нашага часу, магчыма, зусім і хутка даследчыкі назавуць мастацтвам схілку эпохі сацыялізму. І будуць падрабязна даследаваць, чаго хацелася ім, “пагарджаным век, ім сляпым глухім”, куды ішлі яны сваім жыццёвым вольным полем у ружовым (а некаторыя, можа, у чорным) тумане, як імкнуліся выказаць сябе і што хацелі сказаць далёкім нашчадкам.

Што ж хацеў сказаць гэтым нашчадкам Алесь Жук, і чаму ён не заўсёды гаварыў так, як хацеў, і не зусім тое, што хацеў?

Нават сёння, з невялікай часавай дыстанцыі, перачытваючы яго творы, многае бачыцца інакш і, застылае ў кантэксце таго часу, успрымаецца глыбей – як учарашні дзень, што стаўся падмуркам сённяшняга.

Алесь Жук прыйшоў у літаратуру напрыканцы 60-х гадоў, калі яшчэ можна было ўдыхнуць рэшткі адліжнага паветра і, набраўшы яго поўныя грудзі, захаваць крыху на часы смуроднага застою.

Яго называюць празаікам вясковай плыні, які даследаваў у сваёй творчасці найперш маральна-этычную праблематыку. І вясковая плынь, і маральна-этычныя пошукі былі ў 70—80-я гады, бадай, самымі моднымі і перспектыўнымі накірункамі тагачаснай прозы на ўсёй вялізнай шматнацыянальнай савецкай прасторы. Бездухоўнасць, прадажнасць і цынізм партыйна-савецкай наменклатуры праявіліся і ў тым, што ў сваіх грахах яна абвінавaціла ўсё тагачаснае грамадства. Паводле адпаведнага партыйнага заказу арганізоўваліся публіцыстычныя дыскусіі ў друку, з хітрай партыйнай падачы ствараліся шматлікія творы, дзе выкрывалася так званае “савецкае мяшчанства”, якое ад сытага ды бесклапотнага жыцця робіцца душэўна чэрствым і абыякавым да чужой бяды.

Сёння трывожыць толькі адна загадка: ці тыя разумныя і таленавітыя пісьменнікі, якія па-майстэрску тонка ды псіхалагічна дакладна выстаўлялі на дзённае святло спрадвечныя заганы чалавечай натуры маленькіх радавых грамадзян, сапраўды не заўважалі, што іх выкрывальніцкі пафас свядома скіроўваецца ў іншы бок, ці яны, цудоўна ўсведамляючы гэта, змушаныя былі ўдзельнічаць у ідэалагічна прадуманым фарсе?

Праўда, у імя аб'ектыўнасці трэба зазначыць, што хоць рыба і гніе з галавы, але пэўныя негатыўныя працэсы адбываліся і ў ніжэйшых пластах грамадства. Спажывецкая, драпежніцкая ідэалогія спараджалася найперш самой сістэмай, якая, выяўляючы на кожным кроку сваю пачварную антычалавечую сутнасць і знішчыўшы веру чалавека ў несмяротнасць душы, адбірала ў яго надзею на будучыню, пазбаўляла маральнай адказнасці перад найвышэйшым Судом.

Малады савецкі грамадзянін ужо на пачатку свайго жыццёвага шляху сутыкаўся з горкім расчараваннем і стратай ілюзій, у душы яго нараджалася абыякавасць ці цынізм, і ён з рабскай пакорлівасцю прымаў абставіны, наканаваныя яму лёсам.

Проза А.Жука і адлюстроўвае гэты складаны працэс "змірэння" з абставінамі ды пакорлівай, бяздумнай беларускай законапаслухмянасці, чым бы яна ні пагражала чалавеку і грамадству ў будучым. Адбываецца гэта ненавязліва і, можа быць, у нейкай ступені нават інтуітыўна, выяўляючы не столькі маральную дэградацыю абстрактнага чалавека, колькі пакутлівую, глыбінную эвалюцыю светапогляду самога аўтара, які ў росквіце творчых сіл адчуе і "пустую свабоду" і пажыццёвую адсутнасць "вольнага поля". І што самае дзіўнае – здаецца, пагодзіцца з тым, без пратэсту і абурэння, а толькі з горкім шкадаваннем.

У гэтым плане Алесь Жук – самы беларускі з усіх беларускіх пісьменнікаў.

Адно з самых ранніх апавяданняў А.Жука – "Багамолка" (1967) – самой сваёй назвай выклікае асацыяцыі з прозай М.Гарэцкага, трывожыць чаканнем незвычайнага павароту ў тэме і па сутнасці не апраўдвае ні сваёй назвы, ні чытацкіх спадзяванняў. Былы камандзір партызанскага атрада Міхасёнак прыязджае ў мясціны, дзе некалі партызаніў, каб "ачысціцца душой". Але былыя таварышы яго занятыя іншымі жыццёвымі клопатамі, і ён вяртаецца назад з пачуццём расчаравання. У аўтобусе ён сустракае нямую жанчыну – багамолку, у якой пазнае знаёмую з партызанскіх часоў. Калісьці яна за тое, што не выдала яго групу фашыстам, паплацілася сваім здароўем, анямела ад пабояў. Ужо дома з ліста сваіх таварышаў Міхасёнак дазнаецца, што адзін з яго падначаленых, якому ён некалі не дазволіў заступіцца за гэтую жанчыну, калі яе збівалі на іхніх вачах, памёр. І памёр ён ад пакутаў сумлення, баючыся сустрэцца і глянуць у вочы пакалечанай праз іх кабеце.

Такі быў сюжэт гэтага невялікага твора. Для нас ён цікавы тым,

што тут закрануты фрагмент негераічнай праўды пра апошнюю вайну, якую мы сёння балюча спазнаём праз творы В.Быкава, а яшчэ і тым, што тут пазначаюцца асноўныя рысы пісьменніцкай індывідуальнасці Алеся Жука, тое, пра што ён будзе гаварыць у пазнейшых сваіх творах.

Як выявіцца, гэта будзе слова пра недасканаласць, эгаістычнасць душы чалавечай, пра няздольнасць і нежаданне ахвяраваць сабой у імя іншага чалавека, пра адсутнасць любові і ўвагі да бліжняга.

З Міхасёнкам прыходзіць у прозу А.Жука герой памяркоўны, разумны і рэалістычна заземлены, які, аднак, здольны ўсведамляць сваю недасканаласць і нават трошкі пакутаваць ад яе. Сыты, задаволены сабой, эгаістычны мешчанін У.Маканіна ды Ю.Трыфанава ў прозе А.Жука набывае сваю нацыянальную адметнасць. Нягледзячы на ўсю сваю прагматычнасць і эгаізм, героі А.Жука ці то ў апавяданнях "Міш", "Сінія незямныя агні", ці то ў аповесцях "Такая восень", "Халодная птушка", "Праклятая любоў" – па-беларуску памяркоўныя і дабрадушныя. Ім далёка не абыякавая грамадская думка і ацэнка, яны яшчэ здольныя саромецца сваіх нядобрых учынкаў.

Як і большасць тагачасных савецкіх пісьменнікаў, А.Жук даследуе людскія характары на бытавым узроўні штодзённых міжчалавечых зносін, толькі ўскосна закранаючы праблемы сацыяльныя і грамадска-палітычныя.

Нюансы чалавечай душы пісьменнік імкнецца выявіць абавязкова ў канфліктнай сітуацыі. І, як мне здаецца, часам сабе на шкоду. Згадаю, напрыклад, славутае апавяданне "Міш", дзе створаны пластычныя запамінальныя вобразы герояў, бліскуча перададзена атмасфера прыродна-матэрыяльнага жыцця беларуса, колеры і пахі вёскі, звычаі і норавы яе люду. Але сцэна з нягеглымі танцамі вясковага няўдачніка Міша, якога выставіў на агульнае пасмешышча Бонусь, як і сам невыразны схематычны воблік гэтага Міша з яго журботна дакорлівым позіркам у канцы твора, – усё гэта выглядае штучна прыдуманым і трошкі дробязным.

Ёсць пэўны маральны, тыпова савецкі перакос і ў іншым знакамітым апавяданні пісьменніка пад назваю "Асеннія халады". Гэта гісторыя старой Антосіхі, якая мела двух сыноў: аднаго – партызана, а другога – паліцая. Вечарамі хлопцы сустракаліся ў матчынай хаце і спрачаліся адзін з другім, чыя ўлада лепшая. Напрыканцы вайны партызана застрэлілі, а паліцая засудзілі на дваццаць гадоў катаргі. Потым ён вярнуўся і застаўся жыць у родных мясцінах, але родная маці не пусціла яго на парог сваёй хаты. Чаму? Думаецца, таму, што аўтару

захацелася тут намаляваць вобраз "жалезнага" савецкага чалавека, які ў імя абстрактнага агульнага дабра здольны адмовіцца ад самога сябе, і нават пераадолець спрадвечныя прыродныя інстынкты.

Паслужлівая крытыка ледзь не захліпалася ад захаплення, цытуючы заключныя радкі апавядання, дзе веруючая, але прыкладная ва ўсіх іншых адносінах старая Антосіха, парваўшы са сваім палітычна нядобранадзейным сынам, ідзе асеннім вечарам насустрач ветру... "з вечнаю, як жыццё, мацярынскаю дабратою".

Менавіта гэтая ідэалагічна-тэндэнцыйная скіраванасць добра падпсавала твор маладога тады аўтара. З аднаго боку была тут грубая псіхалагічная неапраўданасць: ніводная нармальная (тым больш веруючая) жанчына не адмовіцца ад свайго дзіцяці, якім бы грэшным яно ні было, а з другога – тыпова савецкі цынізм, калі чалавек, не ўмеючы дараваць свайму роднаму сыну, сваёй мацярынскаю дабратой нібыта саграваe ўвесь свет.

Маральнае калецтва "жалезнага" савецкага чалавека, пачынаючы з Антосіхі, выявіцца і ў іншых так званых станоўчых героях А.Жука. І ў той жа Анэце з "Халоднай птушкі", і ў тым жа славутым Сцяпане Дзямідчыку з "Палявання на Апошняга Жураўля".

І ўсё ж А.Жук ніколі не быў сацыяльна заангажаваным пісьменнікам, нават у тых творах, дзе, здаецца, хацеў быць такім. Сацыяльныя канфлікты, што закранаюцца ім, – цьмяна і невыразна акцэнтаваныя, па-сутнасці недагавораныя. Нядаўна яны маглі захапляць сваёй смеласцю, сёння могуць часцей раздражняць павярхоўнасцю. Але самае важнае, што яны адступаюць на задні план перад іншым: псіхалагічнай адчувальнасцю і мастакоўскай назіральнасцю А.Жука, яго ўменнем перадаць гэта словам, перад тымі шматлікімі рэфлексійнымі філасофска-лірычнымі адступленнямі, у якіх праглядваецца чуйная, неадназначная і ўзвышаная душа мастака, а таксама перад засведчанай ва ўсіх творах глыбіннай настальгіяй па чалавечай душэўнай дасканаласці.

Пакуты, трывогі, згрызоты сумлення герояў А.Жука сведчаць не столькі аб тым, што душа беларуса яшчэ не зусім загінула, колькі аб тым, што гэтая душа пакутуе ў пошуках свайго апірышча, сваёй асновы. Душа гэтая прагне веры, якой у сярэднестатыстычнага беларуса тады не было і якая і сёння яшчэ не набыта.

Здаецца, Л.Паскаль сказаў, што пры адсутнасці веры ў Бога ў душы чалавека ствараецца вакуум, які нішто іншае не можа запоўніць. Наўрад ці думаў А.Жук, пішучы свае творы пра хрысціянства як пра аснову выратавання душы чалавечай. Але здаецца, што інтуітыў-

на, на ўзроўні падсвядомасці, гэты вакуум, гэтую пустату ў душы свайго сучасніка ён увесь час адчуваў і адлюстроўваў – у самых розных, нават супрацьлеглых праявах: ад глухой абыякавасці і сытага раўнадушша Васілёў Аляксеевічаў ды Шураў ("Такая восень") да безагляднай зацятасці і жалезнай правільнасці ў адстойванні свайго разумення дабра і справядлівасці (Анэта з "Халоднай птушкі" ці Дзямідчык Сцяпан з "Палявання на Апошняга Жураўля").

Найбольш уражвае пісьменніка занядбанне аднаго з галоўных пастулатаў хрысціянскай веры: "Любі бліжняга свайго, як самога сябе". Фактычна ўсе найбольш вядомыя і станоўчыя героі А.Жука пакутуюць якраз на гэтай глебе, якую савецкая крытыка называла эгаізмам чалавечай натуры, што застаўся як спадчына ад былога грамадства.

Не толькі ў апошнія гады, але і ў ранейшых сваіх творах пісьменнік імкнуўся сягнуць у пазафізіялагічныя і пазаматэрыяльныя сферы гэтае з'явы, тыя сферы, якія маюць свае карэнні ў вечнасці.

Ціхая і памяркоўная Маня, гераіня лубачнага апавядання "Прочкі", шумнай вясновай ноччу амаль узвышана раздумвае над сэнсам свайго жыцця: "Хацелася хоць да каго сказаць слова і ведаць, што яго пачулі. Крыўда падняла душу: усё рабіць умела, век рабіла, выбудоўвалася, дзяцей у людзі выводзіла, багацця нажывала. А на самым краі жыцця, азірнуўшыся, – і не было жыцця, толькі чаканне яго і спадзяванне на тое жыццё і на шчасце, бо колькі ні жыве чалавек, як ні жыве ён, а спадзяецца на шчасце". Твор гэты пазначаны 1975 годам.

Выходзіць, што не ў 1993, а значна раней адкрыў для сябе пісьменнік журботную ісціну, некалі выказаную паэтам у амаль афарыстычнай формуле: "усе хочуць дабрыні, але мала хто сам хоча быць добрым".

В.Быкаў ("Ваўчыная яма", "Сцяна"), В.Адамчык ("Стрэл на пarозе"), А.Кудравец ("Бацька") – паказваюць свайго героя пазбаўленым перспектывы ў плане грамадскім, сацыяльным і нацыянальна-палітычным, А.Жук – найперш у плане духоўным.

На што спадзявацца чалавеку, пазбаўленаму веры ў несмяротнасць сваёй душы, а значыць і светлай надзеі на будучыню? Можа, і праўда толькі на "нейкі дагляд у прапахлай казённым смуродам бальнічнай палаце" – на лімітаваную і матэрыяльна аплачаную дозу чалавечай увагі і дабрыні, ліміты якой сёння выглядаюць амаль вычарпанымі...

Вольнае ж поле для вольных...

**Галіна ТЫЧКА**

# Маё сентыментальнае паляванне:
# *У КІРУНКУ ДА ЖУКА*

**<u>У Вялікай Сліве</u>** – *тыпова слуцкай* вёсцы – на вуліцы, што вядзе ад поплава і вянчаецца клубам, рыкаў летні ранак – натужна, самотна-пакрыўджана – у трыццаць каровіных гарлякоў. Пасярод дарогі, пераймаючы статак, узвышаўся малодшы (хоць даўно не маладзён) Рабінка: была, здэцца, ягоная чарга гнаць кароў на пашу. Аднак ён другую гадзіну чакаў устанаўлення справядлівасці, гнюсна парушанай суседкай, Маняй Партызанкай, якая здала цялушку ў калгас менавіта тады, калі ёй трэ было адбываць чаргу, – і замест двух дзён – за карову і за цялушку – пасвіла толькі адзін. Яшчэ звечара Партызанка пачула, што каровы да ночы раўці будуць, а сам Рабінка ўрасце ва ўбітую пыльную дарогу, але прыйдзецца ёй адбыць другі дзень.

Паспелі ўжо выспацца гулёны-падлеткі, што крадком-цішком лазілі ў вокны бабуліных хат, калі ўжо добра развідняла, – а добра ўгрэтае паветра шчэ поўнілася каровінаю галоднаю крыўдаю...

Супрацьстаянне, помніцца, скончылася шэдэўрам сліўскае кляцьбы:

– Каб цябе *ўсім сялом пасвілі!* – голасна прыгаворвала Партызанка, перацягваючы пугаю разяватую пярэстую карову.

“Калі канчаў снедаць, Сцяпан пачуў знаёмы голас Бакасянкі:

– Ці ж гэта людзі, а не злыдні, ці ж гэта ў чалавека совесць? Каб таму вантробы на верацяно павыкручвала, каб ён так нажыўся і набачыўся, як ён гэту гусь угледзеў! Каб яму на векі вечныя засляпіла, каб ён век гэтую зямлю еў і не мог ёю наесціся!..” (“Паляванне на Апошняга Жураўля”).

Проза Алеся Жука ўражвае эмацыйным і амаль фактычным супадзеннем фрагментаў мастацкага тэксту і ўрыўкаў майго слуцкага – “сліўскага” – дзяцінства. Мне, папраўдзе, цяжка даўмецца: ці то Алесь Жук гэтак *жыццёва* піша, ці то ўсе слуцакі гэтак *літаратурна* жывуць. Ды аналізаваць “жыццёвасць” ягоных твораў настолькі ж непамысна, як,

напрыклад, выдумляць эпітэт для "рэалізму" сучаснага французскага мастака Жана-Аліўе Юклё: той піша дзіўныя партрэты, дзе абуджаюцца фатаграфіі – "зачараваныя падабенствам, мы прывыклі больш давяраць здымкам і не можам "паверыць", што перад намі карціна" (К. Міле). Калі творчасць Юклё не паддаецца ідэнтыфікацыі (скіраваная на "вяртанне да рэальнасці рэчаў", яна, аднак, не атаясамліваецца мастацтвазнаўцамі ні з гіперрэалізмам, ні з "новай суб'ектыўнасцю"), дык літаратурныя палотны Жука самі маглі б стаць пачаткам досыць "гонкай" класіфікацыі. Бо нават асобна ўзятыя аповесці і апавяданні змяшчаюць у згорнутым выглядзе ўсю паўнату аўтарскага ведання Жыцця; ужо ў аповедах 1969 года ("Асенніх халадах", "Сонечным снезе", etc.), напісаных дваццацідвухгадовым празаікам, выяўляецца сталая эстэтычна-каштоўнасная сістэма прынцыпаў і спосабаў мадэлявання мастацкай прасторы. Адзначым, што той "саўковасці", з-за якой сёння спляжылі ці не ўсю беларускую літаратуру савецкага перыяду, у творах Алеся Жука 70-х – 80-х гадоў можаш і не дашукацца – хіба што на ўзроўні тагачасных рэалій. Яе, прынамсі, значна менш, чым здаецца айчынным "інтэлектуалам у суперы": перш чым збэрсаць той кляты "ружоватвары" сацрэалізм, варта прыглядзецца, адкуль, напрыклад, растуць ногі ў такога стыльна-іранічнага сац-арту.

Мастацкая проза Алеся Жука, тым не менш, ёсць матэрыялізацыя ў вобразна-сімвалічнай форме пэўнай ідэалогіі ("ідэалогія" – усяго толькі сістэма поглядаў і перакананняў, на якіх грунтуецца светабудова творцы): умоўна пазначу яе як "*экзістэнцыяльны гуманізм*" з вядучым трагічным матывам у аснове кантрапункту. Танальнасць яго найбольш яскрава выяўляецца ў вобразе-настроі "белай журбы":

"Цішыня была, поўня на ўсё неба разлілася. А на зямлі пуста, бясконца, як абмерла палявая прастора. І такою белаю сумотаю глядзіць зямля ў акно, такою журбою, што хоць ты збірайся і ідзі, ідзі куды вочы глядзяць – і нічога не ўгледзіш новага, толькі гэтая белая журба над пустою зямлёю, якая не адпускае сэрца, будзе ісці ўслед, весці цябе..." ("Халодная птушка").

Шчымлівая напружанасць мастацкай эмоцыі дасягае максімуму ў сімвалічнай "постаці" Апошняга Жураўля; пасвечаны ў таямніцы *іншага* свету, ён нібыта сочыць за тым, каб не парушыўся колазварот быцця, перамагаючы сваёю гібеллю ўсюдыісную смерць:

"Восенню, калі яно (поле – *І.Ш.*) чыстае і прасторнае, аблямавана на даляглядзе кусцістаю зялёнаю рунню, захінута ціхім туманком, далёкае ворыва на небакраі раптам пачынае ўставаць на цябе крылом шэрага жураўля, і хто скажа тады, што з неба і сапраўды не чуцен вечны жураўліны кліч?"

У "Паляванні на Апошняга Жураўля" зварот да спрадвечнага (водгукі татэмізму*, магічных уяўленняў забіраюць Апошняга Жураўля – гіне Сцяпан Дзямідчык) спалучаецца з роздумам над невыноснай крохкасцю быцця ў сучасным свеце; згукі паганства ўплятаюцца ў хрысціянскія матывы. Мне, праўда, здаецца, што ў беларусу язычнік дасюль нявыкаранены, мацнейшы за хрысціяніна; той жа Апошні Жураве́ль – персаніфікаванае Дабро – усведамляецца намнога старэйшым за новазапаветнага Месію.

Пантэістычнае светаадчуванне працінае ўсе структурныя ўзроўні мастацкага твора, абумоўліваючы важнейшыя адметнасці прозы Алеся Жука. Сярод гэтых адметнасцяў вылучаецца псіхалагізм вобразаў-пейзажаў, якія літаральна ў кожным, нават самым невялікім па аб'ёме творы лучацца ў адно цэлае – пэўны метавобраз, дзе экспрэсія рэалістычнай дэталі перацякае ў імпрэсіяністычную метафару:

"Імглела зноў не па-асенняму, надоўга аслізла зямля, а ў садзе, на лісці, на яблыках шэра ляжалі кроплі – быццам ўпацеў, утаміўся сад трываць гэтакую макрэчу".

"За полем гараць асеннія вогнішчы лесу, як сіняватыя вочы зямлі, ляжаць між парыжэлых, вылінялых за лета броваў асакі невялікія лужкі і азерцы" ("Паляванне на Апошняга Жураўля").

"Ужо крыху прахалодней у полі, чым удзень, і ледзь прыкметна гусцее блакіт неба, і не так балюча слепіць вочы снег, але ён яшчэ не такі, як вечарам, калі схаваецца за небакраем напружана-чырвонае сонца, і там, дзе яно зайшло, вісіць вузкая марозна-шэрая палоска, а над ёй спачатку чырвань, а потым светлая празрыстасць, якая будзе доўга-доўга, нават пасля таго, як патухнуць вясковыя вокны і высвеціць ваўсю лупаты месяц" ("Сонечны снег").

Пантэізм Алеся Жука праглядвае не толькі ў віртуознай пейзажыстыцы. Адчуванне татальнай трагічнасці быцця (не толькі чалавечага, але й касмічна-прыроднага) аказвае сябе ўжо ў "Сонечным снезе" (1969) – у эпізодзе палявання на зайца:

"...нешта моцнае, цяжкае ўдарыла насустрач... І ўжо нязвыкла лежачы на баку, бачыў ён, як бег да яго чалавек, адчуў, як моцна ўзяўся за пярэднія лапы, яшчэ тарганууся ўсім целам, каб вырвацца, і цяжка павіс уніз доўгімі, нядаўна яшчэ такімі лёгкімі і быстрымі нагамі. Паволі выкаціліся і кругла застылі жоўтыя, як арэхі, вочы... <...> І па доўгім жалабку вуха выцекла і ярка капнула на снег кропелька крыві".

---

* "Ні ад чаго гэтак не баліць душа і нічаму гэтак не радуецца, як роднаму свайму полю, якое праплыве пад шызым крылом тваім" ("Паляванне...").

 



Апавяданне ж "Гаркавы дым" (1973) канчаткова пераконвае мяне ў тым, што аўтар ведае залішне многа пра смерць, нібыта *прыгадвае* ненатуральна рэалістычныя яе дэталі, адчуванне звязанага з ёю стану адчужанасці – падобная "*памяць пра смерць*" палохае ў чалавеку любога ўзросту:

"Лесін пачуў стрэл і не зразумеў, адкуль такі востры боль між лапатак, чаму хістанулася з-пад ног зямля і сіняе неба прыціснула яго да зямлі. Ён яшчэ жыў, калі стары немец падышоў да яго... <...> І апошняй хвіліны Лесіну не хапала, каб спалохацца смерці... Цела яго толькі раз слаба варухнулася, і ён ужо не чуў, як над самым тварам дабрадушна прагуў чмель і, нібыта адчуў смерць, імкліва паляцеў прэч над зялёным полем, якое толькі-толькі адкрасавала".

Якая *сапраўдная* смерць на такой не-літаратурнай, *пражытай* вайне – у апавяданні дваццацішасцігадовага тады празаіка, што нарадзіўся толькі ў 1947-ым.

Алесь Жук, мяркуючы па ягонай прозе, ***ведае*** многія рэчы – ён ніколі не бывае *начуты* пра штосьці, а заўсёды ў курсе як падтэксту, так і кантэксту. Энцыклапедызм падобнага кшталту – усе гэтыя тонкасці крыкаў вадзяной куркі, крыжанкі і т.п., дэталёвая тэхналогія бабровай будоўлі, нюансы аграноміі, паляўнічыя прыбамбасы і г.д. – вытворцамі навейшай літпрадукцыі ўспрымаецца, бадай, анахранізмам. Так, як Жук-празаік дасведчаны ў жыцці (ягоных праявах, грымасах, вывертах і загібах), маладзейшыя разбіраюцца хіба што ў дэканструкцыі, інтэртэкстуальнасці, Гусэрлевай фенаменалогіі і Хайдэгеравым тут-быцці. Яно ў творчых людзей заўсёды гэтак: *бабёр* і якаянебудзь *інтэнцыянальнасць* для розна павернутых мысляроў ёсць аднолькава жывое – "уцялесненае", так бы мовіць.

Проза Алеся Жука вымагае адметнай тэхнікі, калі хочаце, *стылю чытання:* здольнасць пагружацца ў апісанне павінна спалучацца з уменнем ператвараць вербальны пейзаж у "карцінную", жывапісную (але й трохмерную, рухомую) рэальнасць, якая перацякае ў пакутліва няўлоўны вобраз-настрой; пры гэтым пажадана арыентавацца сярод мноства ўстаўных "навел-лёсаў" (імі багаты ці не кожны твор), ужывацца ў той ці іншы характар, часам перасільваць горыч, пранікаючыся трагізмам сітуацыі, – і быць гатовым да ўсяго. Алесю Жуку варта было б мець справу пераважна з прафесійным – але не засушаным, чуллівым – хоць і не дужа сентыментальным – чытачом.

Але каму яго – такога чытача – не трэба?

І каму зараз лёгка?

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**



 

Алесь Жук прыйшоў у літаратуру ў сярэдзіне 60-х і хутка сцвердзіў сябе як добры, патрабавальны майстар, які ведае цану вынашанаму паўнаважкаму слову і таму не спакушаецца павярхоўным многапісаннем. Яго галоўныя творчыя набыткі ў галіне мастацкай прозы ўмясціліся ў два тамы выбранага, выдадзеныя ў 1993—1994 гадах агульным памерам каля 62 уліково-выдавецкіх аркушаў. Дадам яшчэ, што пасля выхаду двухтомніка Алесь Жук апублікаваў у перыёдыцы некалькі новых апавяданняў і аповесць "Сны пра мару".

Мала піша чалавек? Такое ўражанне якраз не ўзнікае, хоць празаік яўна не гоніцца за колькасцю твораў, не расцягвае іх да вялікіх памераў, але заўсёды дбае пра высокую дасканаласць напісанага. Таму і апавяданні А.Жука, і ягоныя, як правіла, невялікія аповесці, якіх набралася ўжо адзінаццаць, ніколі не губляюцца ў агульным літаратурным патоку, а наадварот, вылучаюцца сваёй змястоўнасцю і глыбінёй.

У свой час мне ўжо даводзілася пісаць пра тое, што лепшыя апавяданні гэтага празаіка вызначаюцца высокай дакладнасцю ва ўзнаўленні ўсёй рэалістычна-побытавай фактуры, псіхалагічнай заглыбленасцю, трапнасцю дэталяў, добра нюансіраванай настраёвасцю і той натуральнасцю пісьма, пры якой зберагаецца шматмернасць жыццёвай карціны, яе шматпланавасць і шматаспектнасць.

Асабліва моцнае ўражанне тады зрабілі на мяне аповесці "Халодная птушка" (1977) і "Паляванне на Апошняга Жураўля" (1982), творы выдатныя па глыбіні пранікнення ў народнае жыццё, у душу селяніна, на долю якога ў нас заўсёды выпадаў найбольшы цяжар. Цяпер я нанава перачытаў і гэтыя аповесці, і іншыя творы Алеся Жука. Асноўнае ўражан-

не засталося ранейшым: празаік многае бачыць у жыцці і ўмее сваё бачанне па-майстэрску перадаць у мастацкім слове. У аповесці "Халодная птушка" ён выдатна паказаў не толькі многія нягоды і рэдкія радасці сялянскага жыцця, але і трагедыю старасці, якая, як тая халодная птушка, урэшце з няўмольнай непазбежнасцю насцігае чалавека. Галоўная гераіня гэтай аповесці Анэта – яшчэ не самая абдзеленая вясковая жанчына. У яе ёсць замужняя дачка, якая таксама жыве ў вёсцы, але ўладкавалася там зусім няблага, ёсць жанаты сын, які ўрэшце і забірае маці ў горад. І будзе яшчэ радавацца Анэта, пабачыўшы ўжо ў час ад'езду, што на зямлю "лёг снег", значыць, "не вымерзне рунь". І гэтая спрадвечная хлебаробская радасць жывою цёплаю хваляю мо ў апошні раз ускалыхнула яе душу..." Так заканчвае пісьменнік сваю аповесць, ненавязліва падкрэсліваючы чалавечнасць гераіні, якая адчувала, што без звыклага вясковага свету "жыцця ў яе не можа быць".

І ўсё ж яна з вёскі едзе, бо менавіта старасць прымушае шукаць больш зацішны куток. Зноў слова пісьменніку: "На ватнюю коўдру старая ўскідала яшчэ кажушок. Але пад такімі акрыванкамі ад цяжару балела цела і не было сугрэву. Старая ведала, што ніякія коўдры яе не нагрэюць, бо не засталося цяпла ў целе, выстудзілася яно за доўгае жыццё. А таму трэба прывыкаць да холаду, як прывыкла за многія гады да адзіноты, да пустое хаты, да доўгіх дзён, не занятых работаю; і дні яе доўжыліся, бо сілы не ставала і каб парабіць работу пры хаце. Недзе ў душы Анэта і не верыла, што гэта папраўдзе так, бо лягчэй за яе і ўвішней на рабоце не было і не будзе. Ды не вечны чалавек на зямлі, як і нішто не вечна.

Колькі яна перажыла і равеснікаў і маладзейшых?

Нават не верылася, што гэтак доўга можа жыць чалавек, які век рабіў, ішоў усё жыццё, як конь у баразне".

Праз некалькі старонак баразна ў падобным кантэксце прыгадаецца яшчэ раз: Анэта "ў трыццаць тры гады стала ўдавою, з дзецьмі на руках, пачала рабіць і за гаспадара і за сябе, як у баразну стала, — і пайшла". Так фіксуецца не толькі цягавітасць Анэты, але і сялянская прыцярпеласць да неўладкаванасці, шматлікіх жыццёвых бед. А гэта ўжо рыса, якую адназначна станоўчай назваць нельга. І яе нашы ўлады, толькі на словах клапатлівыя пра чалавека працы, заўсёды выкарыстоўвалі з выгодай для сябе, узвальваючы на затурканых вяскоўцаў усё новыя абавязкі, новыя павіннасці.

Ды трэба ж яшчэ мець на ўвазе, што Анэта не самая пакладзістая з

жанчын. Яе ў вёсцы нават камандзіркай называлі. Значыць, іншыя сялянкі былі яшчэ больш прыніжаныя.

У аповесці "Паляванне на Апошняга Жураўля" Алесь Жук паказаў вялікую хціvасць, нахабнае ўрвіцельства наменклатурных чыноўнікаў і самаахвярнасць неагрубелых душою сяльчан у барацьбе за захаванне прыродных багаццяў, хараства навакольнага свету. Гэтая барацьба самаму прывабнаму з іх – Сцяпану Дзямідчыку – каштуе жыцця. Аповесць (тут зноў паўтару ў асноўным тое, што сказалася пра яе раней) звяртае на сябе ўвагу і маштабнасцю аўтарскай думкі, і вастрынёй у пастаноўцы сацыяльна значных праблем, і арыгінальнасцю сюжэтна-кампазіцыйнай структуры твора, у якой натуральна спалучаюцца рэалістычна-дакладныя стылёва-выяўленчыя пласты, вельмі характэрныя для Жука, з легендарна-казачнымі і сімвалічнымі элементамі, а змена падзейна-часавых ракурсаў ушчыльняе апавядальную плынь, робіць яе больш ёмістай, умяшчальнай. Можна адзначыць і абвостраны драматызм у развіцці падзей, які, здаецца, з такой яркасцю не выяўляўся ў ранейшых творах Алеся Жука.

Такім чынам, аповесць "Паляванне на Апошняга Жураўля" пераканальна сведчыць пра актыўныя творчыя пошукі празаіка, якія ўзбагачаюць яго стыль, агульную апавядальную манеру, уносяць новыя фарбы ў беларускую прозу, бо перад намі твор глыбокі, напоўнены аналітычным роздумам, грамадзянскай трывогай аўтара, яго клопатам пра навакольнае асяроддзе, у якім жыве сучасны чалавек, а ў канчатковым выніку і пра будучыню чалавецтва, твор, у якім экскурсы ў наша гераічнае мінулае, у падзеі Айчыннай вайны дапамагаюць з усёй вастрынёю паставіць маральна-этычныя праблемы, агульназначныя для сучаснасці і для будучыні.

Словам, сёння ёсць усе падставы сцвярджаць, што Алесь Жук з поспехам працягвае рэалістычныя традыцыі нашай прозы, найперш традыцыі К.Чорнага, І.Мележа, Я.Брыля. Але разам з тым ён усюды застаецца самабытным майстрам, які сваю мастакоўскую праўду здабывае шляхам самастойнага і вельмі ўдумлівага асэнсавання жыццёвых глыбіняў. Поспехі ў яго тут настолькі істотныя, што, здаецца, ужо можна гаварыць і пра жукаўскую традыцыю ў беларускай літаратуры. Яна блізкая да нашай класічнай традыцыі, але не зусім тоесная ёй, бо тая традыцыя працягваецца і развіваецца ў новых умовах. У творах Алеся Жука яна ўзбагачаецца за кошт навізны і самога жыццёвага "матэрыялу", і за кошт яго новага, сучаснага мастацкага асваення.

Да самых значных твораў пісьменніка належыць і аповесць "Пра-

клятая любоў" (1989). Пра гэтую аповесць мне ў друку выказвацца яшчэ не выпадала. І таму я скажу пра яе трохі больш падрабязна. У цэнтры твора зноў вясковы чалавек з цяжкім лёсам. Гэта Ян Кулеш, калгасны механізатар. Ён ужо ў гадах, вырасціў дзяцей, мае ўнучку. Але сам, як і Анэта з "Халоднай птушкі" або Дзямідчык з "Палявання на Апошняга Жураўля", вялікага шчасця не зведаў. Праўда, доля як быццам усміхнулася яму, паслаўшы нарэшце няхай і позняе, аднак жа шчырае каханне да прывабнай і "не зусім старой яшчэ жанчыны" Галі Русакевіч.

Тая Галя таксама напакутавалася ў жыцці, бо яшчэ малой трапіла ў Сібір. Туды выслалі іхнюю сям'ю з-за бацькі, вясковага настаўніка, абвінавачанага ў нацдэмаўшчыне. З цягам часу яго, вядома, рэабілітавалі. Але з Сібіры Русакевіч ужо не вярнуўся, баяўся, каб у Беларусі не арыштавалі зноў. А ён жа марыў хоць перад смерцю зноў пабачыць радзіму, "аж плакаў, гэтак хацеў, каб хоць адным вокам на сваю зямлю зірнуць". Памерла ў далёкім краі і Галіна маці, загінула сястра Наташа. А Галя, калі засталася адна, вярнулася – параілі дактары. Душою і яна, яшчэ там, у Сібіры, пакінутая мужам, хінецца да старэйшага за яе Куляша. Але шчаслівая песня кахання ў іх не спелася. Перашкодзіла многае. Найперш Янава жонка Мар'я, жанчына зайздрослівая, у якой "адна радасць – каб у суседа конь здох". За Куляша яна выйшла па разліку і ў шлюбе, мякка кажучы, дазваляла сабе вольнасці.

У адрозненне ад многіх сучасных аўтараў, якія яўна злоўжываюць "клубнічкай", А.Жук звычайна пазбягае падрабязнай дэталізацыі ў "пасцельных" эпізодах. Але ў аповесці ёсць моцна напісаная сцэна, у якой Мар'я з незвычайнай для вясковай жанчыны лёгкасцю аддаецца жанатаму чалавеку. Яе "падзенне" ў гумне на свежых жытніх снапах адбылося па сутнасці пры выпадковай сустрэчы. Ва ўсякім разе, каханнем там і не пахла. Быў толькі бяздумны секс, прывабны для распусных асоб. А вось на Галю, дачуўшыся пра яе пакуль яшчэ бязгрэшную прыхільнасць да Куляша, Мар'я накідваецца ваўчыцай, гатова і скалечыць нечаканую саперніцу.

Вядома, Кулеш, які таксама быў абдзелены сямейным шчасцем, не зведаў сапраўднага кахання да жонкі, не вытрымлівае і моцна, з мужыцкай зацятасцю, ды яшчэ прылюдна лупцуе яе. Карусель закруцілася, пахаваўшы ўсё тое светлае, па-чалавечы зразумелае, што нараджалася ў спакутаваных па ласцы і дабрыні душах Яна і Галі.

Разбор, пра які тут з горыччу згадваецца, — гэта партыйнае судзі-

лішча, дзе Куляша (ён таксама член КПСС) распіналі за ягоны душэўны парыў да другога абяздоленага чалавека. Тое судзілішча наладжваецца ў самы разгар жніва, калі дарагая кожная хвіліна працы ў полі, тым больш на камбайне, як у Яна. І суддзямі выступаюць людзі, якія, у адрозненне ад Куляша, самі грашылі шмат і нават пападаліся на сваіх амурных грашках, выклікаючы смех усёй вёскі. Ды такая ў савецкія часы была завядзёнка, што партыйныя ідэолагі не грэбавалі і грубым умяшаннем у вельмі тонкую, далікатную інтымную сферу. Лічылася, што гэткае ўмяшанне можа аднавіць парваныя сямейныя стасункі.

На справе ж найчасцей пладзіліся стойкая крывадушнасць ды глухая нянавісць, а то і ламаўся чалавечы лёс. Менавіта так у аповесці А.Жука здарылася з Куляшом, якога бяздушна-фарысейская партыйная разборка дабіла канчаткова.

Такім чынам, запозненая любоў Куляша аказалася для яго праклятай. Гэта падкрэслена і загалоўкам аповесці. Але той загаловак нясе і другі, больш глыбокі сэнс. Бо праклятай для Куляша стала любоў не толькі да сустрэтай пад старасць жанчыны, але і да вёскі, да сялянскай працы, да зямлі. Гэты аспект у аповесці гучыць не менш выразна, чым яе першы сэнсавы план, і надае твору трагедыйнае адценне. "Навошта праклаў Бог і маці, і яго любіць гэтую зямлю, усё аддаць ёй, каб атрымаць толькі шэрань, якая бясконцая, ад якой не ўратавацца тым, што заплюшчыш вочы", — з вялікім душэўным болем думае ўжо ў самым канцы твора Кулеш, які цяпер сваім унутраным зрокам "бачыў толькі шэрае, нібы тая ваўчыная аблога, што гнала яго, маладога, пустое асенняе ворыва, якому няма канца краю".

Як бачым, канцоўка аповесці скальцавана з яе пачаткам, дзе Янаў сон пра ваўчыную пагоню разгортваўся ў яскравы малюнак. А ў кантэксце твора ўсё гэта набывае шматзначнасць, падкрэслівае цяжкасць долі селяніна, клопатам якога сапраўды "няма канца краю".

І такі лёс не толькі ў Куляша. "Мужыка век за яго зямлю па мордзе за тое, што яе любіў. Таўклі, пакуль ён ад яе не адвярнуўся, а яго ўсё роўна яшчэ таўкуць, па прывычцы", — зазначае, выходзячы на шырокае абагульненне, талковы калгасны старшыня Мяцельскі, якога за ягоную талковасць ды непрыхільнасць да паказухі і прыцiскаюць розныя начальнікі.

Увогуле, матыў бязладдзя, спароджанага савецкай сістэмай, знаходзіць у аповесці рознабаковае праяўленне. Безгаловасць праглядвае і ў параўнальна дробным глупстве, калі калгаснікаў змушаюць

убіраць недаспелую збажыну, а парторг арганізоўвае паказушныя рэкорды, запісваючы на аднаго выбранніка зробленае многімі. Надакучаюць, перашкаджаючы нармальна працаваць, шматлікія паганяльшчыкі-ўпаўнаважаныя. А іх жа "трэба было сустракаць і праводзіць, і не проста праводзіць, але і ўлагодзіць на дарогу. Траплялiся і такія, што ні чорта не петрылі ў гаспадарцы, а лезлі праводзіць "партыйную лінію райкома", — скардзіцца той жа Мяцельскі.

Пісьменнік малюе і вобразы тых, чыімі рукамі рабіліся гэтыя жахлівыя справы. Асаблівай агіднасцю сярод такіх дзеячаў вылучаецца Беразоўскі, які проста цешыцца сваёй вялікай уладай над безабароннымі людзьмі, не падазраючы, што з цягам часу загрыміць і сам. Гэта ён у п'яным пераборы пахваляецца тым, як у гады вайны забяспечваў пільнасць: "Мы на востраве базіраваліся. І штаб брыгады там. Дарога да нас па кладках у балоце ішла. Дык вось, прыйдзе сувязны, мы яго сустракаем. Усё як належыць. А на кладкі я звычайна праводзіў. Нікому не даручалі. Адзін стрэл у патыліцу. Шпок – і дзядзька пайшоў у багну. І сто працэнтаў гарантыі, што ніхто не выдасць".

Верх бесчалавечнасці – знішчаць сваіх жа адданых памочнікаў? Затое і праўда надзейна. Але ад такой надзейнасці жудасць бярэ. Ды Алесь Жук і тут не перабольшвае. Дакладны ва ўсім, ён абапіраецца на ўжо вядомыя цяпер факты.

Новыя грані таленту Алеся Жука выявіліся ў аповесці "Чорны павой" (1984). Тут празаік упершыню ў сваёй творчай практыцы звярнуўся да прыгодніцка-дэтэктыўнага жанру. Гэты жанр карыстаецца шырокай папулярнасцю. Па чытацкай прыхільнасці з ім можа паспрачацца хіба што навуковая фантастыка, якая таксама шчодра выкарыстоўвае займальнае прыгодніцтва. Вялікая папулярнасць прыгодніцка-дэтэктыўнай літаратуры абумоўлівае яе значныя выхаваўчыя магчымасці, вядома, калі творы не зводзяцца да голай займальнасці і пацяшальніцтва, а ставяць важкія чалавеказнаўчыя і сацыяльныя праблемы, як гэта рабіў, напрыклад, Уладзімір Караткевіч.

У Алеся Жука таксама выразна адчуваюцца грамадзянскі пафас, прынцыповая пазіцыя ў выкрыцці адмоўных з'яў, якія і ў паслясталінскія часы мелі шырокае распаўсюджанне ў нашым жыцці, разбуралі паказушнае савецкае грамадства знутры. Яркім сімптомам яго катастрафічнай дэградацыі было і паяўленне дзялкоў, якія ўслед за наменклатурнымі чынамі з партыйных вярхоў грабілі дзяржаву і народ, хапалі ўсё, што маглі выкарыстаць для свайго ўзбагачэння. Супроць такіх дзялкоў і скіраваны "Чорны павой".

У аповесці расшыфроўваецца вынесены ў загаловак твора вобраз. Гаворыць старая вясковая жанчына Вера, мецячы ў знаёмых ёй урвіцеляў: "Во, як гэты павой, — Вера кіўнула на густую зелень павою, якая ўчэпіста сплялася, ахіліўшы веранду, закрыла ад сонца. Павой цвіў пяшчотнымі ружовымі кветкамі. – Здаецца, што і зялёны, і харошы, а так усё затуліць, загноіць, што пасля яго і на рамах, і на ўсім гнілая чарната. Такія і людзі ёсць. Пад гэты павой дык хоць яшчэ, як надаесць, чыгун кіпню раз-другі выльеш, дык і згіне... А гэта ж людзі быццам".

У канцы аповесці да гэтага вобраза пісьменнік вяртаецца яшчэ раз. Цяпер разважае ўжо іншы персанаж, удзельнік Айчыннай вайны, журналіст Тумаоўскі, адзін з галоўных станоўчых герояў твора, паказаны з добрай перакананальнасцю: "Белыя, ружовыя кветачкі... А потым і чорны павой. Мы з вамі гаварылі пра ўвесь гэты накіп. Знешне, калі глянеш, жывуць і багата, і лёгка, і прыгожа, а калі зазірнеш знутры – чорна. Так і павой, калі пасадзіць яго ля веранды, ён будзе цвісці бела, ружова, прыгожа быццам. А як прагледзіш, глушыць усё сабой, гніллё пад ім пачынаецца. Усё пагубіць пад сабою і згноіць..."

Такім чынам, чорны павой – гэта, у паказе А.Жука, агіднае, заганнае ў збрудзелых душах адмоўных персанажаў, тая цяга да толькі ўяўна прыгожага, а на самой справе пустога і нікчэмнага жыцця, якая зводзіцца да безагляднай пагоні за эгаістычна зразуметай асабістай выгадай, за матэрыяльнымі дабротамі любой цаной. Стаўшы галоўнай і нават адзінай мэтай чалавека, яна паступова раз'ядае душу, губіць усе здаровыя пачаткі чалавечай натуры.

Змагаючыся супроць гэтых заганных праяў, пісьменнік вёў барацьбу за чалавека, за маральнае ачышчэнне нашага грамадства. Але, здаецца, спадзяванняў на вялікі поспех у яго не было. Кажу так вось чаму. Звычайна прыгодніцка-дэтэктыўныя творы завяршаюцца развязкай асноўных канфліктных вузлоў і пакараннем злачынцаў. У "Чорным павоі" большасць адмоўных персанажаў таксама выкрыта і чакае крымінальнага пакарання. Але галоўны арганізатар злачынных афёр у аповесці Горскі, ён жа Клямкін, ад пакарання ўцякае. І гэта знакавы сюжэтны паварот. За ім сёння бачыцца вельмі асцярожна, з рознымі агаворкамі выказаная думка пра непатапляльнасць такіх дзялкоў, а значыць, і пра тупіковасць савецкіх парадкаў. Адкрыта і выразна ўсё гэта сцвярджаць тады, канечне ж, было немагчыма з-за цэнзурных умоў.

З твораў Алеся Жука, апублікаваных у самыя апошнія гады, хо-

чацца вылучыць аповесць "Сны пра маму" ("Полымя", 1997, № 1) і апавяданне "Партызан" ("Полымя", 1996, № 9). Абодва гэтыя творы ўвабралі ў сябе шмат асабістага: у аповесці празаік напісаў пра ўласную маці, а ў вобразе старога партызана Антося са згаданага апавядання лёгка пазнаецца бацька пісьменніка.

Як і звычайна ў сваіх творах, А.Жук піша пра маці, ужо нябожчыцу, у знешне стрыманай манеры, без падкрэсленай пачуццёвай экзальтацыі, але з глыбокай прачуласцю, якая сыноўняя любасць і скруху перадае найлепшым чынам. А па праўдзівасці ў паказе вёскі і ўвогуле жыцця звычайнага чалавека "Сны пра маму" выразна пераклікаюцца з аповесцямі "Халодная птушка", "Паляванне на Апошняга Жураўля" і "Праклятая любоў". Вось як любасна, але і з трывогай гаворыцца ў "Снах..." пра сучасную вёску: "Вёска, як маці, якая хоча ўратаваць сваіх дзяцей ад пакутнага лёсу, і дасюль усё марыць выправіць іх ад сябе... Дасюль не скончыліся гэтыя вечныя выправіны, дасюль на вёску налягаюць спрадвечныя палі, і яна жыве, выжывае, радуецца, больш сёння журыцца, бо ўсё меней там радзінаў, усё болей і болей там хаўтураў. А вёска пакуль жыве, не забывае пра сваіх дзяцей, памятае, хто дзе ёсць, і быццам чакае вяртання хаця б у госці, не на жыццё. Вёска ўжо страціла надзею, што туды будуць вяртацца на жыццё, туды толькі прыязджаюць у госці ці калі здарылася якая-небудзь бяда і болей няма куды дзецца".

Засведчана ў аповесці і горка-балючая праўда пра зняважлівае стаўленне да вясковай інтэлігенцыі, прыніжэнне "тых жа настаўнікаў ці медыкаў".

Затое раскашавала рознае начальства. Яно цягнула з калгаса, не саромеючыся і не баючыся. Асабліва лютаваў Фэля, які быў "зладзюга-зладзюгам". Гэта пра яго зазначана, што ён мог і збіць чалавека "на горкае яблыка". "А хто якое права даказаць тады мог? Участковы ж у першую чаргу да старшыні заходзіць, а там яго і накормяць, і напояць, і з сабою дадуць. Калгаснага ж дабра не шкода. І старшыня сельсавета адна з імі шайка-лейка. Што бабам было рабіць, акрамя як цярпець і паслухмяна на работу ісці? Паспрабуй тады не вырабі сваіх працадзён у месяц. Хоць сканай, але ідзі рабі, норму сажні, усё рабі, а пад канец года, як забяруць усе нарыхтоўкі, вывезуць тымі чырвонымі абозамі, на працадзень палучаць няма чаго..."

Гэты матчын маналог можна разглядаць як дакументальнае сведчанне, бо пісьменнік у "Снах пра маму" ўвогуле, як я зразумеў, не карыстаецца вымыслам, а гаворыць толькі пра рэальныя рэчы, пра

 



тое, што сапраўды адбывалася. Аднак мастаком ён застаецца і тут, прычым выдатным мастаком, слова якога гучыць важка і змястоўна.

Пра мастацкае майстэрства Алеся Жука, моцную спрасаванасць яго каларытнага пісьма, у якім няма нічога лішняга, пра хараство яго мовы напрошваецца ўжо спецыяльнае даследаванне. Я ж прыгадаю толькі асобныя прыклады выдатнай моўнай выразнасці, узятыя з розных твораў.

Некалькі асабліва трапных параўнанняў, праз якія добра глядзіцца свет вясковага жыцця, бо яны пераважна гэтым светам і народжаны. У аповесці “Халодная птушка” кажушок на канапе “ляжаў, як скурчаны калматы сабака”. У тым жа творы забітыя клёпкамі вокны вясковай хаты “глядзелі на вуліцу, як мёртвыя вочы”. Зноў пра пакінутаю вясковымі жыхарамі хату, але ўжо ў аповесці “Праклятая любоў”: “Як бельмы на вачах, у вокнах віселі пашарэлыя фіранкі”.

“Яшчэ доўга стаяў, удавіўшыся зямлёю, камбайн” (“Праклятая любоў”).

Пра Антося з апавядання “Партызан” гаворыцца, што ён “маленькі і худзенькі ад старасці, як зімовы верабей”. Там жа згадваецца вясковая самагонка, адфільтраваная так, што яна была празрыстая, “як сляза”. Добра гучыць у тым жа апавяданні і наступны параўнальны пасаж: “Па-бабску балбатлівы тоўсты мужчына... спяшаецца гаварыць, нібы яго падпорваюць ззаду”.

“Цяжкая, як камень, ноч”. Гэта адчуванне аўтара з аповесці “Сны пра маму” пасля пахавання самага дарагога чалавека.

Пра жонку п’яніцы ў аповесці “Праклятая любоў”: “Гарэлку, як карова воўка, за вярсту чуе”.

Дасціпна гучаць у Алеся Жука некаторыя іранічныя рэплікі, як вось гэтая з аповесці “Паляванне на Апошняга Жураўля”: “Ай, дзядзька, вы ж самі ведаеце, не п’еш – адкуль тое здароўе будзе”. А ўвогуле на гумар пісьменнік, як мне падалося, у многіх творах скупаваты. Там жа, дзе ён, як, скажам, у некаторых мясцінах аповесці “Чорны павой”, больш свабодна карыстаецца іранічнай падсветкай, узмацненне мастацкага эфекту відавочнае.

Нячаста бярэцца Алесь Жук за пяро крытыка. Але калі ўжо выступае ў гэтай якасці, дык таксама з поспехам, з добрай аддачай, бо нешта рабіць абы-як ён не дазваляе сабе, ды і не ўмее. І не толькі ў літаратуры, але і ў прыктычных жыццёвых справах.

**Дзмітрый БУГАЁЎ**



 

Магчыма, некалі крытыкі і літаратуразнаўцы знойдуць тлумачэнне адной заканамернасці: найбольшы ўплыў на развіццё нацыянальнай літаратуры, а значыць, і культуры ўвогуле зрабілі выхадцы з вёскі. Як думаецца, аналагічная з'ява назіраецца і ў іншых галінах культуры – сярод мастакоў, спевакоў. Ні ў якім разе гэтымі словамі я не збіраюся прынізіць, а тым болей – пакрыўдзіць гараджан, не, але, як гаворыцца, зірнем на факты...

Асабліва ярка гэтая з'ява праявілася ў пасляваенныя гады, калі вясковыя хлопцы і дзяўчаты прабіваліся да вышэйшых навучальных устаноў і з вясковай цягавітасцю пачыналі спазнаваць дагэтуль неспазнанае. У сферы літаратурнага жыцця – пра гэта ўжо не аднойчы гаварылася – вялікую неацэнную ролю адыгралі старэйшыя літаратары, выкладчыкі, тыя ж Н.Гілевіч, А.Лойка, якія яшчэ падчас прыёмных экзаменаў прыглядаліся і вышуквалі людзей творчых...

Алесь Жук таксама з пасляваеннага пакалення, з таго пакалення, якое спазнала і нішчымніцу, і чалавечую спагадлівасць, і любоў да працы.

Якраз пра чалавечнасць Жука і хочацца найперш нагадаць у гэтых кароткіх нататках. Каму і якім толькі літаратарам ні дапамагаў Жук. На кожнай пасадзе, калі мелася магчымасць, ён цікавіўся лёсам таго ці іншага таленавітага чалавека і, калі мелася хоць маленечкая магчымасць дапамагчы, даваў чалавеку падтрымку, надзею...

Мабыць, якраз з гэтага і варта весці адлік ягоных якасцяў: з чалавечнасці, з любові да чалавека працы.

Ёю, чалавечнасцю, прапітаны ўсе творы таленавітага літаратара. У кароткіх словах цяжкавата сказаць пра своеасаблівасць прозы

пісьменніка, адзначу толькі дзве: музыкальнасць і майстэрства дэталі, уменне невялічкімі штрыхамі сказаць пра тое, на што іншыя мэтры трацяць старонкі расцягнутых эпапей – бяды нашай літаратуры...

Добрая школа беларускай, рускай і сусветнай класікі, якую Жук ведае як ніхто іншы, адчуваецца ў кожным радку ягонай прозы. Не выпадкова ён перакладаў Ю.Казакова, не выпадкова Жук любіць цытаваць вершы, – не ведаю іншага празаіка, які гэтак бы ведаў і любіў паэзію.

Паэтычнасць прозы Жука, як і прозы М.Стральцова, зацягвае; чытаючы яго творы, спазнаеш і адчуваеш свет, якім жывуць героі, – чытаючы радок за радком, напітваешся нязнаным дагэтуль жыццём, перажываеш і пражываеш цэлае жыццё.

Адчуванне любові, жалю, смутку, нянавісці, спагады – усяго тонкага і часам нават чалавекам нявыказанага, гэтае адчуванне Алесь Жук можа і ўмее перадаць як ніхто з сучасных беларускіх празаікаў, магчыма, якраз у гэтым і праяўляецца сапраўднае майстэрства літаратара.

У свой час, калі крытыкі дружна дзялілі літаратурных герояў на станоўчых і адмоўных, калі і некаторыя літаратары не ўтрымаліся ад такой “дзяльбы”, Алесь Жук, толькі-толькі распачаўшы творчы шлях у літаратуру, разгледзеў, як мне думаецца, гэтую “хваробу” літаратуры: залішні катэгарызм і ацэначнасць. Яшчэ і ў сваіх першых апавяданнях ён зразумеў, што, магчыма, адна з задач літаратуры – сказаць пра штосьці нявыказанае, яшчэ і самім чалавекам незразумелае, але выразна адчутае.

Вось, для прыкладу, канцоўка апавядання:

“Яна ўстала, падышла да акна, расчыніла яго: вецер разагнаў хмары, і над зямлёю плыла асенняя ноч, абмытая сумным, халодным месячным святлом. Пасярод лагчыны, што пачынаецца ад самае яе – канцавое, – хаты, роўным лускавіннем блішчэла сажалка, і над ёю хіліліся ў паклоне зламаныя старыя вербы, нібы цягнуліся кастлявымі рукамі галля да месяца, што нерухома застыў далёка ад берага. За сажалкаю ўзбіраўся на ўзгорак чорнымі нагамі клёнаў стары парк, з дрэў якога час ад часу зрываліся і трапяталі на ветры, летучы да сажалкі, адзінокія дрыготкія лісцікі, нібы пісьмы, поўныя адчаю і нявыказанага суму, якім ніколі нікуды не даляцець, ніколі не быць прачытанымі...”

Так Жук напісаў яшчэ ў сваёй першай кніжцы, а было гэта ў 1969 годзе...

**Васіль ГІГЕВІЧ**

**Уверсе – з зусім яшчэ ранняга** зялёна-залацістага небакраю выглядвае палавіна заспанага аранжавага сонца. Унізе – з сутоння праступаюць абрысы хат і дрэваў. Пасярэдзіне, паміж светла-зялёным небам і цёмнай зямлёю, тонкім каліграфічным почыркам напісана – "Алесь Жук. Праклятая любоў". Гэта вокладка кнігі 1991 года выдання, адной з маіх самых любімых кніг на беларускай мове. У ёй змешчана невялічкае, усяго на чатыры старонкі апавяданне "Вечар". Цікавае яно не столькі тэмаю (у сапраўдным мастацкім творы тэма, як правіла, другасная), колькі тым, *як* яно напісана.

Сюжэт і кампазіцыя апавядання простыя (як і заўсёды простае ўсё сапраўднае). Жыве стары, адзінокі, хворы пісьменнік. У яго нават няма імені, — паводле аўтарскай задумкі, вядома, — толькі займеннікі. Мы, чытачы, не ведаем, чаму ён адзінокі; ведаем толькі, што некалі да вайны ў яго былі жонка і маленькі сын. Хутчэй за ўсё недзе ў вайну, калі галоўны герой, гэты самы безыменны пісьменнік, быў у партызанах, яны і згінулі. А ён, ацалелы, каго "абмінулі ў партызанскіх лясах кулі, абмінулі паклёпы, за якія так жорстка расплаціліся хлопцы", жыве адзін, успамінае і чакае смерці.

Гэта сюжэт. А вось кампазіцыя (тут я смела буду карыстацца амаль аднымі цытатамі, бо пераказваць такія рэчы – тое самае, што пераказваць сваімі словамі верш). "Пасля вайны ён пісаў яшчэ нейкі час... але так нічога і не напісаў "такога", толькі яшчэ ў нейкай зласлівасці на маладых сабраў і выдаў том выбранага. Кніжку ён рыхтаваў доўга, адбіраў для яе самае лепшае, самае дарагое, і думаў, што дасць перцу, калі паспрабуюць правіць яму, "рэзаць" ягоныя рэчы. Думаў зласліва і ўяўляў, як будзе прабіраць гэтых маладых інтэлігентных пісьменнікаў!.. Ён нават хацеў, каб яны пачалі пярэчыць яму, хацеў паспрачацца, даказаць... Ён не ведаў, што хацеў даказаць. Але ніхто яму нічога не пярэчыў. Наадварот, клапатліва прыносілі на дом карэктуру і без яго дазволу не выкінулі ніводнай коскі. Яму тады здалося, што цацкаюцца з ім, як з музейным экспанатам"...

З таго часу ён і сам пачаў адчуваць сябе "як за шклом вітрыны". Адно начамі, у снах, яму ўсё часцей з'яўляецца вялізны рыжы кот, "той самы, які жыў у іх да вайны і з якім любіў гуляць яго сын". У сне кот нібыта ўскоквае пісьменніку на грудзі, выпускае кіпці і ўсё глыбей і глыбей усаджвае іх яму ў скуру, у грудзі, "ашчэрваючы вялізны, з жоўтымі зубамі рот"... Пад час адной з такіх начэй, прачнуўшыся з крыкам жаху, пісьменнік пабрыў на кухню, "пастаяў, прыслухаўся да сябе і раптам адчуў, што скончылася яго жыццё і амаль нічога не засталося яму ўжо, хіба толькі ўспаміны... І пахаваюць яго, і некралог у газеце надрукуюць, і вянкі пакладуць ад устаноў, купленыя на мясцкамаўскія грошы. І нічога ад яго не застанецца, і будуць існці гады, вякі, і ніхто не будзе ведаць, што вось жыў ён! У яго на вачах аж навярнуліся слёзы ад гэтага адчування сваёй мізэрнасці, нікчэмнасці – і захацелася крычаць, біць рукамі і нагамі ад гэтай несправядлівасці, ад жаласці да сябе... і быць вечна, назаўсёды на гэтай зямлі!"

Але вось ён атрымлівае запрашэнне на пісьменніцкі вечар і, узрадаваны, памаладзелы, прыходзіць у Дом літаратара. "Ён маладцавата вітаўся за руку, спрабаваў жартаваць. Але яго жарты, мабыць, былі не смешныя ці не модныя, на іх толькі скупа ўсміхаліся і, як бы дамовіўшыся, усе пыталіся пра здароўе. Яму здалося, што ад яго ў гэтым маладым здаровым гурце пахне нафталінам, як ад старамоднай футры, што выняли паглядзець, ці не рассыпалася яшчэ ад молі... каб зноў пакласці назад у шафу".

"Ён слухаў прамоўцу, намагаўся ўспомніць таго, пра каго гаварылася, і не мог... толькі пад канец урэшце ўспомніў худога і бледнага юнака з русымі раскошнымі валасамі, і як яны нават аднойчы ішлі разам па вуліцы, бадай, добра выпіўшыя, бо юнак абдымаўся і ўсё гаварыў:

— Мы з табою напішам, братка! Мы, братка, такое напішам! – і цiснуў рукамі за плечы.

Ён (худы і бледны юнак. – *А.Ф.*) і сапраўды многа напісаў за свой кароткі і няшчасны век..."

Калі вечарына скончылася, стары пісьменнік выйшаў на двор: "не хацелася, каб бачылі яго; прысланіўся плячамі да сцяны і курыў, непрыкметны ў сваім доўгім чорным паліто з шэрым каракулевым каўняром, слухаў, як разыходзіліся па дамах маладыя, здаровыя людзі, якім нават і ў галаву не прыходзяць думкі аб смерці і якім ніякай справы няма да таго, што ён адзін, што яму цяжка, што ў яго баляць грудзі і што яму ўжо балюча дыхаць".

(Пішучы гэты твор, Алесь Жук, вядома, наўрад ці мог прадба-

чыць, што прыйдзе час, з'явіцца такі рок-гурт "Наўцілус-Пампіліўс", і дзесяткі, а то і сотні тысяч маладых здаровых людзей з агеньчыкамі запальнічак у руках будуць "цягнуцца" на начных стадыёнах пад словы шлягера:

*Соседка скажет – он был домоседом*
*И слишком громко стонал по ночам,*
*Пренебрегал её разумным советом*
*И никогда не обращался к врачам.*
*Соседка скажет – его не любили,*
*Но никто не помнил, почему и за что.*
*Соседка скажет, как легко все забыли*
*Нелепый призрак в досадном пальто...*

Вось, так бы мовіць, і "вечныя тэмы", і "пераемнасць пакаленняў у дзеянні".)

Пасля вечарыны пісьменнік зрабіў "рэвізію" сваім рукапісам, чарнавікам, пісьмам, знайшоў у шафе стары чахол на коўдру, "сапхаў туды паперы і пасля абеду занёс іх у падвал, у качагарку". І калі йшоў назад, "грудзі працяў востры боль". Але стары пісьменнік усё ж знайшоў сілы неяк упаўзці ў кватэру. "З чаравікоў на падлогу сцякала чорная вада, а на рукавах паліто блішчэлі кроплі ад расталых сняжынак. Ён глядзеў на пустую паліцу, дзе нядаўна яшчэ ляжалі яго паперы, слухай свой боль... І ён, чалавек, які лічыў, што досыць пажыў, досыць пабачыў, якому ўжо можна і паміраць, усёй сваёй істотаю адчуў, як не хочацца пакідаць гэтую зямлю, над якою ідзе снег, кружацца вішнёвыя пялёсткі, ідуць "сляпыя", як шчасце, дажджы, і потым за ўсю сваю зялёную радасць разлічваюцца восенню золатам лясы!

Яму думалася, што вось калі паедзе ў вёску, будзе выходзіць кожны дзень у лес, дыхаць чыстым паветрам, боль у грудзях пройдзе і ён будзе жыць яшчэ доўга-доўга.

І ён суцяшаўся гэтым, забыўшы, што яго вёскі ўжо няма на свеце і ехаць яму няма куды".

Канцоўку гэтага апавядання я цытаваў ужо, калі пісаў пра Алеся Жука артыкул для "Маладосці" – да яго 50-годдзя. Але не ўтрымаўся ад спакусы і цяпер. Мы, асабліва літаратары, часта і недаравальна многа паўтараем столькі пустых, неабавязковых слоў, што, думаю, ніякага страху не будзе ад паўтарэння людскага.

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

__Алесь Жук – з першых__ маіх усвядомленых літаратурных прывязанасцяў. І рэч не ў тым, што ён суб'ектыўна сімпатычны ўласнай пісьменніцкай манераю ці далікатнай цеплынёю душэўнага светабачання, хоць, безумоўна, ёсць і гэта. Рэч у іншым – у тым, што палягае па-за колам толькі суб'ектыўных стасункаў кананічнай парадыгмы "аўтар-чытач". Ветразі А.Жука, што поўняцца несумненным дыханнем беларускага літаратурнага Бога, ветразі нават цэлай, як мне здаецца, недачытанай пісьменніцкай супольнасці, блізкай па нараджэнні да яго (Васіль Гігевіч, Генрых Далідовіч, з нейкім запазненнем – І Юры Станкевіч), супольнасці з не надта шчасліва-кідкім творчым лёсам, пракрэсліваюць маршрут да нечага большага, чым проста прыватная чытачоўская прыхільнасць. Праўдападобна, з творчасцю А.Жука беларуская проза робіць тужлівы развітальны круг над літаратурай цэлага стагоддзя.

"Семідзесятнікаў" (так хіба назваць традыцыйным для літаратуразнаўства храналагічным вызначэннем пісьменнікаў, хто прыходзіў у літаратуру ў 70-я гады) на самой жа справе не вельмі песціў той літаратурны Бог. Няўдзячнасць літаратурнага лёсу іх у тым і заключалася, што, падрыхтаваўшы "азонавую дзіру" ў грамадскай атмасферы, афіцыйна скарыстаць сваё здзяйсненне так і не змаглі. У разломе разрэджанай прасторы свой маніфест пракрычалі іншыя. Свой, але не іхні. Хоць – і за іх, у пэўнай ступені. Ім жа на долю выпадалі папрокі найперш за літаратурную немату.

Крытыка "семідзесятнікаў" – пазітыўная (яе было больш) ці негатыўная (з гэтым – крыху лягчэй) – была ўсё ж не крытыкай саміх творцаў. Крытыкавалі абалонку; дзюбалі

шкарлупку, а не яйка. Крытыкавалі рамкі, у якія яны самі сябе ўвагналі.

Я не ўпэўнены, што і В.Гігевіч, і Г.Далідовіч, і А.Жук ды яшчэ хтосьці з гэтай кагорты між сабой усур'ёз задумваліся аб лучнасці, а тым больш стваралі маніфест гэтае лучнасці, але па літаратурным жыцці выходзіла так: шкарлупка разлусквалася – "семідзесятнікі" рваліся на волю з замкнёнай сферы. В.Гігевіч ад "Жыціва" праз "Доказ ад процілеглага" будаваў фантастычны "Карабель", падкрэсліваючы неаднакроць, што піша найрэальнейшыя рэаліі. І гэта было праўдай: рэгенерацыйная здольнасць наменклатуры, яе жывучасць у акантаванай прасторы вартая фантастычнага здзіўлення. Г.Далідовіч ад Міланек – свайго літаратурнага юнацтва – пакрочыў у бок Налібоцкай пушчы, у векавыя нетры, у глыб нацыянальнага характару, і ход гэты значыў не што іншае, як спробу вырвацца з перанаселенасці абжытага. Алесь Жук тварыў легенду пра Апошняга Жураўля, уражваючы парадаксальнай інтэрпрэтацыяй судакранання з аналагічным беларускім матывам раскіданага гнязда. Але легенда, дакладней, тварэнне яе таксама станавіла факт несумненнага падрыву веры ў літаратуру "звыклага назірання".

Такія парыванні ў літаратуры – з'ява надта сур'ёзная, каб лічыць іх наіўнай выпадковасцю асабістай творчай біяграфіі. Яшчэ да сённяшняй пары наша грамадская атмасфера насычана едкім перагарам зададзенай адной "вялікай" праўды на ўсіх – ананімнай праўдай безасабовасці. Яна, гэтая ананімная праўда пра час, пра магчымасць ці немагчымасць рвануць аковы "замкнёных сістэмаў", фатальным чынам завісала над пісьменнікамі і сваёй ананімнасцю сціскала вусны, гатовыя вось-вось прамовіць так неабходнае слова. Таму рыўкі "семідзесятнікаў" да гратэскавых формаў і фантастычных алегорый, да тварэння легенды ці тварэння гісторыі я вітаю не як гэтак званае "жанрава-тэматычнае разнастаенне"; найпершым чынам я схільны бачыць у тым ярка выражаную апазіцыю да ранейшай глабальнай перашкоды ў выглядзе калектыўна-ананімнай формы праўды. Праяву мэтанакіраванай сілы пераадолення інертнасці мастацкага выказвання. Наогул – як факт барацьбы супроць усёпаглынальнай інертнасці мыслення.

Алесю Жуку гэта давалася нібыта мінімальнымі вонкавымі намаганнямі, амаль незаўважна, першым поглядам – з натуральнай лёгкасцю. І, мабыць, не толькі з прычыны арганічнае таленавітасці.

Асноўнае – ён пісьменнікам з'яўляецца па сваёй сутнасці, патрэбы пісьменніцкую "маску" прымерваць да сябе не ўзнікала як быццам ніколі. Бо ёсць пісьменнікі і ёсць "маскі пісьменнікаў". Ёсць тыя, хто не прапусціў момант нараджэння творцы, і тыя, хто не адчувае, што не яго гэта твар. Што – гэта толькі штучная абалонка прывабнай маскі ("харошае дзела, старык, быць пісацелем!" – ходкі алгарытм такой пазіцыі), і пад гэтаю абалонкаю працягваюць тварыць, тварыць, тварыць... Прычым маска мае бясконцую, прагную сілу паглынання: у яе можна наноў увабрацца і па сталым літаратурным вопыце, калі ты ўжо як бы і "народны".

А.Жуку пашанцавала ў многім, за відавочным выключэннем "харошага дзела": маска не затрымлівалася на яго твары доўга (маю на ўвазе неабавязковыя для творчай біяграфіі рэчы з усвядомленай арыентацыяй на дэтэктыў або "аповесць для кіно": жорсткасць форматворчых рысаў або фрагментарная непластычнасць характараў – не Жукава манера), выяўляючы па меншай меры адну непазабыўную якасць – яго пісьменніцкую цэльнасць і нераскладальнасць.

Нераскладальнасць гэтая – нераскладальнасць крэатыўная; яна як самавыражэнне і самавытлумачэнне цэлага жыццёвага стану, што можна абазначыць станам стомленай пасіянарнасці. Па-пісьменніцку А.Жук найбольш вабны там, дзе з усёй паслядоўнасцю праяўляе сябе дзіўная сэнсавая антыномія: "стомленая пасіянарнасць". Ці не таму лепшыя яго творы пазначаны адным прыродным рытмам – стрыманымі колерамі надта неранняй восені, пярэдзімка, "вечаровага сонца" і "асенніх халадоў", калі самы час сцішана затуліць унерухомелай снегавой беллю змарнаваную, няўтульную, як вызначыў сам пісьменнік, "знябожаную Зямлю". І нават Апошні Журавель для свайго прылёту аблюбаваў толькі восеньскі час.

Нераскладальнасць – яна ў духоўным свеце герояў, якія і заклікаены менавіта праз нераскладальнасць захінуць нас ад карозіі. Тут няма натужлівага гвалту над характарамі – адзінаю ўмоваю іх існавання ёсць умова дакладнасці і дастатковасці. Тут пануе свабода.

Нарэшце, нераскладальнасць – у гарманічнай пластыцы празаічнай фразы, нераскладальнасць, што па сваіх мастацкіх якасцях мяжуе з эстэтычнай магчымасцю жыцця паэтычнага слова. Чытаем: "І зверху было б дзіўна глядзець, як у аснежаным бязмежжы, у цішыні і белым святле ўсё далей і далей адыходзілі ў поле, якое пачы-

налася за рачною лазняковаю далінаю, дзве жывыя істоты – звярыная і чалавечая. Не набліжаючыся і не аддаляючыся адна ад аднае, яны быццам шукалі нешта ў марознай пустэчы. Наперадзе ў іх ляжала белае бязлюддзе, за імі заставалася, як чорны астравок, вёска" ("Душа над чыстым полем").

Ах, як кожнае наступнае слова "памятае" тут семантыку папярэдняга! Бязважкае лунанне душы ("Зверху... глядзець" – яе ўласцівасць) эстэтычна можа існаваць хіба што ў тэксце, амаль наскрозь пазбаўленым груВасткіх і "цяжкіх" для такога выпадку дзеяслоўных формаў. І Жук дакладна апякуецца тым, каб цененькая мярэжка "душы" не разбілася аб слоўную кромку ўваходжання ў тэкст і выхаду з яго, пакінуўшы на ўвесь фрагмент усяго шасцёрку актыўных дзеясловаў. А далей: "... у цішыні і бе***лы***м свят***ле*** ўсё да***ле***й і да***ле***й адыходзі***лі*** ў по***ле***..." – гукавая нераскладальнасць. Гук выразна "памятае" сябе, ствараючы ў гэтай бездзеяслоўна-разрэджанай прасторы калыханкавы напеў над калыскай "душы". Гук трымае настрой, гук абуджае сімволіку, уступаючы ў сэнсавую апазіцыю мякка-пяшчотнага "л" з калючымі, золкімі, халоднымі "б-р", асабліва ў сэнсава важным зрокавым контрапункце: чысцюткія далі "*белага* бязлюддзя" і "*чорны* астравок" вёскі. І так нараджаецца знакамітая празрыстасць Жукавай мастацкай інтанацыі; літаратура ў такіх выпадках не сумняваючыся піша сваё імя з вялікай літары.

Вось чаму і падаецца, што творчасцю А.Жука беларуская проза нібы развітваецца з класічным сваім варыянтам. Яе ўсё адчувальней пацясняе сёння, калі так можна сказаць, "камп'ютарная графіка" беларускай прозы. Са сваімі спецэфектамі, з шокава выпукленымі элементамі канструктываў. Можа, так і неабходна. Можа, і трэба так. Але гэта іншы літаратурны дыскурс.

Мне штосьці настойліва падказвае: жывога сведчання ніякі "спецэфект" замяніць не ў стане, як нішто не ў стане падмяніць муляжом канкрэтны чалавечы лёс. Заўсёды ёсць патрэба глытка крынічнай чысціні. Асабліва ў дні цяжкіх, неўтаймоўных роздумаў і сумненняў, як адхланне. І мы не адзін раз будзем вяртацца на гэты Жукаў паўстанак вялікага шляху беларускай прозы. Стаіць ён не ўзбоч магістралі. Тут вельмі моцна чуцён павеў і вятроў мінулага, і вятроў будучыні.

**Ігар ЖУК**

# ЗАЛАТАЯ РУЖА

ў самоце блізкіх што сёння гляне
так як і ўчора нямым дакорам
ты знойдзеш сілу пазбегнуць смерці
якая скрозь у табе як мора
дык стань сама сабе апорай
вінтом у руху верталёта
"вінтом" у венах твайго брата
прымі ў сябе ўвесь цяжар неба
зямлі імгненнасць і
пакору

спыні зямное існаванне
на ўсходзе Сонца
Залатая Ружа

*1999 г.*

***

як птушка што не мае крылаў
як рыба без плаўнікоў
як вада што з зямлі застылай
прарываецца зноў і зноў

я цяку і плыву і падаю
у падзенні намацваю дно
да апошняга сабраць адно цэлае
мне не дадзена ўсё адно

таемнасць людскую спазнаць немагчыма
у кожнай травінцы пад снегам Айчына

і толькі глядзець ў вечаровае неба
і толькі прасіць аб скарыначцы хлеба

большага няможна прасіць у Бога
горад наперадзе
перад ім дарога

*10, красавік, 2000 г.*

## ЗМЕНЫ

1

перакладзі мяне на колер снегу
які знікае пры сцісканні дня
калі праходзіць Сонца круг
з разбегу
ўдараецца аб цвердзь зямную
як страла

і сее водбліскі-праменні Залатога Часу
калі парушваюцца межы
і спакой
сыходзіць на цвіценне буйных красак
з людзьмі іх можна параўноўваць між сабой

якія зноў збяруцца на Вячэру разам
ў хвіліну тую за сталом
пакінуць справы ўсе
і дарагім алмазам
засвеціць ў келіхах чырвонае віно

і будзе Нехта Хто Адзіны
перакладзе праменняў сонечных пажар
на мову чалавечага збаўлення
І прыме на Сябе увесь цяжар

ісці па тонкай-тонкай нітцы

дацъ каралеўне выкупацъ Сябе ў рацэ
якая ўецца па-над намі
калі бывае гэтак добра спіцца
нібыта сам купаешся ў гаючым малацэ

**2**

“але ж пазнанне... веды...”
вярэдзіць хітры розум
згарае пэўна ўсё
што можна ўзяць таемнае з сабой?
часцінку холаду з начное ружы
напоенай сцюдзёнаю расой

халоднасць валуноў якіх зямля прыняць не хоча
расказваюць людзьмі былі яны
не вытрымалі клятвы
а мо хто сурочыў

ляжаць застылыя
здалёк усім відны

ў падмурак гаспадар кладзе іх потым
прынесеныя з чатырох палёў
трымаюць моцна дом
бароняць
жыццё і зерне набытак чалавечы
ад непагадзі сцюжы і вятроў

ў маўчанні снегу ўсё што ёсць было і будзе
прыпынак і пачатак рух зямных асноў
прашу цябе аб невялікім цудзе
за-моваю пачаць наш свет замоў

16, люты, 1999 г.

 



## АБРАЗ МАЦІ БОЖАЙ УЛАДЗІМІРСКАЕ

усміхаецца Маці Божая
на руках Яе Сын Вяльможа
абняў Сваю Маці не рукамі
дыханнем
ў самае першае ранне

у золаце-агні сядзіць Марыя
пад Яе прастолам бездані марскія

як пушынка на вадзе
так прастол Марыі
хто яго адрыне
той сябе адрыне

ціхая ўсмешка
сонны пах лілеяў
гэта толькі потым
Маці абамлее

і ў другі раз і ў трэці
аж зойдзецца сэрца
ведаць
скон Яе Сына
вышэй над смерцю

*7, люты, 2000 г.*

***

шэрай асноваю снежань выснуе
тое што студзень і люты выслявяць
карункамі шэранню
птушыным ціўканнем



 

каляны
кляновы
Міколам скаваны
саломай засланы
без цвікоў збудаваны
мост перакінецца
з дому
у дом
з сэрца
у сэрца
душа абракнецца

*12, кастрычнік, 1999 г.*

***

пад Смедзіным пахне мёдам і смерцю
хоць які там у смерці пах!
смерць гэта мерка і вагі часу стагоддзяў
няўлоўная нібы самы найвольны птах

смерць прымушае знікаць аблічча
пераўтварыцца ў раку ці ў агонь
нездарма немаўляты
што з цёмнага матчына лона выйшлі
словы продкаў сваіх спачатку не вымаўляюць
твар у кожнага з іх аднолькава пекна-ружовы
нібы адна чыясьці далонь

ўсе мы твары Зямлі *твари земные*
Боскі лік не бачыў не ўбачыць з жывых ніхто
Бог у смерць як у кветку плача
увайшоў каб перастварыцца
нязменна жывы адзін хіба толькі крот

што жыве пад зямлёй

і ўсё нешта капае капае
ані зла ён не чыніць нікому ані дабра
што ён Сонца не бачыць
пра тое нікольні не дбае
больш чым Сонца яму
глухая з імхом нара

*1998 г.*

***

чаму да цябе не прыходзяць анёлы?
а можа ты сам не даеш ім прыйсці?
бо дзверы і вокны ў двары застаўлёны
ад Бога ад люду ад згукаў вясны

стаяць гэтак будзе анёл усю ночку
туліцца да ліштваў ды зоркі лічыць
а ў вокнах так чорна чарней не бывае
нельга анёлу свой лік адкрываць уначы

чалавеку таксама няможна
ў люстры шыбін глядзець дзе святла няма
неяк глянуў знаёмы а пад раніцу занядужыў
прывід убачыў з рагамі казла

анёлы аднак праз сон заходзяць бывае
штось дзівоснае творыцца ў сне
а на світанні ўсё знікае
рай рассыпаецца ў цьмяным акне

мроіцца тое што немагчыма
сустрэць на зямлі
гэтак цёпла і вольна ва ўлонні Айчыны
дзе калісьці ўсе былі

*1998 г.*

# КЛАСІЧНЫ ФУТБОЛ

дзе па каранях гуляе вада
там ты і я
дзе дрэва робіць адчайны ўзмах
там наша безмоўнае “ах”!

п’ем за Бога з табой
які тут на зямлі
зладзіў вёслы для чоўна
каб мы дапльшлі

з часу скрадзенага
ў час складзены
з часу зраненага
ў час ранішні

дзе на полі гарлачыкавым
зоркавыя матчы

*12, кастрычнік, 1999 г.*

***

і гэты свет як боль народзін
сябе пазбыцца
нідзе ні ў чым не паўтарыцца

здавалася б падобныя нарцысы
ці руні парасткі на полі
але ж падобныя
не болей

мінулы час не дакарай
твой Вырай
не мой рай

вяртаецца з Выраю птушка Рух
туды дзе творыць чалавечы Дух

*травень, 2000 г.*

Леанід МАРАКОЎ

# ІВАНОЎ

*Апавяданне*

Іваноў злавіў сябе на тым, што ўжо і думае па-руску... Абрусеў за нейкія паўгода. Хутка... Памяць бярэ сваё, памяць не падманеш...

Бацька пакінуў Расію на караблі французскай эскадры, што адыходзіў з Севастопаля ў лістападзе дваццатага апошнім. Яшчэ ў васемнаццатым, калі яму перадалі, што "тыя, што так любяць падпальваць дамы, пад Мсціславам спалілі і "дом палкоўніка", бацька пачаў шукаць смерці. Ён хацеў загінуць у баі з гэтай чэрню, забраўшы з сабой дзесяткі, сотні "чырвоных". Ён ваяваў з бязмежным адчаем і ўменнем, набытым яшчэ ў Германскую. Чырвоныя баяліся ягонага палка як чумы. Яны ведалі: да "адборнага" можна падыходзіць не менш чым з дзесяціразовай перавагай. Афіцэры палка, у якім не было радавых, нават параненыя, забіралі з сабой у магілу па некалькі будзёнаўцаў. Але ўсё было дарэмна. Парадак перамагаў натоўп, аднак шматлікі натоўп, "масы" перамаглі парадак. Тады, на параходзе, бацька не застрэліўся. Ён быў дастаў пісталет, але паглядзеў на жонку і сына і зразумеў: без яго на чужой зямлі слабая на здароўе Наталі і васьмігадовы Міця не выжывуць.

Праз год сын пайшоў у школу, адразу ў трэці клас. У французскую школу. З шасці гадоў яго вучылі мове Напалеона. Ад усіх гэтых *Monsieur Dimitrie, commencons notre lecon par ce que*

*nous avons appris hier... Et bien, repetons la conjugaison des verbes du troisieme groupe...** у яго пад вечар галава йшла кругам. Бацька тады жартаваў, звяртаючыся да маці:

– І навошта яму французская? Я разумею, гадоў сто таму, калі Банапарта "праводзілі" да Парыжа, – так. А цяпер?..

Калі апынуліся ў Францыі, выявілася – "мучалі" французскай яго не дарэмна...

У пятнаццаць ён захапіўся Гётэ, а ў семнаццаць – ужо быў студэнтам Берлінскага універсітэта. Вучылася яму лёгка, і зноў, як і ў Францыі, ён заняўся сваім любімым бегам. Праз год яго заўважылі трэнеры, і на чацвёртым курсе "француз" стаў чэмпіёнам універсітэта. Неўзабаве яго "негалосна" ўключылі ў маладзёжную зборную і нават пачалі рыхтаваць (з перспектывай змены грамадзянства) да чарговай алімпіяды. Заканчваўся 1933 год... Мяняўся час, мяняліся норавы. Рабіўся іншы і ён. На канікулах, перад апошнім курсам, яго запрасілі ў адзін старадаўні двухпавярховы будынак, з якога ён выйшаў ужо іншым чалавекам. Потым – зноў вучоба. Два гады па дваццаць чатыры гадзіны ў суткі... Вучоба, падчас якой ён не раз мог папросту сканаць. Але ўсё калі-небудзь канчаецца. Скончыліся і тыя два гады. Прайшоў яшчэ год... І вось ён тут – у Амурдальлагу. Тут усё толькі пачыналася...

Легенда спрацавала ідэальна. Іваноў атрымаў "свае паўтара" за хуліганства, і траціна тэрміну ўжо прайшла. Ён разумеў, што праграма яго засылкі працяглая, але ўсё ж яму здавалася (не, цяпер ён быў перакананы ў гэтым), што калі б "там" ведалі, што азначае "ўсяго паўтара года" ў Амурдальлагу, дык арганізавалі б іншы варыянт яго "ўваходжання". Суткамі галадаць, не спаць, не размаўляць у сне, цярпець неймаверны боль, бараніцца, не паказваючы, што ты можаш у імгненне вока забіць, – яго навучылі яшчэ "там".

* Спадар Зміцер, пачнём з учарашняга матэрыялу... такім чынам, паўторым спражэнне дзеясловаў трэцяй групы... *(франц.)*

Але спакойна назіраць, як забіваюць за акрайчык хлеба, як гвалтуюць, ён так і не навучыўся.

У тую ноч "звяры" абступілі Міцюню. Хлопец быў худы і слабы. Раніцай яго меліся перавесці ў "дахадзягі", і гэтая ноч была апошняй для яго ў іхнім бараку. Звалі хлопца, як і яго калісьці, – Міця. "Звяроў" было шасцёра. Па адпрацаванай схеме з розных бакоў яны накінуліся на хлопца і звязалі яго. Спачатку да Міцюні палез галоўны. Звер – ён і ёсць звер. Не даведаўся гэты ўркаган, чым закончыўся апошні напад на Міцю...

Раніцай, калі "вертухай" закрычаў "Пад'ём!", шасцёра з "цэнтральнага сектара" не падняліся. Не напалохаў іх і крык "Прыстрэлю!". Гэтыя шасцёра ўжо анікога не баяліся. Мёртвыя не баяцца. Пасля, калі было вызначана, што ўсе "заключенные умерли вследствие перелома шейной части позвоночника...", у лагер прыбыла цэлая брыгада энкавэдыстаў. Нічога следчыя не дазналіся, але чатырох западозраных зэкаў, чые нары былі бліжэй за іншыя да нараў загінуўшых, і дзяжурнага па бараку вырашылі расстраляць. Дзяжурным, пятым, быў Іваноў. Ноч ён не спаў, і калі на досвітку падымалі, паспеў заўважыць, што забіраюць іх навічкі з трэцяга ўзвода. Відаць, камандзір вырашыў, што першагодкам ужо час прайсці "хрышчэнне", як называў ён першы ўдзел у расстрэле...

Іх вялі доўга. "Зялёныя" яўна цягнулі час. Не проста гэта – забіваць упершыню. І яны ішлі... Дзесяць салдат, памкамузвода і пяць зэкаў усё далей адыходзілі ад лагера. Краем вока Іваноў, які ішоў апошнім з асуджаных, увесь час кантраляваў адлегласць паміж сабой і малодшым лейтэнантам, які ішоў за ім. Ён адразу прыкмеціў новенькую кабуру на яго рамяні, па якой лейтэнанцік нервова паляпваў прыгожаю даўгапалаю рукою. Калі адлегласць паміж імі чарговы раз скарацілася і памкамузвода пачаў выцягваць пісталет, Іваноў глыбока ўдыхнуў халоднае паветра і рашыўся. Трэ-

ніраваныя рукі, як і ў тую ноч, дзейнічалі маланкава. Ударам локця ў лоб Іваноў забіў лейтэнанціка, які так і не паспеў прайсці "хрышчэнне". Левай рукой ён прыціснуў да сябе за шыю цела-шчыт, а правай вырваў пісталет з рукі, што ўсё яшчэ чаплялася за яго. "ТТ" – навобмацак пазнаў Іваноў зброю, якая стала для яго роднаю за два гады. "Хорош, а с ТТ – просто бог", – казалі пра яго. Што ж, паглядзім на бога... Калі салдаты пачалі страляць, "шчыт" прыняў першыя кулі, і лейтэнанцік канчаткова перастаў торгацца. Адыходзячы з целам ад канвою, Іваноў убачыў, як чацвёра смяротнікаў пабеглі. Яны скарысталі пярэпалах стралкоў і цяпер, як маглі, уцякалі ад смерці. Яны беглі, але "шчытоў" у іх не было, і яны падалі... Страляючы ў яго, "зялёныя" не забыліся і пра іншых...

Іваноў адыходзіў усё далей і далей, нарэшце ён адкінуў абмяклае цела лейтэнанціка і рвануў у бліжэйшае кустоўе. Прабегшы колькі дзесяткаў метраў, рэзка звярнуў налева, зноў прабег, яшчэ раз звярнуў і, толькі апынуўшыся за дзесятак крокаў справа ад стралкоў, спыніўся і замёр. "Зялёныя" за ім не пагналіся, а бязладна стралялі па кустах. Неўзабаве стральба спынілася, салдаты заціхлі, прыслухоўваючыся. Двое пайшлі дабіваць уцекачоў – "хрысціцца", – а астатнія – за Івановым, дакладней, да таго месца, дзе ён быў усяго некалькі хвіляў таму. Але Іваноў іх не баяўся: ён са зброяй, а стралкоў усяго дзесяць...

Сілуэты апошніх двух, якія яшчэ не паспелі сысці са сцежкі, ён цяпер разглядваў пад мушкай пісталета. Прыцэліўшыся, Іваноў двойчы націснуў на курок. Нібы ад удара бізуном між лапатак, стралкі раскінулі рукі і ўскрыкнулі. Ускрыкнуць яны паспелі, але падняцца ўжо не змаглі. "Засталося восем", – адзначыў Іваноў. Стралкі нечым нагадвалі будзёнаўцаў, якіх ён аднойчы бачыў з-за бацькавай спіны, за што потым яму моцна ўляцела. Тыя таксама бегалі па полі гуртам назад-наперад. Толькі тады на месцы дзесяці

забітых "вырасталі" сотні новых, а цяпер новых не відаць. Пакуль што...

"Трэба спяшацца", – вырашыў Іваноў, але не пабег, а павольна і бясшумна адыходзіў ад крывавай сцяжынкі. "Яшчэ восем", – паўтарыў сам сабе.

Стралкі, хоць і былі "зялёныя", неўзабаве скемілі: "Ён недзе звярнуў..."

Пакуль яны знайшлі гэтае "недзе", Іваноў ужо стаяў метраў за дваццаць ззаду ад апошняга ў іх ланцужку. І зноў, не спяшаючыся, прыцэліўся і націснуў на курок. Беганіны не было, стаяла цішыня, і яму здалося, што стрэл прагрымеў як выбух гранаты. Апошні ўпаў. Куля перабіла яму хрыбетнік, і ён амаль адразу перастаў дыхаць. А між дрэў яшчэ ляцеў яго перадсмяротны крык...

Сямёра астатніх самі пападалі на зямлю і, як іх вучылі, распаўзліся ў правільную кругавую абарону.

"Малайцы! – пахваліў Іваноў. – Цяпер час адысці". Але з месца ён не зрушыў, а, прысеўшы, стаў назіраць, куды "зялёныя" будуць распаўзацца далей. Заціхлі і разгубленыя стралкі, прыслухоўваліся, чакалі: можа, уцякач паварушыцца, выдасць сябе?.. Чакаў і Іваноў.

Пастуупова "зялёныя" асмялелі, пачалі перагаворвацца, а ён трывожыўся толькі пра адно: ці чутны стрэлы ў лагеры? Калі чутны, дык трэба адыходзіць, калі не, дык стралкоў засталося ўсяго сем... Тут ён заўважыў, што салдат, які вылучаўся сярод іншых навабранцаў ростам і спачатку ішоў за лейтэнантам, а потым – усярэдзіне групы (таму і застаўся жыць), пачаў азірацца, павольна падымацца, паказваць сваю смеласць, сваю перавагу над астатнімі – перавагу новага старшага. І дарэмна. Куля прашыла яму горла, і ён не паспеў нават закрычаць.

"Шэсць, – машынальна адзначыў Іваноў. – Амаль палова". Гэтыя шэсць працягвалі ляжаць у кругавой абароне.

"Трэба пашумець, – вырашыў Іваноў, – бо так яны мо-

гуць праляжаць і да прыходу падмогі". І ён пабег. Пад нагамі трашчалі апалыя галінкі, шамацелі кусты і галіны дрэў. "Вертухаі-і-і", – аддаваўся рэхам ягоны крык... Шум заціхаў, і, як ён і меркаваў, гэта надавала першагодкам смеласці. Яны кінуліся следам за ўцекачом.

"Што ж, ужо весялей, – падумаў Іваноў. – Пагуляем у дагонкі". Але пабег не проста, а наўскасяк, па дыяганалі, далей ад сцяжынкі і лагера. Стралкі былі маладыя, моцныя, але ж не чэмпіёны Берлінскага ўніверсітэта, і неўзабаве даволі далёка адсталі. "Спякліся "зялёныя", – спіной адчуў Іваноў і, спыніўшыся, прыціх, прыслухаўся: – цяпер адысці крыху ўправа і чакаць..."

Прайшлі доўгія хвіліны, перш чым паказаліся задыханыя стралкі. Яны ўжо стаміліся бегаць, стаміліся і баяцца, асмялелі, не хаваліся, амаль не азіраліся па баках. Яны ўвайшлі ў шал пагоні, ператварыліся ў паляўнічых. У азвярэлых паляўнічых...

Іваноў зноў прыцэліўся. Калі ўбачыў жывы ланцужок людзей, яго таксама ахапіў азарт, нахлынула непераадольнае жаданне забіць усіх адразу. І калі стралкі праносіліся паўз яго, ён націснуў на курок раз, потым яшчэ і яшчэ... Трое салдат упалі, астатнія залеглі. А Іваноў усё страляў, страляў... Спыніла яго толькі нечаканая цішыня... "Нервы, – падумаў ён. – Нервы, як памяць, не схаваеш... Дарвін меў рацыю..."

Зразумелі стралкі, што пісталет уцекача ўжо без патронаў. Яны падняліся і рушылі ў яго бок. Паляўнічыя набліжаліся да здабычы...

Ужо лезучы на сасну, Іваноў паўтараў: "Трое... Іх толькі трое..."

Тут некалькі соснаў стаялі блізка адна ад адной, і была магчымасць пераскочыць з дрэва на дрэва. Вось ён і палез на бліжэйшую... "Дарвін меў рацыю", – зноў чамусьці падумаў Іваноў...

Стралкі падыходзілі да яго павольна, яны пачалі ўжо расцягваць асалоду. Цяпер яны адвядуць свае душы... Калі

адзін з тых, што акружалі сасну, на якую на іх вачах залазіў уцякач, апынуўся спінай да Іванова, ён скочыў... Набліжэнне смерці падказала стралку інтуіцыя, але выратаваць не змагла. Ударыўшы ручкай ТТ стралка, які паспеў развярнуцца да яго тварам, Іваноў адразу ж кінуў яго на бліжэйшага "паляўнічага", а сам скочыў да трэцяга і рвануў яго за вінтоўку. Дакладна пралічыўшы, што стралок цяпер ўчэпіцца ў яе намёртва, скарыстаў гэта і, змяніўшы цэнтр цяжару, развярнуў яго перад сабой. Як аказалася, своечасова. Другі стралок паспеў адкінуць ад сябе мёртвага таварыша і, убачыўшы ненавісную куфайку, імгненна ўскінуў вінтоўку і націснуў на курок. Ціснучы на курок, ён бачыў, як куфайка мяняецца на шынель. Ён разумеў, што адбываецца, але палец яго не слухаўся... Куля пранізала стралка наскрозь, але Іванова не закранула... "Гэта ўжо не гены і не Дарвін, – падумаў ён. – Гэта ўжо Бог..."

"Фініш, сябра", – прачытаў у вачах Іванова апошні жывы стралок і ў жаху ірвануў у лес, за дрэвы, у нікуды, далей ад гэтай незразумелай істоты, што нясе смерць. Але стралок не быў чэмпіёнам Берлінскага універсітэта... І паляўнічы ператварыўся ў здабычу.

Вартавы на бліжэйшай да лагернай брамы вышцы першым заўважыў зэка, які бег уздоўж дротавай загароды. "Гэта ўцёкі!", – зразумеў навічок з трэцяга ўзвода, цэлячыся ў куфайку зэка, і праз хвілю стаў "хрышчоным". Калі да падстрэленага падбег камандзір, вусны пераапранутага ў зэкаўскае адзенне першагодка з дзіўным для тутэйшых мясцінаў імем Змітрок яшчэ варушыліся:

"Ён чамусьці назваў мяне будзёнаўцам, спытаў па-нашаму, як завуць, і адпусціў...", – сказаў Змітрок апошнія ў сваім жыцці словы на роднай мове і замоўк...

...І праз дваццаць гадоў кожнага ахоўніка-навабранца, які трапляў у Амурдальлаг, абавязкова падводзілі да фотапартрэта чалавека, подпіс пад якім заканчваўся так: "ЗАПОМНИ СЛУЧАЙ С ИВАНОВЫМ".

# ВЕРШ

Хто сказаў, што мой радок кульгавы?
Гэта ўсё трызненні ды лухта!
Мой радок наогул не рухавы –
паўжывы ад носа да хваста.

Верш мой страшны, брыдкі, непрыгожы.
Пэўна, ён усіх ужо дастаў!..
Ні кульгаць, ні крочыць ён не можа,
бо яго паралюш распластаў.

Ад ангіны, тыфусу й халеры
мучыцца лірычны мой герой.
Не сяджу я доўга ля паперы,
бо інакш падхопіш гемарой.

Верш мой – барадаты і агідны,
без зубоў, без вуха, без рукі.
Едуць у калясцы інваліднай
паралізаваныя радкі.

*11 ліпеня 1997 г.*

# ПРА ХЛЕБ

Наш хлеб надзённы хутка скісне:
куснеш – і сківаца адвісне.
Спачатку гэта. Ну а потым

ты абальешся чорным потам,
бо вушы, зубы, нос і вочы
аж на патыліцу заскочуць,
а сэрца, ныркі і пячонка
наогул выкінуцца вонкі.
Рука змяшаецца з нагою,
а шыя выгнецца дугою.
Набракне горб з трыма насамі,
увесь пакрыты валасамі.
Вось будзе так, калі куснеш.
Ай, лепей ты яго не еш!

*3 чэрвеня 1998 г.*

* * *

Я – стваральнік зарослых быллём
дэканструкцый,
растваральнік самотных і светлых ілюзій,
затыкальнік вушэй ад сухіх інтрадукцый,
забівальнік мышэй у гнілой кукурузе.

Я выношваю ў торбе уран ды плутоній,
назіраючы бляск ланцуговых рэакцый.
Я – спрадвечны шукальнік інакшых гармоній
у кутах слізгацення праменных дыфракцый.

Незнарок наступіў я на папараць-кветку,
заблукаўшы ў сутонні тэхнічных рэалій.
Я выцягваю палец з абрыдлай разеткі.
На душы асядае цыяністы калій.

# АЎТАТАЎТАЛОГІЯ

Я не ўяўляю сабе
сябе
не ў сабе.
Я ў сабе
сам па сабе –
і гэта само сабой.
А калі я ўяўлю сабе
сябе
не ў сабе,
я скажу сам сабе
пра сябе:
"Ну нішто ж сабе!"
Лепш быць самім сабой
і ў сабе, і па-за сабой!

# ВАНДРОЎНІК
# І МУМІЯ

Спускаюся.
Уніз па змрочнай вузкай лесвіцы.
І нарэшце
ногі мае намацваюць
апошнюю прыступку ў твой пакой.
Тут прахалода і пахі
эфірных алеяў і едкага натру.
Тут, у нямой цішы спачывальні,
амаль як жывая,
пачэсна ляжыш
ты,
апранутая ў бінты.

І ты тут мусіш спаць глыбокім сном
роўна дваццаць чатыры гадзіны ў суткі.
І гэтак кожны дзень.

Ты здрадзіла мне з тым,
хто цябе бальзамiраваў:
ён трымаў у сваёй руцэ
пры святле перламутравай поўні
тваё сэрца, якое ты
некалі падарыла мне.
А яно дасталося яму,
але ён не ўмее цаніць каханне
і замураваў тваё сэрца
ў цесны гліняны каноп.

У пакоі над ложкам тваім
вісіць бліскучы тэрмометр,
быццам бразготка над калыскай дзіцяці.
Спіртовы пунсовы слупок
не павінен варушыцца, мяняць свой узровень.
Ён застыў назаўсёды,
як застыў на твары тваім
халодны выраз спакойна-трагічнай усмешкі.
Няўжо табе будзе абыякава нават тады,
калі я дакрануся да цябе
вуснамі?

Той, хто цябе бальзаміраваў,
умеў дакранацца толькі нажом,
рассякаючы тканіны жывыя й мёртвыя.
Ён разразаў тваё цела ўздоўж
і трошкі ўпоперак,
усаджваючы свой інструмант
глыбока-глыбока, быццам жадаючы

намацаць лязом тваю душу,
хаця душа твая адляцела ў вырай.
І ніхто шчэ з табою не быў
у такіх блізкіх зносінах, як ён,
але ты нават не дала яму аплявуху,
здрадніца!

Ён трымаў у сваіх руках
тваё сэрца, і печань, і лёгкія,
а ягоны белы бультэр'ер
сядзеў побач і гайдаў хвастом,
і сліна сцякала з ягонага языка
і кроплямі падала на пясок...

Час у тваім жытле (мяртле)
спыніўся,
але кавалачак яго
я прынёс унутры сябе,
і вось ён штурхае мяне,
падаючы знак
сыходзіць.

— Бывай, — кажу я табе,
пакідаючы твой пакой.

— Бывай... — адгукаюцца рэхам
белакаменныя скляпенні.

— Бывай... — паўтараюць за імі
цёмныя калідоры.

— Бывай... — напаўняюцца адгалоскамі
халодныя сутарэнні.

Толькі ты маўчыш,
бо ніяк не можаш развітацца са мною.

## У ЧАКАННІ ЭКСГУМАТАРА

Мы пахавалі сябе з музыкай
яна гучыць і дагэтуль
патанае ў завялых вушах
мы разумеем што яшчэ жывыя
думаем як бы раскапацца
ды не можам
усім лянота
чакаем калі прыйдзе эксгуматар

## ЧАТЫРЫ ЭЛЕКТРЫЧНЫЯ КРЭСЛЫ

Чатыры электрычныя крэслы
пазіраюць у электрычную столь.
Паміж імі ў пакойчыку цесным
стуліўся электрычны стол.

На стале – электрычны ножык.
Пад сталом – электрычны таз.
Ля стала – электрычны ложак,
а на ім – электрычны матрас.

На электрычнай паліцы –

стос электрычных кніг.
Праўда ці небыліцы –
не ведаю. Не чытаў іх.

А на электрычнай падлозе,
пазабыўшыся на ўсякія меры,
у наэлектрызаванай позе
спачывае гаспадар кватэры.

*19 ліпеня 1998 г.*

* * *

Таму, хто народжаны лётаць,
поўзаць не заўсёды дадзена.
Няхай жыве й квітнее балота
ды поўзаюць там розныя гадзіны!

А паэтаў вабіць прастора.
Паэты бягуць за пегасамі.
Яны марацць, каб нехта іхнія творы
прачытаў і сказаў: “Не фіга сабе!”

Але часта замест летуценняў
У мазгах ціха боўтаецца рэчыва шэрае.
І здаецца тады, што натхненне –
гэта толькі расколіна ў чэрапе.

**1917, 21 снежня** – *нарадзіўся ў Кёльне ў каталіцкай сям'і. Яго бацька ў гэты час быў мабілізаваны ў ландштурм. «...У самы горшы галодны год сусветнай вайны на свет прыйшло яго восьмае дзіця; двое дзяцей ён мусіў пахаваць зусім малымі»* (Г.Бёль. «Пра сябе самога»).

**1937 – 1939** – *пасля заканчэння гімназіі працуе столярам, вывучае кнігагандлярскую справу.*

**1939 – 1945** – *мабілізаваны ў вермахт; служыць у дзейнай арміі на франтах ад Францыі да Украіны; напрыканцы вайны трапляе ў амерыканскі палон.*

**1945 – 1951** – *пасля вяртання ў Кёльн вывучае германістыку, адначасова працуе, напачатку дапаможным рабочым, пасля службоўцам.*

**1947** – *апублікаваныя першыя апавяданні Г.Бёля, якія пазней увойдуць у яго першы зборнік малой прозы «Вандроўнік, як прыйдзеш ты ў Спа...» (1950); празаік Ганс Вернер Рыхтэр засноўвае «Групу-47», што аб'ядноўвае літаратараў антырэваншысцкіх поглядаў; да гэтай групы неўзабаве пачынаюць адносіць і Генрыха Бёля (група існавала да канца 60-х гадоў).*

**1948** – *напісана аповесць «Запавет» (доўгі час лічылася згубленай; надрукаваная ў 1982 годзе).*

**1949** – *выдадзеная аповесць «Цягнік прыйшоў своечасова».*

**1951** – *Генрых Бёль атрымлівае сваю першую літаратурную прэмію – ад «Групы-47»; выходзіць яго першы раман «Дзе ты быў, Адаме?»; з гэтага часу Бёль цалкам прысвячае сябе літаратурнай творчасці.*

**1953** – *з'яўляецца раман «І ніводнага*

*слова ён не сказаў...»; радыёп'есы «Дзень як звычайна», «Манах і разбойнік».*

**1954** – *раман «Дом без гаспадара».*

**1955** – *аповесць «Хлеб ранніх гадоў»; зборнік навел «І стаўся вечар, і сталася раніца»; радыёп'еса «У доктара Борзіга пры гарбаце».*

**1956** – *зборнік сатырычных навел «Нечаканыя госці».*

**1957** – *аповесць «Даліна, дзе грукаюць капыты»; дарожныя нататкі «Ірландскі дзённік».*

**1958** – *зборнік сатырычных апавяданняў «Маўчанне доктара Мурке ўсё разам».*

**1959** – *раман «Більярд а палове дзесятай»; зборнік малой прозы «Цымпрэнскі вакзал».*

**1961** – *зборнік «Апавяданні, радыёп'есы, артыкулы».*

**1962** – *кніга апавяданняў «Калі вайна пачалася. Калі вайна скончылася»; тэатральная п'еса «Глыток зямлі».*

**1963** – *раман «Вачыма клоўна».*

**1964** – *аповесць «Пакінуўшы вайсковы строй».*

**1966** – *аповесць «Канец аднае камандзіроўкі»; «Франкфурцкая лекцыя».*

**1967** – *Бёль атрымлівае адну з самых галоўных нацыянальных літаратурных узнагарод – прэмію імя Геарга Бюхнера. У беларускай перыёдыцы з'яўляецца першы пераклад бёлеўскага апавядання на беларускую мову.*

**1969** – *тэатральная п'еса «Лепра».*

**1971** – *раман «Групавы партрэт з дамаю»; Бёль абіраецца прэзідэнтам Міжнароднага ПЕН-Клуба (займае гэтую пасаду да 1974 года).*

**1972** – *Генрыху Бёлю прысуджана Нобелеўская прэмія ў галіне літаратуры.*

**1974** – *аповесць «Зняслаўлены гонар Катарыны Блюм, альбо Як узнікае гвалт і да чаго ён можа прывесці».*

**1977** – *зборнік палітычнай публіцыстыкі «Інтэрвенцыя непажаданая. Сучасныя нататкі».*

**1978** – *у Кёльне выходзіць 10-томны Збор твораў Генрыха Бёля.*

**1979** – *раман «Клапатлівая аблога», зборнік малой прозы «Ты зачаста ездзіш у Гайдэльберг» ды іншыя апавяданні». Разам з*

 



*Гюнтэрам Грасам і Зігфрыдам Ленцам Бёль адмаўляецца ад атрымання дзяржаўнай узнагароды «Крыж заслуг перад Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй».*

**1981 – 1982** – *зборнікі прозы і публіцыстыкі «Што з хлопца будзе?», «Замініраваная мясцовасць».*

**1984** – *празаічныя зборнікі твораў разнастайных жанраў «Пярэчанні і ўхвалы», «Більд – Бон – Бёніш».*

**1985**, **16 ліпеня** – *Генрых Бёль паміpae ў гарадку Лангенбройх на Айфелі.*

**1986 – 1987** – *пасля яго смерці ўпершыню выходзяць у друку: раман «Жанчыны перад рачным краявідам», зборнік вершаў «Мы прыйдзем здалёку», кніга дарожных нататак «Рым з першага погляду. Падарожжы, гарады, мясцовасці».*

**1993** – *у Мінску ў выдавецтве «Мастацкая літаратуры» па-беларуску выходзіць зборнік прозы Генрыха Бёля, куды ўвайшлі раман «Більярд а палове дзесятай» і шэраг лепшых апавяданняў.*

**1996** – *у сталічным выдавецтве «Беларусь» на беларускай мове выпушчаны раман Бёля «Дом без гаспадара» (серыя «Школьная бібліятэка»).*

*У розныя гады Генрых Бёль быў таксама ўшанаваны літаратурнымі прэміямі імя Рэнэ Шыкеле, імя Эдуарда фон дэр Гайта, імя Шарля Вэёна, прэміямі гарадоў Вуперталя і Кёльна, медалём імя Карла фон Асецкага. Ён абіраўся прэзідэнтам Нямецкага ПЕН-Цэнтра, сябрам Баварскай акадэміі мовы і літаратуры, ганаровым доктарам універсітэтаў Дубліна, Эстана, Бірмінгема, Оксбрыджа.*

**Падрыхтаваў**
**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**



 

**Ён**

# Сяброўка з доўгімі валасамі

Было дзіўна: якраз за пяць хвілін перад тым, як пачалася аблава, мяне ахапіла пачуццё няўпэўненасці... я нерашуча азірнуўся, а потым павольна пайшоў уздоўж Рэйна ў кірунку да станцыі; і мяне зусім не ўразіла, калі я ўбачыў, як побач, равучы сірэнамі, панесліся грузавікі-«вораны», у якіх сядзелі паліцыянты ў чырвоных шапках; яны атачылі гарадскі квартал, перакрылі ўсе ўваходы й выхады й пачалі татальныператрус. Усё адбывалася надзвычай хутка. Я стаяў якраз з вонкавага боку ўтворанага кола і спакойна прыпальваў цыгарэту.Ператрус рабіўся без ніводнага гуку. На зямлю ляцелі шматлікія недапалкі. «Шкада...» – падумаў я сабе і машынальна зрабіў невялікі падлік, колькі грошай гатоўкаю магло цяпер ляжаць пад нагамі. Грузавік хутка запаўняўся тымі, каго схапілі. Сярод іх быў і Франц... ён здалёк зрабіў жэст, поўны безнадзейнасці, які павінен быў азначаць толькі адно: такі вось лёс... Адзін паліцыянт павярнуўся ў мой бок. Я адразу ж пайшоў прэч. Але вельмі-вельмі павольна. Божа, няхай бы яны забралі мяне з сабою! У мяне больш не было аніякага жадання ісці ў сваю халупу, і я пацёгся далей, у бок станцыі. Сваім кійком я скінуў з дарогі невялікі ка-

меньчык. Сонца грэла моцна, а з Рэйна павяваў прахалодны лёгкі ветрык.

У зале чакання я аддаў Фрыцу, кельнеру, дзвесце цыгарэтаў з тых, што ў мяне былі, і засунуў атрыманыя грошы ў тыльную кішэню. Цяпер у мяне зусім не было тавару, сабе я пакінуў адзін пачак. Потым ў штурханіне я знайшоў вольнае месца і замовіў сабе мяснога булёну і трохі хлеба. Здалёк мне кіўнуў Фрыц. Але ўставаць з месца мне не хацелася. Таму ён сам паспешліва рушыў да мяне. За ім я ўбачыў малога Маўзбаха, зазывалу: здаецца, яны абодва былі моцна ўсхваляваныя. «Супакойся, чалавеча», — прамармытаў яму Фрыц і, трасучы галавою, пайшоў прэч, пакінуўшы ля мяне малога Маўзбаха. Той быў зусім загнаны. «Ты, – выдыхнуў ён, — ты... мусіш рабіць ногі... яны абшукалі тваю хазу і знайшлі бабкі...» Ён амаль захліпваўся ад хвалявання. Я паляпаў яго, заспакойваючы, па плячы і даў дваццаць марак. «Добра», — сказаў я, і ён пасунуўся прэч. Але тут мне яшчэ нешта прыйшло да галавы, і я аклікнуў яго. «Паслухай, Гайні, — сказаў я, — калі ты раптоўна дзе-небудзь надыбаеш кніжкі й палітон з маёй халупы... я тыдні праз два з'яўлюся зноў... разумееш?.. Усё астатняе, што ты знойдзеш майго, можаш пакінуць сабе». Ён згодна кіўнуў галавою. На яго можна было пакласціся – гэта я ведаў.

«Шкада... — зноўку падумаў я... — восем тысяч марак кату пад хвост... нідзе, нідзе не можна быць упэўненым...»

Адзін-два цікаўныя позіркі слізганулі па мне, калі я тым часам спакойна сеў на месца і абыякава памацаў сваю кішэню. Мяне ахінуў гуд натоўпу, і мне было зразумела, што анідзе я не мог бы заставацца гэтак сам-насам са сваімі думкамі, як тут, усярэдзіне збою, у мітуслівым вэрхале чакальні.

Раптоўна я адчуў, што мае вочы, нічога нідзе не бача-

чы, амаль аўтаматычна азіралі ўсё навокал, і ўвесь час спыняліся на адной кропцы, нібыта прыкаваныя насуперак маёй волі. Раз за разам мой абыякавы пагляд вяртаўся да таго месца, дзе ён застываў, а потым паспешліва слізгаў далей.. Я нібы пракінуўся з глыбокага сну і ўжо відушчым позіркам паглядзеў туды. За два сталы ад мяне, чытаючы газету, сядзела дзяўчына ў светлым палітоне, пад жаўтавата-бурай шапачкай былі бачныя чорныя валасы. Мне былі відаць адно яе крыху ссутуленая, нахіленая постаць, маленечкая частачка яе носа і мініяцюрныя, зусім спакойныя рукі. Бачыў я і ногі — прыгожыя, зграбныя і... напраўду дагледжаныя ногі. Не ведаю, як доўга я сядзеў, утаропіўшыся на яе; раз-пораз, калі яна перагортвала старонку, мой пабежны позірк схопліваў выцягнуты авал яе твару. Раптам яна падняла галаву і нейкую хвілю ўважліва разглядвала мяне вялікімі шэрымі вачыма, сур’ёзна і абыякава; пасля зноў узялася за чытанне.

Гэты кароткі позірк у мой бок патрапіў у мяне.

Цярпліва, хоць сэрца і білася ў гэтай хвілі моцна, я глядзеў, не адрываючыся, на яе, аж пакуль нарэшце яна скончыла чытаць газету, абаперлася на стол і з надзіва роспачным жэстам адпіла піва са свайго кухля.

Цяпер я мог бачыць увесь яе твар. Ён быў бледны, зусім бледны, рот маленькі, тонкія вусны, нос роўны, шляхетны... але вочы, гэтыя вялікія, сур’ёзныя, шэрыя вочы! Нібы жалобная аздоба, чорныя валасы доўгімі локанамі спадалі ёй на плечы.

Не ведаю, як доўга я сядзеў, утаропіўшыся на яе – былі гэта дваццаць хвілін, гадзіна альбо болей. У той час як яе сумны позірк усё больш занепакоена і ўсё больш імкліва прабягаў па маім твары, у ім не было выразу раззлаванасці, які бывае ў гэткіх сітуацыях у маладых дзяўчат. Неспакой быў... і таксама страх.

Ах, я зусім не хацеў яе занепакойваць альбо застрашваць, але не мог адарваць ад яе свае вочы.

Нарэшце яна хуценька ўстала, ускінула свой старэнькі заплечнік і імкліва пакінула залу чакання. Я пайшоў следам за ёю. Не паварочваючыся, яна ўзышла ўгару па сходах да бар'ера. Я ўчэпіста ўтрымліваў яе ў абсягу сайго пагляду, хуценька на хаду купляючы перонны білет. Яна атрымала вялікую фору, і я мусіў ухапіць свой кіёк пад паху і нават крыху паспрабаваў падбегчы. Але амаль ужо быў згубіў яе ў змрочным тунелі, што выводзіў да перона. Знайшоў на пероне: яна стаяла абапершыся на рэшткі старой разбуранай будкі-чакальні. Здранцвелы, я глядзеў на рэйкі. *Ніводнага* разу яна не абярнулася.

З боку Рэйна павяваў і гуляў па памяшканні халаднаваты вецер. Надыходзіў вечар. Шматлікія людзі з хатулямі й валізамі, скрынямі й заплечнікамі стаялі на пероне з нецярплівымі тварамі. Спалохана яны пaглядалі ў тым кірунку, адкуль дзьмуў вецер, і пакрысе мерзлі. Наперадзе цёмна-блакітным спакоем зеўрала вялікае паўкола неба, працятае жалезнымі кратамі станцыйнага будынка.

Пакульгваючы, я паволі хадзіў туды й сюды і раз-пораз кідаў позірк, каб пераканацца ў прысутнасці дзяўчыны. Яна ўсё яшчэ, усё яшчэ стаяла, з выпрастанымі нагамі, абапершыся на рэшткі мура, скіраваўшы пагляд на чорны пляскаты жолаб, праз які цягнулася нітка рэйкавай каляіны.

Нарэшце цягнік заднім ходам марудна запоўз пад дах станцыі. Пакуль я глядзеў у бок лакаматыва, дзяўчына на хаду ўскочыла ў вагон і знікла. На якія хвіліны я страціў яе за спінамі тых, што тоўпіліся перад дзвярыма. Але неўзабаве я згледзеў яе жаўтаватую шапачку ў апошнім вагоне. Я зайшоў у яе купэ і сеў насупраць – гэтак

блізка, што нашыя калені амаль што судакраналіся. Калі яна паглядзела на мяне, зусім сур'ёзна і спакойна, толькі крыху ўзняўшы бровы, я адразу ж прачытаў у яе вялікіх шэрых вачах: яна ведала, што я ўвесь час ішоў следам за ёю. Пакуль цягнік рухаўся ў цемру, што апускалася на зямлю, мае позіркі раз за разам бездапаможна натыкаліся на яе абыякавасць. Я не здолеў вымавіць аніводнага слова. Палеткі знікалі з вачэй, а вёскі паступова ахінала цямрэча. Мне зрабілася холадна. «Дзе мне паспаць бы гэтай ноччу, — думаў я, – дзе б знайсці сабе крыху спакою. Ах, калі б я толькі мог схаваць свой твар у гэтых чорных валасах. Нічога, і нічога болей не трэба...» Я прыпаліў цыгарэту. Тут яна кінула імклівы, але надзіва жвавы позірк на мой пачак. Я ўзяў яго і падаў ёй проста ў рукі, сказаўшы хрыплым голасам «калі ласка»; у гэтай хвілі мне здавалася, што сэрца зараз выскачыць цераз горла. Нейкія паўсекунды яна марудзіла. І, нягледзячы на тое, што было цёмна, я заўважыў, як чырвань ударыла ёй у твар. Але яна ўзяла цыгарэту і пачала курыць прагнымі, глыбокімі зацяжкамі.

«Вы вельмі шляхетны», — прамовіла яна глухаватым няроўным голасам. Калі пасля мы пачулі голас кантралёра ў суседнім купэ, то абое, нібы па камандзе, адкінуліся назад і сталі ўдаваць з сябе, што спім, кожны ў сваім куце. Але цераз стуленыя павекі я бачыў, што ёй смешна. Я назіраў за кантралёрам, які асвятляў білеты сваім яркім ліхтаром і рабіў у іх адзнакі. Потым святло ліхтара спынілася перад маім тварам. Па тым, як ліхтар дрыжаў, я зразумеў, што кантралёр вагаўся, ці будзіць мяне. Потым ліхтар асвятліў яе. Ах, як яна спалатнела, якое засмучэнне было на яе белым ілбе!

Тоўстая жанчына, што сядзела побач са мною, тузанула кантралёра за рукаў і прашаптала яму на вуха не-

шта такое, з чаго можна было разабраць словы: «Штатаўскія цыгарэты... возяць кантрабандай...» Тады кантралёр раззлавана штурхнуў мяне ў бок.

Калі я ціха запытаўся ў яе, куды яна едзе, у купэ запанавала цішыня. Яна назвала станцыю. Я набыў два білеты датуль і заплаціў штраф. Кантралёр сышоў, у маўчанні прысутных у купэ адчуваліся халоднасць і пагарда. Калі ж яна спыталася ў мяне: «Вам таксама туды?», — яе голас гучаў гэтак дзіўна, лагодна і ўсётакі здзекліва.

— О, я магу напэўна ехаць туды. Я маю там колькі сяброў, хаця сталага прытулку ў мяне няма.

Яна толькі вымавіла «так», пасля адкінулася назад, і я адно зрэдку, калі па калідоры праходзілі з ліхтаром, бачыў яе твар у атачэнні апраметнай цемры.

Калі мы сышлі з цягніка, было зусім цёмна. Цёмна і цёпла. За станцыяй маленькі гарадок ужо моцна спаў. Хаткі спакойна і прытоена дыхалі пад пяшчотнымі дрэвамі. «Я вас праводжу, — сказаў я хрыплым голасам, — такая цямрэча...»

Тут яна раптоўна спынілася. Гэта было якраз пад вулічным ліхтаром. Яна адчужаным паглядам зірнула на мяне і сказала праз стуленыя вусны: «Каб жа я ведала, куды». Яе твар падсунуўся да майго, нібы палатно пад лагодным павевам ветру. Не, мы не пацалаваліся... Мы паволі выйшлі з горада і праз нейкі час знайшлі адрыну, з сенам. Ах, я не меў аніякіх сяброў у гэтым ціхім гарадку, які мне быў гэткі самы чужы, як і ўсе іншыя. Калі на досвітку зрабілася халаднавата, я падабраўся зусім блізка да яе, і яна акрыла мяне крысом свайго танюткага паліто́нчыка. Гэтак нас сагравалі адно аднаго наша дыханне ды наша кроў.

З тае пары мы разам – у гэтым жыцці.

# Нешта адбудзеца

*Гісторыя, насычаная дзеяннем*

Да самых адметных перыядаў майго жыцця, відаць, належыць той, калі я быў службоўцам на фабрыцы Альфрэда Вунзідэля. Ад прыроды я куды болей схільны да медытацый і нічога-не-рабленне, чым да працы, але вечныя фінансавыя цяжкасці – бо медытацыі прыносяць гэтаксама мала прыбытку, як і нічога-не-рабленне — раз-пораз прымушалі мяне ісці на так званую працу. Чарговым разам збяднеўшы, я даверыў свой лёс біржы і разам з сям'ю іншымі сябрамі ў няшчасці быў накіраваны на фабрыку Вунзідэля, дзе нас чакаў кваліфікацыйны іспыт.

Ужо сам выгляд фабрыкі вялікага даверу ў мяне не выклікаў: корпус быў увесь пабудаваны са шкляных блокаў, а мая нелюбоў да светлых будынкаў і светлых пакояў гэткая самая, як і мая нелюбоў да працы. Яшчэ менш даверу я адчуў тады, калі ў светлай, прыгожа размаляванай сталоўцы нам адразу ж быў пададзены сняданак: сімпатычныя кельнеркі прынеслі вараныя яйкі, каву ды грэнкі, у зграбных карафках быў наліты памаранчавы сок; залатыя рыбкі глядзелі сваімі абыякавымі вачыма праз сценкі светла-зялёных акварыумаў. Кельнеркі былі гэткія вясёлыя, што ледзьве не лопаліся ад

пацехі. Толькі моцным намаганнем волі – як мне здавалася – яны стрымлівалі сябе, каб увесь час не напяваць вясёлых песенек. Яны былі поўныя непраспяванымі песнямі гэтак, як куры бываюць поўныя нязнесеных яек. Я адразу западозрыў тое, чаго не дапетрылі мае сябры ў няшчасці: і гэты сняданак належаў да нашага іспыту; і вось я старанна жаваў, як чалавек, які дакладна ведае, што пастаўляе свайму целу карысныя рэчывы. Я рабіў нешта такое, да чаго б мяне ў нармальнай сітуацыі не магла змусіць аніякая сіла ў свеце: выпіўшы на галодны страўнік памаранчавы сок, пакінуўшы нечапанымі каву ды яйка, а таксама большую частку грэнак, падняўся з месца і, саспелы да дзеянняў, пачаў хадзіць сюды і туды па сталоўцы.

І вось, мяне першага правялі ў экзаменацыйны пакой, дзе на прывабных сталах былі раскладзеныя лісты-апытальнікі. Сцены пакоя былі пафарбаваныя ў зялёны колер, які мог бы прываражыць слова «выдатна» да вуснаў любога фаната гэтае ўстановы. Нідзе нікога не было відаць, і ўсё ж такі ў мяне была ўпэўненасць, што за мною назіраюць, таму я паводзіў сябе так, як саспелы да дзеяння чалавек, які не ведае, што ён аб'ект назірання: я з нецярплівасцю выхапіў асадку са сваёй кішэні, сеў за найбліжэйшы стол і падсунуў да сябе ліст-апытальнік – гэтак як халерыкі ў канторы падсоўваюць да сябе рахункі з разлікам.

*Першае пытанне: Ці лічыце вы слушным, што чалавек мае дзве рукі, дзве нагі, па два вокі й вухі?*

Тут я першы раз спажыў плады сваіх медытацый, без ваганняў напісаўшы: «Дзеля маёй прагі дзеянняў нават чатырох рук, ног, вушэй было б замала. Чалавечы рыштунак варты жалю».

*Другое пытанне: Колькі тэлефонаў вы можаце абслугоўваць адначасова?*

І тут адказаць мне было гэтаксама лёгка, як развязаць раўнанне першай ступені. «Калі гэта будзе толькі сем тэлефонаў, — напісаў я, — нецярплівасць адолее мяне; толькі з дзевяццю я буду адчуваць, што выкладваюся як след».

*Трэцяе пытанне: Што вы робіце пасля заканчэння працоўнага дня?*

Мой адказ: «Я болей не ведаю, што такое «заканчэнне працоўнага дня»: калі мне споўнілася пятнаццаць, я выкрасліў гэтыя словы са свайго лексікона, бо напачатку было Дзеянне».

Працу я атрымаў. І напраўду, нават з дзевяццю тэлефонамі я выкладваўся не да канца. Я крычаў у мікрафоны слухавак: «Дзейнічайце неадкладна!», альбо: «Рабіце што-небудзь!.. Нешта мусіць адбыцца!.. Нешта адбудзецца... Нешта адбылося... Нешта павінна было адбыцца». Але часцей за ўсё – і гэта, здавалася, адпавядала агульнай атмасферы – я карыстаўся загадным ладам.

Цікавымі былі пярэрвы на абед, калі ў сталоўцы, аточаныя маўклівай весялосцю, мы паядалі багатыя на вітаміны стравы. На Вунзідэлевай фабрыцы было поўна людзей, якія мелі бзікі на тым, каб расказваць свае жыццяпісы – як гэта робяць якраз асобы, прагныя да дзеяння. Іх жыццяпіс ім важнейшы за іхняе жыццё; трэба толькі націснуць гузік – і вы ўжо з гонарам выстрэльваеце біяграфіяй.

Намеснікам Вунзідэля быў чалавек з імем Брошак; ён здабыў сабе славу тым, што ў часы студэнцтва за кошт начной працы ўтрымліваў сем дзяцей і спаралізаваную кабету, у чатырох месцах паспяхова працаваў гандлёвым прадстаўніком і пры тым цягам двух гадоў на «выдатна» здаў два дзяржаўныя іспыты. Калі адзін журналіст у яго спытаўся: «Калі ж вы спіцё, Брошак?», — ён адказаў: «Спаць – гэта грэх».

Сакратарка Вунзідэля праз вязанне на прутках утрымлівала спаралізаванага мужчыну і чатырох дзяцей, адначасна абараніла дысертацыі па псіхалогіі і краязнаўстве, займалася гадоўляй аўчарак і займела славу рэстараннай спявачкі пад імем *Вамп-7*.

Сам Вунзідэль належаў да тых людзей, якія, не паспеўшы прачнуцца, ужо маюць рашучыя намеры дзейнічаць. «Я мушу дзейнічаць», — думаюць яны, жвава завязваючы пас на купальным халаце ў лазенцы. «Я мушу дзейнічаць», — думаюць яны сабе, калі голяцца, і трыумфальна глядзяць на валаскі ад барады, змываючы мыльную пену з электрабрытвы: гэтыя рэшткі валосся – першыя ахвяры іхняй прагі дзеянняў. Больш інтымныя рэчы выклікаюць у гэтых людзей задавальненне: вада шуміць, папера спажываецца. Нешта адбылося. Хлеб з'ядаецца, у яйка зверху разбіваецца шкарлупіна.

Найменшая дзейнасць выглядала ў Вунзідэля дзеяннем: тое, як ён насоўваў капялюш, як ён – у ліхаманцы ад перапоўненасці энергіяй – зашпільваў паліто, як ён рабіў пацалунак жонцы – усё было дзеяннем.

Уваходзячы ў свой кабінет, ён вітаў сваю сакратарку словамі: «Нешта мусіць адбыцца!» А яна радасна ўсклікваля: «Нешта адбудзецца!» Тады Вунзідэль хадзіў з аддзела ў аддзел і з радасцю ўсклікваў: «Нешта мусіць адбыцца!» Усе адказвалі: «Нешта адбудзецца!» І я таксама, як толькі ён заходзіў у мой пакой, радасна вітаў яго словамі: «Нешта адбудзецца!»

Цягам першага тыдня я падвысіў колькасць тэлефонаў, што абслугоўваў, да адзінаццаці, цягам другога тыдня – да трынаццаці, і мне было ўцехай вынаходзіць штораніцы ў трамваі новыя ўжыванні загаднага ладу альбо зацкоўваць дзеяслоў *адбывацца* рознымі формамі часу, стану, умоўным і абвесным ладам; я цэлыя два дні прамаўляў адзін сказ, бо ён мне надта спа-

дабаўся: «нешта мусіла б адбыцца», а яшчэ два дні – іншы сказ: «гэта не павінна было б адбыцца».

Гэтак я, напраўду, пачаў адчуваць, што ўжо выкладваюся ў працы, калі якраз нешта і адбылося. Аднае раніцы, у аўторак (я яшчэ не паспеў як след уладкавацца на сваім месцы), Вунзідэль заляцеў у мой пакой і пракрычаў сваё: «Нешта мусіць адбыцца!» Але штосьці невытлумачальнае, што было напісана ў яго на твары, змусіла мяне паўстрымацца ад імгненнага ўсталяванага адказу: «Нешта адбудзецца!» Я, відаць, марудзіў са сваім адказам занадта доўга, бо Вунзідэль, які крычаў зазвычай вельмі рэдка, літаральна зароў на мяне: «Адказвайце! Адказвайце, як прынята!» І я адказаў ціха і з пярэчаннем у голасе – гэтак, як дзіця, якое змушаюць сказаць: «Я кепскае дзіця». З вялікімі намаганнямі я выціснуў з сябе сказ: «Нешта адбудзецца», і ледзьве паспеў я гэтыя словы прамовіць, як сапраўды нешта адбылося: Вунзідэль рэзка зваліўся на падлогу; падаючы, павярнуўся на бок і застыў, лежачы наўскасяк перад адчыненымі дзвярыма. Мне адразу зрабілася зразумелым тое, што пацвердзілася, калі, абышоўшы стол, я наблізіўся да яго: ён быў мёртвы.

Патросшы галавою, я пераступіў цераз Вунзідэля, павольна дакрочыў калідорам да Брошакавага кабінета і ўвайшоў туды, не пастукаўшыся. Брошак сядзеў за сваім пісьмовым сталом, у кожнай руцэ трымаючы па тэлефоннай слухаўцы, а ў роце – шарыкавую ручку, якой ён тут жа нешта запісваў у нататніку; адначасова нагамі ён круціў вязальную машыну, што стаяла ў яго пад сталом.. Гэткім спосабам ён усё аднаўляў гардэроб для сваёй сям’і. «Нешта адбылося», — сказаў я напаўголаса. Брошак выплюнуў з рота асадку. Паклаў абедзве слухаўкі, нерашуча зняў пальцы ног ад понажаў вязальнай машыны.

— Што адбылося? — запытаўся ён.

— Спадар Вунзідэль памёр, — адказаў я.

— Не, — запярэчыў Брошак.

— Праўда, — сказаў я, — хадзем, паглядзіце.

— Не, — запярэчыў Брошак, — гэтага не можа быць.

Тым не менш, ён насунуў свае чаравікі і пайшоў калідорам следам за мною.

— Не, — сказаў ён, калі мы спыніліся каля Вунзідэлевага цела, — не, не!

Я яму не пярэчыў, а толькі асцярожна перавярнуў Вунзідэля на спіну, стуліў яму вочы і стаў задуменна яго разглядаць.

Я адчуў да яго амаль пяшчоту, і ўпершыню мне зрабілася зразумела, што ў мяне ніколі не было нелюбові да яго. На яго твары быў такі выраз, які бывае ў тых дзяцей, што ўпарта адмаўляюцца перастаць верыць у Святога Мікалая, хоць аргументы сяброў іхніх гульнях гучаць пераканаўча.

— Не, — паўтарыў Брошак, — не.

— Нешта мусіць адбыцца, — сказаў я ціха Брошаку.

— Напраўду, — пагадзіўся ён, — нешта мусіць адбыцца.

Нешта сапраўды адбылося: Вунзідэля пахавалі, і я быў прызначаны несці вянок са штучных ружаў за ягонай труною, бо я надзелены не толькі схільнасцю да медытацый і нічога-не-раблення, але таксама постаццю і тварам, да якіх выключна пасуюць чорныя гарнітуры. Натуральна, што я – калі йшоў з вянком са штучных ружаў за Вунзідэлевай труною – выглядаў выдатна. Ад саліднай фірмы па арганізацыі пахаванняў я атрымаў прапанову пайсці працаваць туды штатным жалобнікам. «Вы народжаны быць жалобнікам, — сказаў

кіраўнік фірмы, — гардэроб вам выдадуць, а ваш твар выглядае проста выдатна!»

У Брошака я звольніўся, патлумачыўшы, што тут я па-сапраўднаму так і не выклаўся, што, нягледзячы на тыя трынаццаць тэлефонаў, частка маіх здольнасцяў так і засталася незапатрабаванаю. Адразу пасля таго як я паўдзельнічаў у першай пахавальнай працэсіі ў якасці штатнага супрацоўніка, мне стала зразумела: вось тут ты на сваім месцы, вось яно, тое, дзеля чаго ты пакліканы.

Задуменны, я стаю за труною разам з жалобным аркестрам, трымаючы ў руах прыгожы букет кветак; а ў гэты час гучыць Гендэлева «*Largo*» — музычны твор, які ў нас недаацэньваюць. У кавярні пры могілках я цяпер заўсёднік; там я праводжу час паміж выкананнем сваіх прафесійных абавязкаў; але часам я хаджу і за тымі трунамі, куды мяне адмыслова не запрашалі; за свае грошы я купляю букет кветак і далучаюся да службоўца з сацыяльнай апекі, які ідзе за труною чалавека без грамадзянства. Раз-пораз я прыходжу і на магілу Вунзідэля, бо, зрэшты, менавіта дзякуючы яму мне ўдалося зразумець сваё сапраўднае пакліканне ў прафесіі, якая якраз вымагае медытацый ды абавязвае да нічога-не-раблення.

Куды пазней мне прыйшло да галавы, што я нават ніколі не пацікавіўся, якая прадукцыя вырабляецца на Вунзідэлевай фабрыцы. Напэўна, гэта было мыла.

*1955*

**Пераклаў з нямецкай**
**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

*Перакладзена з кнігі:*
**Boll**, Heinrich. Der Geschmack des Brotes. –Berlin/Weimar: Aufbau-Verlag, 1990. – S. 39—43, 214—219.

Генрых БЁЛЬ

# Мой сумны твар

Калі я стаяў на пірсе і назіраў за кірлямі, мой сумны твар кінуўся ў вочы аднаму паліцэйскаму, які мусіў рабіць абходы ў гэтым квартале. Я быў цалкам заглыблены ў кружлянне птушак, якія дарэмна ўздымаліся і кідаліся ўніз, шукаючы чагосьці ядомага: порт быў пустым, вада зеленаватай, густой ад бруднай мазуты, і па яе заскарузлай паверхні паўсюль плаваў выкінуты хломазд; нельга было ўбачыць ніводнага карабля, краны былі заржавелымі, склады разбуранымі; здавалася, што толькі пацукі насяляюць чорныя руіны на ўзбярэжжы, было ціха. Ужо шмат гадоў усялякая сувязь з вонкавым светам была абарванай.

Я пільна сачыў за палётамі адной кірлі. Боязна, нібы ластаўка, якая прадчувае непагадзь, яна лятяла ля самай паверхні вады, і толькі зрэдчас з пранізлівым крыкам наважвалася на рывок узвыш, каб аб'яднаць свой шлях з пуцявінамі каляжанак. Калі б я мог цяпер чаго-небудзь пажадаць, то найлепшым для мяне быў бы хлеб, каб скормліваць яго кірлям. Кідаць кавалкі і вызначаць для хаатычных лётаў смачную кропку і тым ставіць мэту, да якой яны імкнуліся б. Кідаючы хлеб, я заагарнізаваў бы гэтае крыклівае кружлянне зблытаных шляхоў, каб захапляцца ім, як стуж-

камі, якія хвалямі пускаеш у паветра. Але я быў галодным як яны, да таго ж стомленым, хаця шчаслівым, нягледзячы на мой сум, бо гэта было цудоўна, стаяць там, рукі ў кішэнях, назіраць за кірлямі і наталяцца смуткам.

Але раптам на маё плячо лягла службовая рука і голас загадаў: “Хадземце са мной!”. Пры гэтым рука паспрабавала тузануць мяне за плячо і павярнуць. Я не зварухнуўся, строс яе і спакойна сказаў: “Вы звар’яцелі”.

– Таварыш, – сказаў усё яшчэ нябачны мне, – я вас папярэджваю.

– Мой спадар, – адказаў я.

– Спадароў няма, – закрычаў ён гнеўна. – Мы ўсе таварышы.

І ён стаў побач, зірнуў на мяне збоку, і я быў вымушаны аднавіць мой шчасліва блукаючы позірк і заглыбіцца ў яго прыстойныя вочы: ён быў сур’ёзным, як буйвал, што дзесяцігоддзямі не еў нічога, акрамя абавязку.

– Якую прычыну.., – хацеў я пачаць.

– Прычына дастатковая, – сказаў ён. – Ваш сумны твар.

Я засмяяўся.

– Не смейцеся! – Яго гнеў быў сапраўдным. Цяпер я падумаў, што яму было сумна, бо ён не мог арыштаваць ні незарэгістраваную шлюху, ні хістаючагася марака, ні злодзея ці ўцекача, і я ўсё ж бачыў, што гэта было сур’ёзна: ён хацеў арыштаваць мяне.

– Хадземце са мной!..

– А чаму? – спытаўся я спакойна.

Не паспеў я азірнуцца, як мая левая прыцэўка была ашчэплена тонкім ланцужком, і ў гэтае імгненне я ўцяміў, што зноў згінуў. У апошні раз я павярнуўся да кружляючых кірляў, зірнуў на прыгожае шэрае неба і

паспрабаваў знянацку кінуцца ў ваду, бо мне здавалася лепшым патануць самому ў гэтых брудных памыях, чым быць задушаным падафіцэрамі дзесьці на панадворку ці зноў трапіць у турму. Але паліцэйскі адным махам прыцягнуў мяне так блізка да сябе, што ўцёкі сталіся немагчымымі.

– А чаму? – спытаўся я яшчэ раз.

– Ёсць закон, згодна якому Вы павінны быць шчаслівым.

– Я шчаслівы! – закрычаў я.

– Ваш сумны твар... – ён пакруціў галавой.

– Мабыць, гэта новы закон, – сказаў я.

– Яму трыццаць шэсць гадзін, а Вы пэўна ж ведаеце, што кожны закон набывае моц праз дваццаць чатыры гадзіны пасля свайго абвяшчэння.

– Але я не ведаю яго.

– Гэта не аслона ад пакарання. Ён быў абвешчаны заўчора, праз усе дынамікі, ва ўсіх газетах, а для тых, – тут ён зняважліва зірнуў на мяне, – для тых, хто не заўважае паведамленняў ні друку, ні радыё, ён быў распаўсюджаны праз улёткі, яны былі раскіданыя па ўсіх вуліцах Рэйху. Такім чынам, гэта пакажа, дзе Вы былі апошнія трыццаць шэсць гадзін, таварыш.

Ён пацягнуў мяне за сабой. Толькі цяпер я адчуў, што было халодна і ў мяне не было паліто, толькі цяпер насамрэч узняўся мой голад і мармытаў ля брамы страўніка, толькі цяпер я згадаў, што быў да таго ж брудным, няголеным, абадраным, у той час як існавалі законы, паводле якіх кожны таварыш павінен быў быць чыстым, паголеным, шчаслівым і сытым. Паліцэйскі піхаў мяне перад сабой, нібы пудзіла, якое, абвінавачанае ў крадзяжы, мусіць пакінуць поле – месца яго мараў. Вуліцы былі пустымі, шлях да пастарунка недалёкім і, нягледзячы на тое, што я ведаў: яны хутка зноў знайшлі б

нагоду, каб мяне арыштаваць – у мяне на сэрцы было цяжка, бо паліцэйскі вёў мяне паўз мясціны майго юнацтва, якія я хацеў наведаць пасля порта: сады, некалі зарослыя хмызняком, прыгожыя ад бязладдзя, утравелыя сцежкі – усё гэта было цяпер выраўнаваным, упарадкаваным, чыстым, чатырохкутна прыладжаным для вайскоўцаў, якія па панядзелках, серадах і суботах праводзілі тут свае парады. Толькі неба было ранейшым і паветра, як у тыя дні, калі маё сэрца было поўным мрояў.

Тут і там, ідучы, я бачыў, што ў многіх казармах любошчаў ужо вывесілі дзяржаўны сігнал для тых, хто па серадах удзельнічаў у гігіенічных уцехах; гэтаксама большасць шынкоў рыхтаваліся выкінуць знак пітва, выбіты з бляхі піўны кубак, разлінаваны ўпоперак у колеры Рэйху: светла-карычневы-цёмна-карычневы-светла-карычневы. Безумоўна, радасць ужо панавала ў сэрцах тых, што былі занесеныя ў дзяржаўны спіс "серадовых прапойцаў" і меліся ўдзельнічаць у серадовым баляванні.

Людзі, што ішлі нам насустрач, выяўлялі руплівасць, тонкі флюід стараннасці ахопліваў іх, які рабіўся больш выразным, калі яны заўважалі паліцэйскага; усе прыспешвалі хаду, паказвалі, што цалкам выконваюць свае абавязкі; жанчыны, якія ішлі з крамаў, былі заклапочаныя, каб надаць сваім тварам выраз той радасці, якой ад іх чакалі, бо было загадана выяўляць радасць, бадзёрую весялосць з нагоды абавязкаў хатняй гаспадыні, якая вечарамі мусіла падсілкоўваць дзяржаўнага працаўніка добрай ежай.

Але ўсе гэтыя людзі ўдала пазбягалі нас, так, што ніхто не быў вымушаны скрыжаваць свой шлях з нашым; усе прыкметы жыцця, якія выяўляліся на вуліцы, знікалі за дваццаць крокаў ад нас, кожны імкнуўся заскочыць у краму або збочыць за рог, а іншы воліў зайсці

ў незнаёмы яму будынак і боязна перачакаць за дзвярыма, пакуль сціхнуць нашыя крокі.

Толькі аднойчы, калі мы якраз праміналі адно скрыжаванне, нам сустрэўся стары чалавек, на якім я мімаходзь пазнаў нашытку настаўніка; ён аніяк не мог нас унікнуць і таму пастараўся, пасля таго як спачатку згодна з загадам прывітаў паліцэйскага (у знак абсалютнай пакоры стукнуўшы самога сябе тройчы далонню па галаве), дык вось, ён пастараўся выканаць свой абавязак, які патрабаваў ад яго плюнуць мне тройчы ў твар і зняважыць мяне абавязковай ганьбай: "Свінячы здраднік". Ён удала пацэліў, але дзень быў гарачым, яго рот мусіў быць сухім, бо ў мяне трапілі толькі асобныя мізэрныя, даволі бязважкія кроплі, якія я – насуперак загаду – незнарок паспрабаваў выцерці рукавом; у адказ на гэта паліцэйскі павёў сябе груба і стукнуў мяне кулаком у каршэнь, дадаўшы спакойным голасам: "Ступень 1", што значыла: першая самая памяркоўная форма пакарання, якое ўжывае кожны паліцэйскі.

Настаўнік адразу заспяшаўся адсюль. Акрамя яго ўсім астатнім пашчасціла нас абмінуць; толькі яшчэ адна жанчына, бляклая, напышлівая бландзінка, якая ля адной казармы любошчаў якраз згодна з загадам дыхала паветрам перад вечаровымі ўцехамі, даслала мне мімалётам паветраны пацалунак, і я ўдзячна ўсміхнуўся, у той час як паліцэйскі паспрабаваў зрабіць выгляд, што ён нічога не заўважыў. Яны вымушаныя дазваляць гэтым жанчынам вольнасці, якія любому іншаму таварышу непазбежна прынеслі б цяжкае пакаранне; паколькі гэтыя жанчыны значна спрыялі ўздыму ўсеагульнай прагі да працы, закон на іх не распаўсюджваўся – саступка, сэнс якой дзяржаўны філосаф тройчы доктар Бляйгаз ў абавязковым для ўсіх часопісе па (Дзярж)філасофіі заклейнаваў знакам пачатку лібералізацыі. Я

прачытаў пра гэта ўчора па дарозе ў сталіцу, калі знайшоў у клазеце на адным сялянскім двары асобныя старонкі часопіса, да якіх нейкі студэнт – магчыма, сын гэтых сялянаў – даў дасціпныя заўвагі.

На шчасце, мы ў пару дасягнулі месца прызначэння, бо якраз зазычэлі сірэны, а гэта значыла, што зараз вуліцы будуць затопленыя тысячамі людзей з памяркоўным шчасцем на тварах (было загадана пасля заканчэння працы выказваць не занадта вялікую радасць, бо гэта паказвала б, што праца ёсць цяжарам; наадварот, бурная радасць павінна была ўладарыць на пачатку працы, бурная радасць і спевы), і ўсе гэтыя тысячы павінны былі б пляваць у мяне. Вызгук сірэн азначаў, што засталося дзесяць хвілінаў да заканчэння працоўнага дня, бо гэтыя дзесяць хвілінаў кожны павінен быў прысвяціць грунтоўнаму мыццю, згодна з заклікам тагачаснага кіраўніка дзяржавы: Шчасце і Мыла.

Бетонная рама ў пастарунак гэтага квартала ахоўвалася двума вартавымі, якія ўжылі, калі я праходзіў паўз іх, звычайную "цялесную кару": яны рэзка прыткнулі мне да скроні свае штыкі і ўзнялі ствалы сваіх пісталетаў на ўзровень ключыцы, згодна з уступам да Дзяржаўнага закона 1: "Кожны паліцэйскі павінен паказваць у дачыненні да злоўленага (яны маюць на ўвазе арыштанта) сваю ўладу, выключэннем ёсць той, хто яго злавіў, бо ён мае шчасце правесці неабходныя цялесныя пакаранні пры арышце". Сам Дзяржаўны закон 1 гучыць наступным чынам: "Кожны паліцэйскі можа пакараць кожнага, ён мусіць пакараць кожнага, хто вінаваты ў злачынстве. Ніводзін таварыш не можа пазбегнуць пакарання, але мае магчымасць не заслужыць яго".

Далей мы прамінулі доўгі пусты калідор з мноствам вялікіх вокнаў; потым аўтаматычна адчыніліся дзве-

ры, бо вартавыя тым часам ужо перадалі пра наша з’яўленне – у тыя дні, кае ўсё было шчаслівым, прыстойным, упарадкаваным, і кожны намагаўся змыць за дзень загаданыя паўкілі мыла, у тыя дні з’яўленне злоўленага (арыштанта) значыла падзею.

Мы зайшлі ў амаль пусты пакой, у якім быў толькі пісьмовы стол з тэлефонам і два крэслы, я мусіў стаць у сярэдзіне памяшкання; паліцэйскі зняў свой шлем і сеў.

Запанавала цішыня, і нічога не здаралася; яны заўсёды так робяць; гэта найгоршае; я адчуваў, як мой твар усё больш знемагаў, я быў стомленым і галодным, і апошні след таго сумнага шчасця цяпер таксама знік, бо я ведаў, што згінуў.

Праз некалькі хвілінаў моўчкі зайшоў збляднелы высокі чалавек у карычневай уніформе папярэдняга следчага; ён сеў, не сказаўшы ні слова, і зірнуў на мяне.

– Прафесія?

– Просты таварыш.

– Калі нарадзіліся?

– Першага студзеня першага году, – сказаў я.

– Апошні занятак?

– Зняволены.

Яны зірнулі адзін на аднаго.

– Калі і дзе вызвалены?

– Учора, будынак 12, камера 13.

– Куды вызвалены?

– У сталіцу.

– Пасведчанне.

Я вынуў з кішэні пасведчанне аб вызваленні. Ён падшыў яго да зялёнай карткі, на якую пачаў занатоўваць мае дадзеныя.

– Тагачасны прысуд?

– Шчаслівы твар.

Яны зірнулі адзін на аднаго.

– Растлумачце, – сказаў папярэдні следчы.

– Тады, – сказаў я,– мой шчаслівы твар кінуўся ў вочы аднаму паліцэйскаму ў дзень, калі была абвешчанай усеагульная жалоба. Гэта быў дзень смерці ўладара.

– Працягласць пакарання?

– Пяць.

– Рэжым?

– Цяжкі.

– Прычына?

– Недастатковы ўдзел у працы.

– Скончана.

Папярэдні следчы падняўся, падышоў да мяне і дакладна выбіў мне тры верхнія зубы: знак, што я павінен быў быць заклейнаваны як зноў вінаваты – узмоцненае пакаранне, якога я не чакаў. Потым папярэдні следчы пакінуў пакой, і сюды ўвайшоў тоўсты хлопец у цёмна-карычневай уніформе: следчы.

Яны ўсе білі мяне: следчы, старэйшы следчы, галоўны следчы, першы суддзя і апошні суддзя, і да таго ж паліцэйскі ўжываў усе загаданыя законам цялесныя кары; і яны засудзілі мяне за мой сумны твар на дзесяць гадоў, гэтаксама як пяць гадоў таму яны засудзілі мяне на пяць гадоў за мой шчаслівы твар.

Мне трэба паспрабаваць увогуле не мець больш твару, калі я здолею вытрымаць наступныя дзесяць гадоў эпохі Шчасця і Мыла...

**Пераклала з нямецкай**
**Вольга ГУРЛО.**



# Надзея САЛОДКАЯ



* * *

Ты не верыш, а я хацела
Дакрануцца душой душы.
Ценькай свечачкаю трымцела
Сярод шэрасці і імжы.

Прыкрывае заганы году
Дуйка смела ў чарговы раз.
Ну а я ўсё шукаюброду
Праз павіслы ў прасторы час.

Я стамілася ўчора мерыць,
Жальбу вынасіла ў рыззё...
Адпусці мяне ў маю шэрасць,
Адпусці мяне ў забыццё.



# Алег КАЦАПАЎ

* * *

Цяпер
кожны раз
спіш ты толькі са мною,
рыпучы мой ложак...
А яна?
Дзе яна,
тая, што здраджвае табе?

Ці сапраўды
ты так пастарэў?..

Алег КАЦАПАЎ

# У нас

Mi W

*N ахвяруецца*

*Апавяданне*

Я гляджу ў люстэрка, і час спыняецца – партрэт на памяць. Папраўленыя валасы, усмешка. Я не спяшаюся падабацца сабе самому. Вецер раскідае старанна зроблены прабор, стомленым стане позірк, а я застануся сабой – чалавекам, убачаным у люстэрку. Чалавекам з люстэрка. Я не змянюся, калі выйду з дому.

Сыходжу, – мой адбітак, зрэзаны шклом, злятае да іншых, – пазбаўляюся мінулага, чарговы раз адбіваю час. У мігатлівую глыбіню кладзецца яшчэ адзін партрэт...

Люстэркі ў перадпакоях, у спачывальнях, у лазенках. Перад імі застаешся сам-насам, перш чым змяніць сябе, пераліць адбыты час за шкло, зрабіць яго ўспамінам.

Я іду па сцішаным ад дажджу праспекце, моўчкі праплываюць паўз мяне пачварныя парасоны. Яны хаваюць пад чорнымі купаламі чужыя твары. Праходныя нясуць над сабою маленькія храмы – на аднаго, а хто і на дваіх. Маўклівыя малітвы дажджу. Гострыя шпілі адно-, двухасобных храмаў крэсляць вільготную прахалоду. Люстрыцца забранае ў металёвую раму шкло вітрыны. За ім – аблітыя штучным святлом постаці людзей, па іх праплывае мой прывідны адбітак. Зліваюцца, сунуцца адно па адным рэчаіснасць і мроя. У

люстэрку не распазнаеш маны, покуль не паднясеш да яго напісанае або гадзіннік. Стрэлкі за амальгамай ідуць у другі бок. Плынь нішчыць плынь. Час спыняецца. Напісанае не прачытаць без яшчэ аднаго люстэрка.

Я і маё адлюстраванне. Твар у твар, вочы ў вочы, лоб у лоб, адчуваю скураю холад нябожчыка. Сам-насам з ім. Будучыня? Мінулае? Я азірнуўся — у будучым я глядзеў бы на сябе са спіны...

Шкляны ад вады асфальт.

У дзяцінстве я любіў браць у рукі насценнае люстэрка з перадпакоя і хадзіў з ім, трымаючы перад сабой, па кватэры. Я крочыў па столі, старанна мінаў жырандолі. Яны цягнуліся з долу ўгору, плафоны пагойдваліся на вітых дратах у шкляное зеленкаватае глыбіні. Я пераступаў бэлькі, караскаўся на дзвярныя прасценкі, скакаў з іх на глыбока-белую роўнядзь столі, спыняўся каля акна і глядзеў наніз – на аблокі, што праплывалі пад маімі нагамі. А потым уначы ляжаў і глядзеў перад сабою так доўга, што нарэшце свет абарочваўся для мяне – верх мяняўся месцам з долам.

Мой мройлівы адбітак у зіхоткім асфальце.

Агромністае гарызантальнае люстэрка. Уваход у метро. З вентыляцыйнае шахты тхне цеплынёю апраметнай. Чырвоная літара “М”, з яе пачынаецца й маё імя. У плыткае ж калюжыне замест яе зіхціць “W” — літара, якое няма ў беларускае альфабэце.

Пад’язджае аўтобус і забірае мяне з сабою.

***

Я пазнаёмлюся з W. у той год, як у міжнародным гатэлі на беразе Заслаўскага вадасховішча адкрыюць маленькі бар з люстранымі падлогаю й столлю. У той год, калі я скончу пяты клас. Я буду сядзець на арэлях у двары нашага пісьменніцкага дома. У маёй руцэ знерухомее прахалодная шкляная лінза. Вогненая кропка высветліць кры-

вава-ружовую радзімку на пістоннае стужцы. Сполах агню, фантанчык дыму. Абвугляцца краі падобнае да нежывое скуры папяроснае паперы.

У мой двор, як і тады, у дзяцінстве, можна будзе трапіць праз два ўваходы: нізкай шырокай аркай у даваенным доме і пад'ездам-калідорам ад Тэатральнага сквера. Самы ж вабны, трэці ўваход – каваная брамка ў паркане, за якім расцягнецца шэрая стадола дзіцячага кінатэатра "Піянер", – застанецца для мяне да часу замкнёны, гострыя навершы каваных прантоў-дзідаў даўно адаб'юць ахвоту лазіць цераз верх.

Сталёвы, з гнутае трубы прыцэл ручкі на другім канцы арэльнае дошкі скіруецца ў пустое неба. Перад каванаю брамкаю спыніцца хударлявая дзяўчынка. Вялікія зеленкаватыя вочы на крыху засмучоным твары. Яна здыме з шыі ключык на доўгае чорнае стужцы. Адчыніць, зойдзе ў двор і старанна прымкне брамку за сабою. Каля мяне яна апусціцца на кукішкі, стрымае рукою доўгія расплеценыя валасы, нахіліць голаў. Сонечны прамень сфакусуецца на пістоне – маленькая выява перакуленага сонца выбухне, заззяе вогненым сполахам.

"Пагушкаемся?" — прапануе яна.

Я схаваю лінзу ў кішэню. W. сядзе на вольны канец невысокіх арэляў. Я адштурхну зямлю. Узлёт-падзенне.

З выгляду ёй столькі ж гадоў, як і мне.

"Ты Максім, – скажа яна так, нібыта дасць мне імя. – Мне пра цябе мая сяброўка L. расказвала".

Яна назаве маю суседку.

"Ты ў які клас ходзіш?"— спытаюся я.

"У першы", – спакойна адкажа дзяўчуля.

Я прытрымаю арэлі, і W. завісне ў паветры.

"Толькі ў другі перайшла? Табе ж гадоў дванаццаць?"

"Зноў у першы трапіла. Я – дурніца, каторы раз на другі год пакідаюць".

Мы паглядзім адно аднаму ў вочы, мацней, да болю сціснем каленьмі дошку арэляў, і тая пругка ўзнясе спачатку мяне, а потым яе. Нарэшце W. не вытрымае і засмяецца. Мне станецца крыўдна – ледзь не куплюся на яе наколку.

“Адкуль у цябе, дурніцы, ключ ад брамкі?”

“Усе нашыя вокны на вуліцу выходзяць, – W. пакажа на двухпавярховы дом, які, паводле падання, стагоддзе таму належаў менскаму губернатару, – і ўваход у нас у кватэру асобны ад усіх. – Яна апусціць пад кашулю важкі ключ на доўгае стужцы. – Брамку спецыяльна для нас зрабілі, каб мая бабуля магла ў двор хадзіць. З маіх вокнаў афішы відаць. Ты любіш кіно?”

“Люблю”, — я адчую, як дранцвеюць мае ногі, і спыню арэлі.

“Калі хочаш, скажу табе таямніцу, – сцішыць голас W. – Мы з L. падабралі ключ ад чорнага ўваходу ў “Піянер” і бясплатна ходзім на фільмы. Хочаш з намі?”

Калі назаўтра дзве авантурніцы і я адамкнем чорны ўваход кінатэатра – ababітыя палушчанаю цыратаю дзверы, — нас зловіць адміністратарка і забярэ ключ. Мы будзем стаяць на цёмным калідоры паміж мужчынскаю і жаночаю прыбіральнямі, і нам не знойдзецца чаго казаць у сваё апраўданне.

W. заплача, нас адпусцяць. Ужо на вуліцы яна збярэ з расчырванелага тварыка слёзы насоўкаю і моўчкі ўцячэ дахаты. Я тады ўпершыню заўважу дзіўныя дзверы яе кватэры. Лічба, абабіўка — усё як мае быць, але выходзіць яны будуць проста на вуліцу, ганак у ганак з кінатэатрам, а цераз вуліцу стаяцьмуць стары будынак Саюза пісьменнікаў, за ім – ЦК з каштанавым садам...

Я давяду L. да пад‘езда і пагляджу ёй услед. Ані размовы, ані позірку вочы ў вочы. Гэта адбудзецца будзённа і проста. Кароткая спадніца на моцных клубах, іх абрысы

не здолее схаваць нават буйное плісэ. Моцныя ногі... Тканіна хіснецца ў імклівым руху. Упершыню я адчую вабную моц дзявочага цела. І перад сном у ложку знянацку скажу ў цемру ідыёцкую фразу:

"Закаханае сэрца паглынае сон".

З таго дня я пачну люстраваць позіркам кожны рух L., глядзець па вечарох на яе запаленае да адзінаццаці, а пазней – цёмнае акно і думаць, нібыта кахаю яе. З чым мне будзе параўноўваць?

На пачатку ліпеня я натраплю ў хатняе бібліятэцы за зборам твораў Віктора Гюго на прыхаваны важкі том перакладнога выдання працы прафесара Фрыдрыха Шнайдэра "Палавое пытанне". Ад кніжнае цагліны, аздобленае строгім партрэтам барадатага нямецкага навукоўца, на мяне патыхне пылам і косным клеем, звараным напрыканцы мінулага стагоддзя. Я прачытаю кнігу неверагодна хутка. Ілюстрацыі-медзярыты запомняцца да сённяшняга дня: распілаваныя замарожаныя трупы цяжарных жанчын, чэлясы хворых на пранцы. Больш за іншыя ўразіць раздзел "Супрацьзачаткавыя сродкі", дзе Фрыдрых Шнайдэр грунтоўна апіша тое, як можна зрабіць са сляпое кішкі цяляці *Condom* і як яго належыць захоўваць на кухоннае шафе нашмараваным алеем, напампаваным паветрам. Як перад ужыткам размочваць у вадзе з дадаткам воцату. Мне ўявіцца ўтульнае нямецкае мястэчка кшталту *Rauschen* (адзінае, у якім мне давядзецца пажыць ва Усходніх Прусах), крамка мясніка і барадаты прафесар *Schneider* у строгім гарнітуры-тройцы з вільготнымі цялячымі вантробамі ў руках.

Цэлы месяц цемра будзе чуць мой усхваляваны голас – тую самую ідыёцкую фразу пра закаханае сэрца. Але аднаго вечара я засну моўчкі.

Напярэдадні мы збярэмся ў двары гуляць у "сляпога ката". Я з завязанымі вачыма прайдуся па пляцоўцы. Усе

затояцца, ані гуку. Вобмацкам пасунуся ўздоўж глухое, без вокнаў, сцяны старога дома. Пачуецца сцішаны смех. Я кінуся на гук. Ахвяра памкнецца праскочыць пад маёй рукой, але марна. Схопленая за плечы, яна знерухомее, прыціснутая да шурпатага тынку сцяны. Гэта будзе менавіта яна – не ён. Мужчыны зразумеюць мяне, ды і жанчыны, спадзяюся, таксама. Супрацьлеглы пол адчуваецца на пах, на смак, на дотык. Свет вакол мяне ажыве галасамі.

"Я тут, лаві!"

Нехта паляпае мяне па плячы, нехта ўчэпіцца за кашулю. Так, я адчую, што мне трапілася менавіта дзяўчына. Хлопец бы вырываўся, а яна стоіцца і перарывіста ўздыхне. Я асцярожна правяду далонню па яе галаве – коскі ці расплеценыя валасы? Дзяўчына абхопіць галаву рукамі.

Напятая гладкая скура на аголеных локцях. Падкасаныя рукавы. Тонкая швэдра. Мне больш падабаецца слова "швэдар", але ў той сітуацыі кожнае слова мужчынскага роду выкліча адно раздражненне; так што – швэдра – яна. Мае рукі апусцяцца ёй на сцёгны, якія ледзь заўважна для ўсіх, але не для мяне, хіснуцца. Адчую – дзяўчыну цягне да мяне, ёй прыемны мой дотык.

"L.", – скажу я і ссуну шалік.

Трохі звужанымі вачыма на мяне паглядзіць W.

"L.?— усунецца паміж намі мой сябра S. — Спадніцу ад джынсаў адрозніваць не навучыўся?"— спытаецца ён.

L. заўсёды будзе хадзіць у спадніцы, і толькі потым, праз  дваццаць два гады, калі я зайду да яе перад ейным ад'ездам у Прагу на працу на радыёстанцыі "Свабода" з трэцім мужам, убачу на ёй джынсы, але не згадаю пра маё маўклівае каханне.

"Быў адзін дапытлівы, – W. закладзе рукі за спіну. – Пахавалі на тым тыдні".

# У нас

Я не пакахаю яе ў той дзень. У нас з W. не здарыцца азарэння, як у момант, калі я глядзеў наўздагон L.

Але той дзень я запомню, і нарэшце засну ў прыцемку моўчкі. Ідыятызм пакіне мяне, саступіць месца разважнасці першага кахання.

Прыцемкам мы пасядзем з хлопцамі і дзяўчатамі на лаўцы за трансфарматарнай будкай. Я толькі скончу расказваць, як упершыню бачыў нябожчыка.

“Страшна, – скажа W. – Мо згуляем у што вясёлае?”

“У закол падсвінка,— прапануе Н., сын аднаго народнага пісменніка, – мяне бацька навучыў. У іх на Мядзельшчыне ўсе так гуляюць. Лічацца, каму выпала – той падсвінак. Астатнія бегаюць, ловяць яго і стараюцца закалоць швайкай”.

“А калі падсвінак – яна?” – пацікаўлюся я.

“Без розніцы. На бацькавае радзіме ўсе так гуляюць”.

“Тады яе называюць свінаматкаю, – перапыніць яго S. – І як дагоняць, то не заколваюць, а... — Ён паглядзіць на L., якую я ўсё яшчэ па інерцыі буду лічыць сваёй каханай, і прапануе: – Я ведаю іншую гульню – у нябожчыка. Мажліва памерці на час і аджыць”.

“Тады гэта не смерць”, – скажу я.

“Ты яшчэ ніколі не паміраў, паспрабуй і даведаешся”, – падколе мяне S.

Спакуса задарма даведацца пра таямніцу смерці спрацуе.

“Што рабіць?”

“Стань і зрабі дваццаць адзін глыбокі ўздых...”

Я зраблю.

“...затрымай дыханне...”

Я затрымаю, а S. абхопіць мяне ззаду рукамі і сцісне з усяе моцы.

“Не выдыхай”.

Паплыве, крутанецца перада мною белая ў цемры сця-

на трансфарматарнае будкі, і я самлею. Вярнуся да прытомнасці раптоўна, лежачы на спіне. Убачу толькі гаўбцы – адзін над адным, нібыта драбіны, што вядуць у зорнае неба. Ані хто я, ані дзе – не ўспомню. Каля мяне ўкленчыць дзяўчына.

У тым свеце, з якога я вярнуся, імёнаў існаваць не будзе. Існавацьмуць толькі я і дзяўчына, якая кленчыць нада мною. І мне не трэба будзе ведаць, хто яна.

"Максім! – яна роспачна скалане мяне за плечы. – Максім, ты чуеш?"

Разам з уласным імем да мяне вернецца мой ранейшы свет. Мне дапамогуць падняцца.

"Дзе быў? У раі ці ў пекле? – пацікавіцца S. І дадасць: – Мне раз у школе так зрабілі, то я скроню аб парту рассадзіў. Гэтак можна толькі двойчы рабіць. На трэці раз сапраўды памрэш".

"Хопіць і аднаго, – я пахіснуся, – лепш ужо ў закол падсвінка гуляць".

Я адчую сябе падманутым. Мне захочацца вярнуцца туды, дзе спынены час, дзе не існуе імёнаў. Мне абтрасуць пыл з вопраткі, а W. папросіць:

"Хлопцы, не сыходзьце, пачакайце, покуль я зайду дахаты. Пад кінатэатрам кампаніі збіраюцца. Я ўначы праз акно, здараецца, такога наслухаюся – не заснуць".

Яна пойдзе. Ужо дома я буду думаць, што ж такое яна можа чуць праз акно, і том Фрыдрыха Шнайдэра адказам ляжа пад маю падушку.

Потым мы будзем гуляць у двары ў хованкі. Шукаць выпадзе L. Апошнімі схаваемся я і W. Мы спусцімся ў сутарэнні пад маім домам. Мінем пазначаныя крэйдаю дзверы кладовак і стоімся ў вялікім памяшканні, падобным да першахрысціянскіх катакомбных храмаў. Закураная паходнямі столь, спісаныя вугалем сцены, запусценне і безжыццёвасць. Сонечнае святло праліецца на нас зверху ў

адчынены люк, у які раней загружалі дровы на апал. Зверху ж далятуць асцярожныя крокі. L. спыніцца перад самым люкам і паставіць нагу на яго край. Спаднічка плісэ, пад ёю – белыя майткі, што не вельмі шчыльна прылягуць да цела.

W. прыкрые мне вочы рукой. Мы пачнем валтузіцца.

“Цішэй, ты”, – засычыць яна, драпне мне па шчацэ і не дасць глядзець.

Я азірнуся, схаплю яе за руку, яна тарганецца і заціхне.

“Можаш пусціць, замінаць не буду, – нарэшце скажа яна. – Усё адно там няма на што глядзець”.

“Ты ж на нешта глядзела”.

Я падумаю, што яна адкажа так, як адказала б L.: “Мне можна, у мяне ў самой такое ж ёсць”, — але пачую:

“Даруй, падрапала цябе нізавошта...” — злёгку варухне рукой — ці моцна я трымаю?

Я не расцісну пальцаў і спытаюся:

“Ты любіш таямніцы?”

“Кажы”, — у дзявочым позірку не будзе ані злосці, ані гарэзлівасці.

“У сваім жыцці я кахаў двойчы, — нясведама схлушу я, – раней кахаў адну дзяўчынку, а цяпер цябе”.

W. закіне галаву, у палонцы люка праплываюць аблокі.

“L.?”

“Не”, — ужо сведама схлушу я.

“Я яе ведаю?”

“Мы вучыліся разам”.

“Ніхто не мусіць ведаць пра тое, што мы былі з табой разам. Выходзь першы”.

Я не крануся з месца, дакладна ведаючы — трэба шчэ пацалавацца. Але W. так і не адвядзе свой позірк ад палонкі люка.

“Табе не страшна вяртацца адной па сутарэннях?”

Яна хітне галавою.

"Ідзі..."

Яе доўга шукацьмуць. Ніхто, апроч мяне, не заўважыць, як W. пракрадзецца да лаўкі.

"Тут-тук. Сама за сябе", — скажа яна.

"Ты дзе сядзела?" — сумеецца L.

"Табе скажы, і табе захочацца".

***

Увечары ўсе мы, хто гуляў у хованкі, пойдзем глядзець салют у Тэатральны сквер. Я і W. выправімся падкрэслена паасобку. Перад балюстрадамі, на ўрадавых трыбунах стоўпяцца людзі. Над Цэнтральным пляцам узнясуцца ракеты і разлятуцца жарынкамі ў яшчэ не да канца цёмных нябёсах. Натоўп завіруе, палятуць угору капелюшы, загучаць крыкі "Ура!". Я адступлюся на крок, злаўлю руку W. і злёгку сцісну яе. Яна – маю ў адказ. Мы без словаў выберамся з тлуму.

"Хадзем", – прапаную я.

"Ведаеш зацішны куток?"

"За Домам актора".

Мы схаваемся за сто метраў ад натоўпу ў сярэдзінным двары былога царкоўнага музея. Мы апынемся сярод кардонных скрыняў з-пад віна. За вітражамі бара загучаць музыка, гоман. Залапоча бляшанымі крыламі кухонны вентылятар.

"Ты гатовая пацалавацца?" – спытаюся я.

Над намі зачырванеюць у бляклым святле феерверка прысадзістыя рамантычныя вежы Дома актора і недасяжна высокія аскетычна-канструктыўныя – Дома афіцэраў.

"Пра такое не пытаюцца, яно прыходзіць само".

Я хоць і вывучу на памяць раздзел з кнігі нямецкага прафесара, прысвечаны пацалункам, усё адно толькі дакрануся сціснутымі вуснамі да яе вуснаў.

"Смешна, – счакаўшы, скажа яна, – тыцкаешся носам, як кацяня. Так не цалуюцца".

Яна схіліць голаў, рассуне мае вусны кончыкам языка. Пасля другога разу я спытаюся:

"Цябе хто навучыў цалавацца?"

"L., – адкажа яна. – Па-сапраўднаму я цалуюся ўпершыню з табой. З ёй мы трэніраваліся".

Дзяўчыну стрэне сполах у маіх вачох.

"Хіба хлопцы так не робяць? – сумеецца яна. – Цяпер я буду цалавацца толькі з табой. З L. гэта толькі... Не навучылася б ад яе я, не навучыўся б і ты".

Мы абдымемся – мацней і мацней – з кожным новым залпам. Спатоленыя пацалункамі да болю ў пашчэнках, сядзем на цёплы каменны парапет і выдрапаем на тынку падпорнага мура дзве маленькія літаркі: M. і W.

Апошні сполах святочных агнёў пакладзе на нашыя разміласканыя твары зялёны цень. Прагучыць расчараваны ўздых натоўпу.

"Ты верыш у смерць?" – спытае W.

"Я там быў. І ты гэта памятаеш".

"Я спалохалася за цябе, калі ты страціў прытомнасць. Але зараз не пра тое. Смерць – вяртанне ў мінулае. Там збяруцца ўсе, каго ты ведаў і... кахаў. Мы з табою таксама некалі расстанемся, памрэм... Там збяруцца дзяўчаты".

"Там збяруцца ўсе".

"Збяруцца тыя, каго ты кахаў, кахаеш і будзеш кахаць. Не ведаю, колькі іх назбіраецца, але сама меней дзве, – W. прымружыць вочы, – я і тая, яшчэ адна дзяўчынка".

Я паспрабую яе пацалаваць у вусны, але яна падставіць шчаку.

"Ты да каго з іх падыдзеш?"

"Буду чакаць, пакуль адна з іх падыдзе да мяне".

"Гэта буду я. Мы назаўсёды застанемся разам. Чуеш? Бо мы ва ўсім будзем першыя адзін у аднаго".

У двары мы ўжо не заспеем нікога са сваіх сяброў. У адчыненым акне на трэцім паверсе майго дома будзе гучаць жывая музыка. Н., нібыта спецыяльна для нас, выканае на акардэоне “Weltmeister” маю ўлюбёную песню “Girl”, і мы дамовімся з W. абменьвацца не толькі пацалункамі, але й магнітафоннымі запісамі.

***

Мы з W., седзячы за трансфарматарнай будкай, будзем чытаць кнігу Фрыдрыха Шнайдэра, а калі выйдуць гуляць нашыя сябры, W. загорне том у газету і занясе яго сабе дадому праз тую самую брамку, ключ ад якое я буду адчуваць паміж намі пры кожным пацалунку. Калі яна вернецца, то прапануе згуляць у “кіс-мяў”. Мне выпадзе быць люстэркам, я павярнуся да ўсіх спінаю, а малодшы за мяне на год D. стане па чарзе паказваць пальцам на прысутных і пытацца:

“Кіс?”

Тры разы запар я адкажу: “Апсік?” На чацверты ж вымаўлю:

“Мяў”.

“Які колер?” – спытаецца D.

У думках я перабяру магчымыя варыянты: чырвоны — пацалунак вусны ў вусны, зялёны – пацалунак праз кляновы ліст, сіні – тры пытанні сам-насам і абявязкова шчырыя адказы на іх, блакітны – два пытанні пры ўсіх. І скажу:

“Сіні”.

Я не памылюся, мне выпадзе ісці з W. Мы адыдземся пад вазоўні, каб нас ніхто не мог пачуць.

“Гульня страціла для нас сэнс. Мы і так не хаваем адно ад аднаго свае таямніцы”, – скажу я.

“Каханне – хіба гульня ў шчырасць для дваіх?” – запярэчыць яна.

“Пастаім яшчэ трошкі, каб яны падумалі, нібыта мы пытаемся і адказваем”.

“Да мяне апошнім часам заляцаецца S.”, – паскардзіцца W.

Праз кон гульні мне выпадзе ісці менавіта з ім. Сіні колер. Тры пытанні. Тры адказы – шчырыя, як на споведзі.

“Ты кахаеш каго небудзь?” – спытаецца S.

“Але”.

“Хто яна?”

“W.”, – без ваганняў адкажу я.

“Вы цалаваліся?”

“Так”.

“Ты яе добра памацаў? Цыцкі пругкія? – узбуджана спытаецца S. – А то яна ўсё ў мужчынскіх кашулях ходзіць, не разбярэш”.

“Я мусіў адказаць табе толькі на тры пытанні, а гэтае – чацвертае”.

“Ясна, палазіў ужо па ёй. Яна хітрая, у джынсах ходзіць, калі ў спадніцы – лацвей: руку сунуў – і ўсё. Але і праз джынсы памацаць цікава. Табе яна дазваляе ў майткі лазіць?”

“Гэта не твая справа”.

“Раскажы”.

“Не раскажу”, – я надам свайму голасу адценне вытанчанае ў распусце дасведчанасці.

“Ты, відаць, і дзеўкі голае на ўласныя вочы ніколі не бачыў”, – справакуе мяне на шчырасць S.

Я змаўчу, а вось ён назаўтра маўчаць не стане, і каб зведаць большую асалоду, кожнаму з нашых і са сваіх сяброў паасобку паведаміць, што я і W. цалуемся. Пра гэта я дазнаюся ад L. Яна патэлефануе мне і майму сябру D. Усе разам мы адшукаем W. на лаўцы за трасфарматарнай будкай, вецер гартане кніжныя старонкі на яе каленях. Яна нават не ўсміхнецца, як пабачыць мяне, і прыкрые рукамі не кнігу, а твар, заплача.

“За такое біць трэба”, – вызначыць D.

“Усім расказаў, пры ўсіх і біць будзем”, – пагаджуся я.

“Хлопцы з ягонага дома бараніць кінуцца”, – нягледзячы на адчай, не згубіць разважнасці W.

Мы зловім першакласніка Р. і загадаем яму перадаць S., што я і D. чакаем яго з прыхільнікамі, каб біцца на газоне каля вазоўняў. Акардэаніст Н. адмовіцца браць удзел у бойцы, скажа, што біцца за бабаў глупства, а па-другое, ён заўсёды пасля змяркання грае варыяцыі на тэмы ангельскіх песняў і мяняць лад жыцця не збіраецца.

І вось пад вечар мой былы сябра, а ў сапраўднасці здраднік і вораг S. з трыма хаўруснікамі будзе чакаць на ўмоўленым месцы. Мы станем двое супраць чатырох. Сам не ведаю чаму, першым чынам я здзяру з ягонае галавы кепку і закіну яе на дрэва.

S. паглядзіць, як яна хістаецца на сухое галіне ў недасяжнае вышыні, і кінецца на мяне. Некалькі роспачных нямоцных udaraў, мы счэпімся і пакоцімся па траве. Хто, я не разбяру, скочыць на нас зверху, за ім другі, я адчую на сабе цяжар целаў – ані ўздыхнуць, ані ўдарыць.

Раптам нечая моцная рука выхапіць мяне з купы.

“Рассыпайся”.

Я буду сядзець пад дрэвам, залізваць збіты кулак і спакойна пазіраць на тое, як старэйшы за мяне хлопец з суседняга пад’езда К. метадычна б’е нагой маіх ворагаў. Па адным яны адваляцца ад кучы.

“Запамінайце, – скажа мой збавіцель К., зацягнецца цыгарэтай і ўваб’е недапалак абцасам у дзёран, – нашых пісьменніцкіх хлопцаў мы крыўдзіць не дамо”.

І толькі тады я заўважу двух ягоных аднагодкаў, хлопцаў, якія жылі ў адным доме з W.

“А ты, Максім, – звернецца ён да мяне, – ужо вырас, можаш не толькі з малымі вадзіцца, а і з намі калі-нікалі

пасядзець. У цябе густ добры. W. дзеўка класная. Яна нас сюды і прыслала".

З таго часу мы з W. кінем хавацца. Я звыкнуся, што амаль заўсёды са мною побач каханая дзяўчына. Мы згубім адчуванне рызыкі ў пачуццях. Кніжка нямецкага прафесара станецца для нас улюбёным нязводным чытвом.

Так надыдуць Каляды, і ад усяе зімы ў маёй памяці застануцца: заліты цемраддзю двор, у якім я з W. лепім са снегу аголены жаночы торс. W. здыме пальчатку, падправіць голымі пальцамі невялікія грудзі, яны падтануць ад цеплыні рукі і заблішчаць чыстым лёдам, да якога захочацца дакрануцца языком. Потым дзяўчына запусціць вузкую далонь у разрэз майго зімовага паліто. Халаднаватыя вільготныя пальцы лягуць на скуру пляча, і неўзабаве я перастану адчуваць іх. А потым...

***

Я скончу восьмы клас. К., які ратаваў мяне падчас бойкі, – дзясяты. З ім і з іншымі старэйшымі хлопцамі я дамоўлюся згуляць у карты. Яны прыхопяць з сабою колькі пляшак кагору і дзеўку J. з кулінарнае вучэльні, прыгожую вульгарную бландзінку з неахайна нафарбаванымі вачыма. Я паціху спытаюся ў К.:

"Чаму менавіта з кулінарнай?"

Ён растлумачыць, што там навучэнак раз на два месяцы правяраюць на розную пошасць і, маўляў, таму меншая рызыка. Мы сядзем за стол у гасцёўні гуляць у покер. Будзе граць магнітафон. Навучэнка J. з адкаркаванаю бутэлькай пойдзе ў спачывальню і пакліча адтуль:

"Першы".

Ім станецца гаспадар, а мы працягнем гульню. За пару каноў я прагуляю ўсе грошы і толькі тады заўважу за сабою люстэрка – вялікае, на ўсю дзверку трафейнае нямец-

кае шафы. Калі я скажу пра махлярства, мне, як малодшаму, без сваркі вернуць грошы.

Будуць мяняцца за сталом хлопцы. Нарэшце са спачывальні выйдзе апошні – трэці з іх, і скажа мне: "Твая чарга". Скажа так, нібыта я кожны дзень баўлю час з дзяўчатамі ў ложку.

Ён заўважыць маю разгубленасць і спытаецца:

"Ты першы раз?"

"Трэці", – схлушу я.

"Шкада, яна магла б цябе навучыць. Ідзі".

Пакоі ў старым асабняку, што некалі належаў менскаму губернатару. Адны за аднымі адчыняць мне дзверы анфілады. З гасцёўні я траплю ў пакой са швейнаю машынкаю – вузкі і высокі, як бутэлька "бехераўкі", з яго ў бібліятэку, адтуль у спачывальню. Я старанна прычыню за сабой усе дзверы.

На вялікае канапе, на падасланым рушніку будзе сядзець разамлелая ад мілосцяў J. Аголеная, змазаны макіяж, на шыі слівавая пляма ад пацалунка. Яна кране яе рукой, налье сабе віна і адап'е палову шклянкі, рэшту прапануе мне.

Я вып'ю густую ад цукру вадкасць і першы раз у свядомым жыцці ўважліва агледжу аголеную жанчыну. Я зразумею, што магу дакрануцца да яе рукой. За акном першага паверха блісне чырвоным дахам таксоўка, прамільгне дзіцячы твар – хлопчык на плячах у бацькі. Атрутнаружовымі пададуцца мне плямы на яе грудзях. J. абхопіць рукамі крыж на крыж плечы і спагадліва ўсміхнецца. Толькі тут я зразумею, што яна сядзіць прытуленая спінаю да сцяны, за якою пакой W. I, магчыма, мая каханая за некалькі крокаў ад мяне, адгароджаная цагляным мурам.

"Ты першы раз, – сцвердзіць J., – хадзі, навучу як трэба", – яе ногі застануцца зведзенымі.

# У нас

“Ты стамілася?” – я позіркам папрашу дзяўчыну сказаць “так”.

“На цябе хопіць, ты скора скончыш”, – яна краем прасціны абатрэ вусны.

“Я проста пагляджу на цябе. Можна?” – мне нясцерпна захочацца дакрануцца да яе цела рукой.

“Не трэба баяцца, кожны робіць гэта ўпершыню”.

“У мяне ёсць дзяўчына. Яна жыве за гэтай сцяной”.

J. машынальна азірнецца, злёгку растуліць ногі і пакладзе паміж іх далонь.

“Не хочаш — не трэба. Але я не адпушчу цябе і пакажу фокус”, – як дарослая падлетку скажа яна.

J. выкруціць з падсвечніка на тумбачцы доўгую араматызаваную свечку. Шырока развядзе ногі і, гледзячы мне проста ў вочы, павольна засуне яе ў похву. Я фізічна адчую, як паўпразрысты бурштынавы стрыжань рассоўвае коўзкую мякаць маціцовай глыбіні яе цела, як ён няспешна мякчэе ў задушлівай гарачыні.

Свяча схаваецца ледзь не цалкам, адно застанецца тырчэць кароткі, з фалангу пальца, цыліндрык і скрыўлены набок чорны глянцавы кнот. J. няспешна правядзе чырвонаю галоўкаю калекцыйнае запалкі па карабку і запаліць яе. Агеньчык захістаецца паміж яе ног. Кроплі расплаўленага парафіну пярлінамі заззяюць на рушніку.

“Класная запальнічка? – J. падасць мне пачак цыгарэтаў, – прыпалі для мяне адну, сама я не дацягнуся”.

Я нахілюся, глыбака ўбяру ў сябе дым спачатку аднае, затым другое цыгарэты і асцярожна, ледзь не кранаючыся вуснамі агеньчыка, задзьму яго.

Перш чым апрануцца, дзяўчына пацалуе мяне ў шчаку.

“Я не скажу хлопцам, што ў нас нічога не адбылося. Скажу – ты самы лепшы з іх”.

Калі мы выйдзем разам ў гасцёўню, то карты будуць здадзены ўжо і на мяне, самае дзіўнае – без махлярства.

***

Апошні тыдзень вакацыяў мой сябра D. запросіць мяне правесці ў яго на лецішчы на беразе Заслаўскага вадасховішча. У першую ж ноч мы дамовімся на дзень запрасіць да сябе і нашых сябровак L. і W. Аніводная з іх не здзівіцца нашаму званку, і мы сустрэнем іх на аўтобусным прыпынку непадалёк ад міжнароднага гатэля, дзе ўжо працаваў бар з люстранымі падлогаю і столлю.

З сабою мы прыхопім бульбу, зяляніну, чыгунок і пашпарт бабулі D., каб узяць напракат лодку. Яна нам і дастанецца – цяжкая металёвая, прыстасаваная да таго, каб хадзіць пад рухавіком. Мы выплывем на сярэдзіну вадасховішча і адтуль ужо прыгледзім сабе для забаў самую маленькую выспачку, да якое давяслуем нязручнымі дзюралевымі вёсламі ажно праз цэлую гадзіну. Выспа акажацца бязлюднаю, парослаю хмызамі і высокай, ніколі не кошанаю травой. На пясчаным пляжы мы распалім вогнішча, паставім на яго варыцца бульбу ў чыгунку. Калі вада закалыхуе, я і D. абмяняемся позіркамі.

“Хадзем, – ён возьме L. за руку, – я табе на тым беразе нешта пакажу. А вы варыце бульбу”.

W. падсядзе бліжэй і пакладзе галаву мне на калені.

“Пачакаем, пакуль бульба зварыцца, ёй скора, – яна торкне ў кіпень пруток з ляшчыны, – вялікую трэба было парэзаць, а дробныя ўжо зварыліся”.

“Усе зварыліся, хадзем”, – пачну прыспешваць я.

“Бачыш – не”, – яна апантана будзе торкаць і торкаць прутком.

Нарэшце я забяру яго і ўсаджу ў самую вялікую буль-

біну, тая разваліцца напалам і дыхне на нас перагрэтаю параю.

“Нашто маніш, яна даўно зварылася”.

“Ваду зліць”, – з жалем у голасе прамовіць W.

У яе закалоцяцца рукі, а мо й сапраўды стане халадна, бо і па маім целе пабягуць дрыжыкі. Я падсуну пад чыгунок вясло, занясу і кульну яго на траву.

“Усё, гатова, – скажу я, – хадзем”.

Над хмызняком, што схавае нас, пранясецца вецер. Мы апусцімся на калені.

“Мне будзе балюча, – увап’ецца пазногцямі ў маю руку W., – я закрычу”.

“Мы тут адны”.

“Нас пачуюць”.

“Вецер дзьме ад іх да нас, ён знясе крык”, – паспрабую я супакоіць дзяўчыну, правяду рукою па яе валасах, пакладу яе галаву сабе на плячо. Аднак толькі крану засцежку на джынсах, як яна заўпарціцца.

“Пачакай, не зараз, я супакоюся... ува мне ўсё сцялася... расшпіліш... калі можна будзе, я сама вылузнуся з іх”.

Яна ледзь не да крыві ўкусіць мяне, я не стрываю і з усяе моцы сцісну яе плечы.

“Супакойся, дурніца. Ты ідыётка”.

“Табе добра казаць, апыніся ты на маім месцы... Выбачай, я сапраўды вар’яцею. Цябе самога калоціць”.

Яна зробіцца паслухмянаю, сама скіне кашулю. Першыя буйныя кроплі дажджу пырснуць на яе падцятыя ад холаду і хвалявання грудзі.

“Дождж пачынаецца. Але гэта нічога. Я сама скажу табе – “тры-пятнаццаць”, і ты расшпіліш мне засцежку-маланку”.

Наляціць віхура, секане па нашых целах жвірам, змяшаным з пырскамі. “Тры-пятнаццаць” так і не прагучыць.

“Максім, кідай усё і бяжы хутчэй, лодку ветрам адносіць!” – пачуецца крык D.

W. істэрычна засмяецца.

“Не лезь, патонеш”, – залямантуе на беразе L.

Падзьме жахлівы ў сваёй моцы вецер, попельнае вадасховішча растрэскаецца ламанымі хвалямі, як выпушчанае на падлогу люстэрка. У джынсах я забягу ў ваду і паплыву наўздагон лодцы. D. ўжо трымацьмецца за яе борт.

“Ты трымай, а я залезу!”

Я павісну з аднога борта, ён кульнецца з другога.

Нарэшце адным вяслом мы падгонім лодку да выспы, паскідаем у яе рэчы і сядзем на вёслы.

W. у памаранчыкавае ратаўнічае камізэльцы учарэпіцца за лаву і заенчыць, што не ўмее плаваць. З ёю здарыцца сапраўдная істэрыка. Краявід заштрыхуе залева. Забраны дзюралем нос цяжкое лодкі будзе то хавацца ў хвалях, то завісаць над імі. Знікне дакладная мяжа паміж вадою і небам, нас ахіне задушлівы491 кактэйль з пырскаў, дажджу і віхурнага ветру.

“Сціхні, дурніца, – засычыць L. на W., – і без цябе моташна”.

“Абірай бульбу з мундзіраў”, – у маім голасе прагучыць сапраўдны боль, бо я здзяру сабе далоні ў кроў.

D. пaглядзіць на мяне як на вар’ята. W. паслухмяна заціснe ўчарнелы на вогнішчы чыгунок паміж каленьмі, і толькі тады я заўважу, што на ёй зверху, апроч расшпіленае ратаўнічае камізэлькі, нічога няма. Яна будзе абіраць бульбу так старанна, нібыта толькі гэта здолее нас уратаваць, і заціхне. Калі з-за нізкіх хмараў зробіцца цёмна, як на змярканні, і я ўжо пагаджуся з тым, што мы патонем, маланкі адна за адной уваткнуцца ў ваду.

Мы ўсё ж давяслуем да берага, праўда, за кіламетр ад лодачнае станцыі, саскочым у ваду, з дзяўчатамі будзем

штурхаць лодку чаратамі. Ужо добра звечарэе, калі мы ўчатырох, мокрыя, сядзем на аўтобусным прыпынку і нарэшце паямо халоднае бульбы з зелянінаю.

W. безвынікова паспрабуе адцерці са сцёгнаў вугальныя пісягі. Мы – я і яна – спусцімся з адхону да плыткае, што расцячэцца па траве, чыстае калюжыны.

Дзяўчына так і не адшаруе спачатку сваёю, а потым, калі тая ўчарнее, і маёю насоўкаю шорсткі джут.

“Гэта ты начаравала навальніцу, бо баялася. Табе лягчэй загінуць у хвалях, чым...”

“Ёсць дзяўчаты, якім гэта лёгка, я не з іх”.

“Ты ж не збіраешся заставацца цнатліваю ўсё жыццё?”

“Не. Я баюся болю, баюся закрычаць, не баюся страціць цнатлівасць... Я хацела сказаць табе адну рэч пасля таго, як у нас... у мяне атрымаецца. Мае бацькі з’язджаюць на новую кватэру. Ты прыедзеш да мяне?”

“Там ёсць тэлефон?”

“Некалі будзе...”

Пад’едзе аўтобус і звязе дзяўчат. Да канца тыдня прастаіць пагода. Мы з D. яшчэ пару разоў сплаваем на выспу, дзе змарнуем час стрэламі з пнеўматычнае вінтоўкі па кансервавых бляшанках і па пустых, выпітых іншымі шукальнікамі забаў, пляшках.

***

З W. мы ўбачымся толькі ў дзень яе ад’езду. За брамкаю, каля самага кінатэатра, будзе стаяць машына, наладаваная мэбляю і клункамі. Я падыду да кратаў і гукну маю каханую.

“Зараз, – W. расчыніць адну з валізаў, выцягне кардонку з-пад цукерак асарці, – у мяне больш няма ключа”.

Яна падасць мне паміж прэнтаў кардонку:

“Тут фотаздымкі і мой новы адрас. Гэта табе, іх ты не выкінеш. Я сама рабіла”.

Я падыму накрыўку і ўбачу добра адглянцаваныя карткі з крыху расплывістымі ў вэлюм, перазнятымі з часопісаў, карткамі — выявамі ангельскіх гуртоў. На адваротным баку аднога са здымкаў – Мік Джагер у стане цяжкога алкагольнага атручвання – будзе друкаванымі літарамі накрэслены адрас з указаннем нумароў аўтобусаў, тралейбусаў і трамвая, тамсама – назва прыпынку: "Бульвар Тараса Шаўчэнкі". W. возмецца за пранты брамкі, я вазьмуся паверх яе пальцаў.

"Прыедзеш да мяне?"

"Патэлефануеш?"

"Я зрабіла два аднолькавыя камплекты фотак. Адзін застанецца ў мяне, другі — у цябе. Я была дурніцаю на выспе".

"Я – не меншым дурнем, варта было пабіць цябе".

"Я больш не баюся", – яна выслабаніць руку і пойдзе да рэчаў.

***

Я так ніколі і не пазваню ў яе дзверы. Нават калі аднойчы прыеду на бульвар і знайду дом. Пастаю перад пад'ездам і вярнуся. Мне ўявіцца, як адчыніць яе маці – незнаёмая мне жанчына (яна аніколі не з'яўлялася ў нашым двары) – і пачне дапытвацца, навошта я шукаю яе дачку.

***

Зноў я сустрэну W. толькі праз год. На той час я ўжо скончу дзевяты клас. Надзену зялёныя вельветавыя нагавіцы клёш, доўгую камізэльку, велюравыя чаравікі і шырачэзную кашулю ў чырвоныя пеўні, а калі таго запатрабуюць урачыстыя абставіны, дадам да гардэробу каўбойскую хустку ў бубачкі, рэмень з бліскучаю спражкаю на два кулакі. Можа, занадта й кідка, але такога ўбрання бу-

дзе вымагаць мой тагачасны занятак для душы – музыка-бітнік – клавішы й сола-гітара.

Стары склад школьнага гурта здасць выпускныя іспыты, і апаратура з інструментамі пяройдзе нам у спадчыну: бас-гітарысту ў ленанаўскіх акулярах з жульвернаўскаю мянушкай Паганэль, рытм-гітарысту і вакалісту Сэру, мне і бубначу – адзінаму, хто з нас чатырох стане прафесійным музыкам, ён і цяпер іграе ў аркестры Фінберга. Наш гурт назавецца сціпла: "Сэвэн Хілз" – сем пагоркаў, тых самых, на якіх паўстаў Рым. Рэпертуар складзецца разнастайна-вытанчаны: з англамоўнага – ледзь не ўвесь "Beatles" і "Rolling Stones", з класікі — "У пячоры горнага караля" Эдварда Грыга, з нацыянальнага — "Стаіць Янка на гары" і бітлесаўская ж "Girl" у маім адвольным перакладзе на беларускую мову.

Рэпетаваць мы ўладкуемся ў школьным ціры, у сутарэннях, таемна прыносячы з сабою сухое мадзьярскае віно і галандскія, адно па назве, плаўленыя сыркі. Пачуць нешта, седзячы ў вузкім і доўгім, пазбаўленым мэблі ціры, будзе немагчыма з-за рэха, і мы па чарзе станем выходзіць на калідор, каб скарэктаваць гучанне інструментаў на слых. На адзіны ўваход узмацняльніка мы навесім усё, што займеем: электраарган, дзве гітары, мікрафон.

Калі ж спатрэбіцца давесці вакал да межаў магчымага, Сэр разявіць рот і засуне ў яго мікрафон, адно застанецца тырчэць штэкер. І гэты голас прымусіць паверыць у нас усіх, калі мы першы раз сыграем на публіку.

Пасля аднае з такіх рэпетыцыяў, калі ў маёй галаве ўсё зблытаецца ад шалёных рытмаў, я пайду дахаты праз дзіцячы парк. Каля кінатэатра "Летні" я, як дарослы, запалю, а каб вінавата не пасміхацца праходным і не чырванець, адвярнуся да ракі. Цёплы камень парапета дадасць мне ўпэўненасці ў сабе.

Я нават не пачую яе крокаў:

“Максім!” – на парапет апусціцца дзявочая рука з доўгімі адпаліраванымі пазногцямі, пальцы пад маім позіркам сціснуць шытую бісерам партманетку.

Мне падасца, што W. не змянілася за той год. Такая ж хударлявая, даўгія каштанавыя валасы расплеценыя, трохі завялікая каўбойка з падкасанымі рукавамі, заўсёдныя джынсы.

“Максім, – скажа яна так, нібыта гэта я прызначыў ёй тут сустрэчу, а яна спазнілася, – у “Летнім” ідзе “Рамэа і Джульета” Франка Дзіфірэлі, я глядзела два разы, а ты?”

“Не паспеў”.

“Я ўзяла два, убачыла цябе здалёк”, – W. падасць мне квіткі.

Грошы яна адмовіцца браць настолькі станоўча, што я нават не стану налягаць. Да сеансу застанецца хвілін каля сарака, і мы пойдзем углыб парка па газоне між дрэваў.

Той вясной нехта спаліць Летні тэатр. Калі пойдзе пагалоска, што на яго месцы праектуецца танцпляцоўка, а адміністрацыя парка не дае зносіць будынак, невядомы падпальшчык уначы абліе бензінам высокі дашчаты паркан, каб ніхто не шкадаваў таго, чаго болей няма.

На тэатральным папялішчы запануе бязлюддзе. Мы падымемся на панішчаную агнём сцэну. З разбітага, абвугленага з аднаго боку нямецкага раялю “Bechstein” звісне колькі абарваных струнаў. W. пройдзецца пальцамі па растрэсканых, пацямнелых у пажары касцяных клавішах. Струны азавуцца толькі з другое актавы, азавуцца мінорнай мелодыяй. Дзяўчына заспявае па-ангельску. Незнаёмая мне песня зматэрыялізуе смутак над нежывым тэатрам. На абгарэлыя лаўкі зацярусяцца са зжаўцелых кіпарысаў сухія лапкі.

“Гэта песня з фільма. Вось пагляджу трэці раз з табою і вывучу словы дарэшты. – W. паглядзіць на кранутыя ву-

гальным пылком пальцы з задоўгімі, як на школьніцу, адпаліраванымі да люстранога бляску пазногцямі. – Ты, кажуць, у гурце на аргане граеш?"

"Хто кажа, W.?" – я прамоўлю яе імя ўголас, і мяне абдасць гарачынёю, нібыта выпадкова і без дазволу дакрануся да яе цела.

"У мяне кузіна ў паралельным з табою класе вучыцца, яна пра цябе ўсё расказвае. – W. паглядзіць мне ў вочы, і я пералічу ў думках тое, што можна паставіць мне ў дакор. – Ты яе амаль не ведаеш, і да мяне яна цалкам непадобная. Я дазналася, з кім ты граеш, з кім сябруеш... і пра тваю цяперашнюю дзяўчыну-выдатніцу ведаю, яна для цябе ноты з запісаў песняў на слых падбірае. Назваць яе імя?"

"Скора кіно пачнецца, – я пакажу на гадзіннік. – Усяго твая кузіна ведаць не можа".

"Летні" – мой улюбёны кінатэатр у горадзе — спаляць неўзабаве пасля таго сеансу следам за Летнім тэатрам, спаляць аматары танцаў, прынясуць яго ў ахвяру так і не збудаванай танцляцоўцы. Пойдзе дымам велічны ампір драўлянае стадолы. У зале, абабітай цёмна-зялёным аксамітам, больш не запаляцца фігурныя плафоны літых бронзавых бра. Не залюстрыцца ў начное Свіслачы высокаўзнесеная франтонам неонавая рэклама.

У зале на паўтысячы месцаў на дзённы сэанс назбіраецца два дзясяткі гледачоў. Я і W. сядзем у апошні рад.

"Ты ведаеш, колькі гадоў было Джульеце?" – нахіліцца яна да мяне.

"Дванаццаць. Яна хадзіла ў першы клас, бо была дурніцай і другагодніцай", – скажу я і крануся каленам яе нагі.

W. не адвядзе позірку ад экрана, па якім плывуць веронскія краявіды. Рамэа раскажа Меркуцыа пра сваё каханне, а той пачне кпіць з яго і разважаць пра сны. Я паспею сагрэць далонь W. у сваёй руцэ, калі Рамэа ўбачыць

Джульету і закахаецца ў яе. Мы абдымемся, калі Рамэа ўскараскаецца на дрэва ля гаўбца і прызнаецца ў сваім каханні Джульеце. А цалавацца мы будзем ужо ўчатырох: я, Джульета, Рамэа і W. Калі ж вандроўны музыка заспявае на фэсце ў Капулеці шчымлівую, як дым восеньскае лістоты, песню, мая дзяўчына прамовіць:

“Мы зноў разам”.

“Ты хацела вывучыць словы”, – нагадаю я.

“Я іх ведаю”.

Пасля фільма W. не стане збіраць слёзы, як іншыя глядачкі, у насоўку, а прапануе:

“Бацькі на працы, паедзем да мяне. Паслухаем запісы”.

Мы прыедзем на бульвар Шаўчэнкі. Новы пяціпавярховік у дварах. Апошні паверх. Адразу ж з вузкай вітальні мы зойдзем у ванны пакой.

“Я тут раблю фотаздымкі”, – скажа W.

На пральнай машыне бліснe чорнаю падстаўкаю зачахлёны фотапавелічальнік. З палічкі з фотарэактывамі над унітазам W. здыме колбу хімічнага шкла з надпісам “Аслабляльнік Фармэра”.

“У ёй я хаваю кубінскі ром “Havana club”.

Яна перадасць мне колбу і распакуе заклеены канверт з-пад фатаграфічнае паперы – выцягне з яе цыгару “Партагас” і кардонныя запалкі.

“Хадзем”.

У гасцёўні на старым нямецкім фартэп’яна атабарацца магнітафон “Дніпро” і стосы бабінаў. На каляровых ракордах стужак застракацяць надпісы: “Крыдэнз”, “Уінгз”, “Ролінг Стоўнз”, “Бітлз”, “Дып Пёрпл”, “Песняры”, “Мірэй Мацье”, “Іма Сумак”. Я выберу “Ролінгаў” – “Рубінавы аўторак”.

Мы моўчкі засцелем абвіты фасоляй гаўбец ватняю коўдраю і ўладкуемся на ёй, абдгароджаныя з трох бакоў

 



нагрэтымі сонцам экранамі з хвалістага шклапластыку. Мы ўбачым вышэй за сябе толькі неба і вершаліны дрэваў.

Я буду патроху паліць ужо з паўгода – пераважна кароткія польскія цыгаркі "Klubowe" з папяровым фільтрам, якія чамусьці будуць весціся з усяго Менску толькі ў шапіку нямецкае рэстарацыі "Патсдам". Моцная гаванская цыгара, памачаная ў ром, падзейнічае на мяне забойча, на тры мае зацяжкі прыйдзецца адна, зробленая W.

Калі кароткі канчар ляжа ў попельніцу, я зразумею, што падняцца не здолею, і таму нават не паспрабую стаць на ногі: закружыцца галава. Мы вып'ем рому са срэбнае чаркі, закусваць будзе не ў гонар – закаханыя не ядуць. Трунак атрутнаю гарачынёю разыдзецца па целе і вернецца лёгкай млосцю.

"Я адчуваю сябе на бязлюднае выспе, а ты?" – спытае дзяўчына.

"Мы на ёй разам".

Мы пацалуемся, як і першы раз: спачатку простым дотыкам вуснаў, а потым, як вызначыў бы нямецкі прафесар — аўтар "Полавага пытання", – адкрытым французскім пацалункам. Нарэшце W. сцісне вусны, мы сутыкнемся ілбамі і засмяемся.

Пасля другое чаркі рому, выпітае на дваіх, сам сабою згадаецца наступны раздзел з працы Фрыдрыха Шнайдэра. Я накручу яе валасы сабе на палец і пушчу іх – развінецца каштанавая спіраль, — а затым хукну праз кашулю ў яе плячо. Дзяўчына пацалуе мяне ў скроню. Мая рука слізгане пад яе каўбойку і спынецца на незабраных ў станік грудзях. Я адчую, як няроўна набірае W. паветра, каб сказаць:

"Мне добра".

"Мне таксама".

Пад маімі пальцамі адзін за адным расшпіляцца дроб-



 

ныя, кожны з чатырма дзірачкамі, гузікі яе кашулі. І я развяду, нібыта ссуну з засыпанага на пляжы цела жвір, кашулю ў бакі.

"Мы звар'яцелі. – W. спачатку ссутуліцца, а потым выгнецца, каб даць мне магчымасць выцягнуць прыпол кашулі з туга падперазаных шырокаю скураною дзягаю джынсаў, і ўжо на выдыху дадасць: – І хто забараняў нам здзейсніць гэта раней?"

"Страх".

"Дай выпіць", – яна пацягнецца па срэбную чарку, адап'е палову і закашляецца.

Ром у яе вуснах апячэ мне язык. Я прытулюся тварам да яе грудзей, яна падцягне жывот. Рэльефна, нібыта сляды маіх нецярплівых пальцаў, праступяць на яе целе скабы. Зарыпіць скура рэмня, падміргне мядзяным бляскам замочак засцежкі-бліскавіцы, рух далоні спыняць шорсткія карункі майткаў.

"Не глядзі".

Заплюшчаныя вочы, сціснутыя вусны таргануцца ва ўсмешцы. Плаўны рух сцёгнаў. Скамечаныя джынсы, сцягнутыя разам з майткамі, яна адштурхне нагой у белым гольфе на выкладзеную пліткай падлогу гаўбца.

Мы нават не паспрабуем зладзіць тое, што, па вызначэнні нямецкага прафесара, з'яўляецца полавым актам – "увядзенне пеніса ў адну з натуральных адтулін жаночага цела".

W. адчуе палёгку і ўжо без сораму прыцісне маю руку да сябе сваёю, шчыльна звядзе ногі. На неафарбаваных вейках блісне вільгаць. Яна адкрые вочы і моўчкі нальe мне рому. Той падасцца мне прэсным, як расталы лёд.

"Калі і я зраблю табе рукой, табе таксама будзе добра?"

Стужка на бабіне скончыцца, і мы пад шамаценне ракорда возьмемся выціраць насоўкамі коўдру. Пасля цы-

гары, пасля яшчэ дзвюх чарак на спякотным сонцы мне зробіцца блага. Я ледзь жывы дабяруся да ваннага пакоя, укленчу прад унітазам і самлею. Працвеaccount разелая ад пераляку, што я зараз памру, W. возмецца адпойваць мяне вадою, а я — то прасіць прабачэння, то казаць, што ўжо акрыяў, але ўсё адно раз за разам буду вяртацца да унітаза.

Калі нарэшце W. пераканаецца, што я застаўся жывы, яна прымусіць мяне сунуць галаву пад кран, а потым выпіць поўны імбрычак моцнай запаркі. Я не распранаючыся лягу спаць на яе канапе, а яна ўладкуецца побач.

Мне падасца, што толькі заплюшчыў вочы, а яна ўжо будзіць мяне.

“Сыходзім, скора бацькі прыйдуць”, – прыспешыць маё абуджэнне дзяўчына.

Я падымуся, але неўзабаве сяду.

“Я правяду цябе, хадзем”.

Мяне хопіць на тое, каб спусціцца ў двор і завярнуць за рог. Седзячы на бардзюры кветніка, я скажу:

“Дарма палілі цыгару, гэта ад яе так блага, далей я не пайду”.

“Калі ласка, ўставай, едзем разам”.

Мой твар, відаць, зробіцца аднаго колеру з зялёнаю камізэлькай, бо нейкая цётка прыпыніцца каля нас і жахнецца:

“Трэба “Хуткую дапамогу” выклікаць. Ён памрэ зараз!”

“Не трэба, – закрычыць наўздагон ёй W., – ён проста моцна стаміўся!”

Толькі пагроза прыезду дактароў прымусіць мяне падняцца. Дрыготкі, са звінячым шклом, тралейбус ніякім чынам майго адчування не палепшыць. Нязрушным позіркам я глядзецьму праз шыбу на тратуары. Застыгнуць жаданні, памкненні, застанецца толькі накірунак руху.

Апошнім намаганнем волі я прымушу сябе прайсці праз свой, а некалі наш з ёю двор. У пад'ездзе я прывалюся спінай да паштовых скрынак, абдыму W. і пацалую. Не таму, што мне гэтага захочацца – адзіным жаданнем стане легчы і заснуць, а таму, што інакш нельга развітвацца з каханай. Яна моцна-моцна прыціснецца да мяне і апантана пачне паўтараць:

"Я кахаю, кахаю..."

І толькі я збяруся адказаць ёй, як увышыні ляснуць дзверы. Мы тарганемся, шчоўкне зашчапка металёвага бранзалета на маёй руцэ, гадзіннік упадзе дзяўчыне пад ногі. Я пабягу да сваіх дзвярэй.

Дома я адразу ж распрануся і лягу спаць, хоць і будзе шчэ светла. Пабудзіць мяне тэлефонны званок:

"Добрай раніцы, Максім, ты як?" – павітаецца W.

Я прыгадаю ўчарашні дзень: узнёслыя словы, музыку, спалены тэатр, асалоду блізкасці, цёплы фаянс унітаза і цераз сілу прызнаюся:

"Такое са мной адбылося ўпершыню. Выбачай".

"Са мной таксама. Ты не адмаўляешся ад учарашняга?" – спытае яна.

"Ад чаго менавіта?"

"Мы сустрэнемся яшчэ, ці ты зноў знікнеш на год?"

Я памкнуся сказаць: "Сёння ж", – але сустрэнуся позіркам з уласным адбіткам у насценным люстэрку, згадаецца самае брыдкае, зразумею: і яна ніколі не забудзе ўчарашні дзень.

"Чаго ты маўчыш?" – насцярожыцца W.

"Калі я паабяцаў табе нешта пэўнае ўчора, то выбачай. Я не мусіў гэтага казаць".

"У мяне твой гадзіннік, ты павінен яго забраць. Праўда, ён зламаўся. Сустрэнемся і пагаворым".

"Выкінь яго. Бывай".

Мы памаўчым. W. больш не перазвоніць.

***

Да апошняе сустрэчы ў нашых жыццях пройдзе яшчэ тры гады. Я скончу школу, так і не дазнаўшыся, хто яе кузіна, паступлю ў інстытут, закіну музыку і намеруся сур'ёзна заняцца літаратурай. Нават напішу навелу на адзінаццаць старонак з адраджэнскім сюжэтам:

“Адзін хлопец, зразумела, сведамы беларус, прыязджае з Менску ў Вільню і спазняецца на зваротны цягнік. Ён мусіць застацца нанач у сталіцы Вялікага Княства. Ані грошай на гатэль, ані сяброў. Ён сядзіць у бары, што каля Вострае Брамы, і бавіць час да закрыцця. Настае шарая гадзіна, і да яго падсаджваецца дзяўчына ў старасвецкае сукні, тлумачыцца – чула, як ён замаўляў каву па-беларуску. Яны доўга і нудна гавораць, лаюць летувісаў, узносяць беларусаў. Апоўначы хлопец бярэцца правесці дзяўчыну дадому. Абязлюднелае места. Хлопец кажа, што вось такая Вільня яму даспадобы. Уначы, без прышлых, яна зноў робіцца спрадвечнай беларускай сталіцай. Яны даходзяць да невялікага баракальнага асабняка ў старым завулку. На франтоне сцюкавы медальён з жаночым профілем. Вядома, гэта скульптурны партрэт гаспадыні, якая прапануе хлопцу застацца нанач. Хлопец і дзяўчына сядзяць пры свечках, зноў вядуць нацыянал-патрыятычную гутарку. Калі сама сабою гасне апошняя свечка, яны кахаюцца. Перад світанкам хлопец сыходзіць, але з паўдарогі да вакзала вяртаецца, каб паглядзець адрас. Завулак на месцы, а вось асабняка няма. І тут на ранішняе вуліцы хлопец здагадваецца: ягонаю каханаю гэтае начы была сама Вільня, яе душа. Пасля такога адкрыцця ён робіць слушную выснову, што аніводнаму летувісу не дадзена завалодаць душою Вільні, бо яны знявечылі назву места. Для іх існуе толькі Вільнюс – ён, мужчына, а гэтае места спрадвеку – яна, Вільня. І толькі беларусу дадзена яе зразумець, а часам і ўбачыць”.

Вось такая нацыянал-эратычная тэма прыйдзецца мне даспадобы ў васемнаццаць гадоў, калі перайду на другі курс Політэхнічнага інстытута.

У мяне з‘явіцца сябра – жыд Z., і ўсе студэнцкія гулянкі пачнуць ладзіць то ў мяне, то ў яго. Праўда, Z. будзе наладжваць і асобныя паўпадпольныя гулянкі, выключна для жыдоў. На іх мяне, зразумела, запрашаць не стануць. Але аднойчы на адну з іх трапіць давядзецца. Я пазычу падчас летняе сесіі у Z. касеты з запісамі, а прынясу іх аддаваць на дзень раней, чым абяцаўся, у суботу пад вечар. Забудуся на існаванне іудзейскага Шабасу.

Аніводнага славянскага твару, у магнітафоне касета з народнымі песнямі на ідыш. Госць – хто п’яна змаўчыць, хто працягне размову. Каго я пазнаю, каго ўбачу першы раз. Нехта вызірне з ваннага пакоя, але толькі павярну галаў – дзверы зачыняцца. Z. павагаецца і запросіць мяне да стала, сядзе побач, нальe лікёру. Мне падасца – рукі робяцца ліпкімі, нібыта на іх пырснулі алеем, і толькі потым зразумею – вінаватыя пах і святло араматызаваных свечак, што на масіўным залачоным сямісвечніку пасярод стала.

“Пайду рукі памыю”, – скажу я.

Гаспадар спыніць мяне:

“Не мітусіся. Умывалка занятая”.

Я падыму чарку, каб кінуць пару слоў пра спрадвечнае братэрства жыдоў і беларусаў, ды так і спынюся. Шчоўкне зашчапка, пачуецца, як шалёна гудзе вада ў ванным пакоі. Рыпнуць масніцы. Змоўкнуць госці. Скаланецца лікёр у маёй чарцы. На парозе гасцёўні стане мокрая, як тапелец, цалкам аголеная W.

“Падлы, – яна з пагардаю абвядзе позіркам прысутных, – мяне пад халодны душ пасадзілі, а самі п’яце?”

“Знікні, – Z. падымецца, – ты не заўважаеш, што ў задніцу п’яная?”

“Пляваць, тут усе свае”, – яна прытрымаецца за выключальнік, запалымнеюць ражкі жырандолі.

“У нас госць. Знаёмся – Максім. А сваё імя паспрабуй вымавіць сама, калі здолееш”.

“Фарысей пархаты, ты яшчэ спадзяешся мяне з ім пазнаёміць. Мяне і без цябе ведаюць. Дарэчы, – яна скрывіць вусны ў пыхлівае ўсмешцы, – я не п’яная ў задніцу, а ў задніцу голая”.

W., пакідаючы на паркеце мокрыя сляды, абыдзе стол і сядзе мне на калені. З доўгіх мокрых валасоў па яе мярцвяна-зімным целе пабягуць на мае джынсы струмкі ледзяное вады. Пасінелыя вусны задрыжаць.

“Ціха! – W. гучна плясне ў далоні, – забаўляцца хачу! Вып’ем за першае каханне, тады дакладна нікога не званітуе. Налі мне, Максім”.

Z., як гасцінны гаспадар, адно пацісне плячыма. Маўляў, рабіце, што хочаце – горш ужо не будзе. Я плескану лікёру на дно шклянкі, але W. перахопіць бутэльку, моцна прыцісне рыльца далонню, і ружовы лікёр пацячэ цераз край на абрус. Я вазьмуся забіраць з яе рук шклянку, мы завалтузімся і абліемся салодкім, як сіроп, журавінавым лікёрам “Polar”. W. раздзярэ мне пазногцямі руку і ўкусіць за плячо.

“Праспіся!” – закрычыць на яе Z.

“Пайшоў ты, – лагодна адпрэчыць яго W., – калі і пайду, дык толькі з Максімам. Хадзем, яны анічога не разумеюць ў забавах, яны не чыталі Шнайдэра і ніколі не заставаліся ў адным класе на другі год. Хай п’юць без нас”.

“Ты і так п’яная”, – я зноў забяру ў яе шклянку.

“У задніцу”, – засмяецца яна.

“Але”.

“Не хочаш забаўляцца? Тады хадзі галодны”.

Яна крутнецца, пырскі з мокрых валасоў разлятуцца па пакоі, падымецца і надзіва годна выйдзе ў спачываль-

ню. Ляснуць дзверы, ажно згасне адзін агеньчык на сямісвечніку.

Мне зробіцца прыкра, нібыта дзеўка напілася са мною, а не з імі. Я нават не азавуся на кпіны, а пазбіраю яе кінутыя ў чарупіну ўмывалкі апранахі і старанна раскладу каля ложка на фатэлі. Джынсы, кашулю, калготы, суцэльны, без зашпінкі, станік і бязважкія карункавыя майткі – пад раніцу яна не мусіць шукаць рэчаў, а надзене ўсё па парадку.

Я не адчую ўзбуджэння, калі буду накрываць яе халоднае цела прасцінаю і падтыкаць з бакоў цёплым вярблюджым пледам. Затое рэчы мне пададуцца цяплейшымі за мае рукі. Я замілавана распраўлю выцертыя, падшытыя паміж ног замшам джынсы, кашулю са шчытнае шатландкі, на рагу каўнерыка якой бліснe металам крыва прышпіленая літарка "W". Я правяду пальцамі па вільготных карунках бялізны, адчую мяккую бязважкасць калготавага павуціння. Прыглушаныя тытунёвым дымам, пахі парфумы давядуць мяне да млосці.

За стол я не вярнуся, пайду. І толькі праз месяц, сустрэўшы Z. у краме, спытаюся, нібыта між іншым, як там маецца цяпер W.

"Ужо ліст даслала", – адкажа ён.

"Адкуль?" – яшчэ не зразумею я.

"Пакуль што з Рыма. А ты не ведаў, што яна эмігруе? Таму і напілася ледзь не першы раз у жыцці, каб было што згадаць".

***

Праз пяць гадоў з'едзе і Z., а дазнаюся я пра гэта з дзесятых рук. У Менску я сустрэну яго толькі на пачатку дзевяностых гадоў. Ён будзе стаяць, бачны здалёк, на скрыжаванні вуліц Даўгабродскай і Змітрака Бядулі, у шырокім плашчы з чорнаю сумкаю цераз плячо – самотная постаць на залітым вечаровым сонцам пляцы.

# У нас

Заскрыгоча па рэйках коламі, пырсне з-пад дугі жарынкамі трамвай. Пад чорным капелюшом зайскрацца, як пацягнутыя лакам або спырснутыя алеем, доўгая прававерная барада і спружыны пэйсаў.

Мы павітаемся за руку. Як высветліцца, ён атабарыцца ў Лос-Анджэлесе – займецца праектаваннем аўтамабільных стаянак, а ў Менск вернецца папарадкаваць магілы бацькоў.

“У мяне ёсць пляшка журавінавага лікёру”, – прапануе Z.

На Вайсковых могілках каля магілы жонкі Якуба Коласа мы сядзем на літую чыгунную лаву.

“Субота, – залішне сур’ёзна для мяне заўважыць грамадзянін Злучаных Штатаў, – мне да заходу сонца піць нельга, сёння Шабас. Счакаем”.

Нарэшце зблякне вечаровая чырвань на мармуровым помніку, схаладнее медальён са скульптурным профілем паэтавае жонкі, счарнее зеляніна могілкавых кіпарысаў. Z. выцягне з сумкі пляшку рубінавага лікёру і прапануе тост:

“За ўсіх, пра каго ўспамінаем з любоўю”.

Мы вып’ем.

“Табе, дарэчы, прывітанне ад W.”, – згадае ён.

“Яна таксама ў Лос-Анджэлесе?”

“Я сустрэў яе ў Вашынгтоне. Калі дазналася, што паеду ў Менск, прасіла перадаць табе прывітанне. Вось тако-е, – ён развядзе рукі, – сказала, яно такое вялікае, што ты яго ў дом не зацягнеш і пакінеш у двары”.

“Каму-небудзь перадавала большае?”

“Табе аднаму”.

Мы дап’ем пляшку, і Z. з’едзе на трамваі.

***

Срабрыстая кропля аўтобуса слізгаціць па грэблі да

горада, накрытага вільготнай коўдрай дажджавых хмараў, а тут, каля міжнароднага гатэля на беразе Заслаўскага вадасховішча, ужо спякотна.

У маленькім бары з люстраною столлю тлумна. Мае крокі глухнуць у тоўстым дывановым пакрыцці, пад якім адчуваецца коўзкае шкло.

Я замаўляю дзве кавы, ладкуюся за стойкай. Жанчына адстаўляе пустую шклянку з саломінкай, вінавата ўсміхаецца. У яе вачох п'янаваты бляск.

"Ты спазніўся".

"Выпі, цвярэзіць. Я ўзяў дзве", – падсоўваю да яе філіжанку.

Мы ў нумары на апошнім паверсе, прыслухоўваемся да сваіх адчуванняў. Яна ідзе ў ванны пакой.

За шклом лоджыі ззяе адбітым сонцам вадасховішча. Рэдкія плямы бязлюдных выспаў. На шэзлонгу скамечаны рушнік, а на ім – забыты квадрацік люстэрка, у якім, калі яго павярнуць, адаб'ецца недарэчны на дзённым небе месяц.

Жанчына з рушнікам стаіць на парозе душа.

– Паслухай, аказваецца, у гэтым бары не толькі столь, а і падлога была люстраная. Яе заслалі дыванамі праз месяц пасля адкрыцця. Мужчыны толькі й рабілі, што глядзелі дзеўкам пад ногі.

– Адкуль ты ведаеш?

– Бармэн расказаў. Толькі што. Праўда, смешна?

– Я ведаў пра гэта яшчэ ў шостым класе.

– Ты гадкі, – кажа яна, – не каб падгуляць мне. Заўсёды дурніцай выстаўляеш.

Яна зачыняецца ў душы, каб я не бачыў, што робіць.

А што там глядзець? Ведаю: стаіць перад люстэркам, фарбуецца, папраўляе валасы і не адыдзе, пакуль не ўпэўніцца – на шкло ляжа дасканалы адбітак.

## Вагнер.
## Тэтралогія «Фаўст»

### I. Пра-Фаўст

Ён век тапіў у ведзьміным нектары,
як сведчыць знакаміты фаліянт;
пяяў для Грэтхен нават без гітары,
і спеў быў чыстым, быццам брыліянт.

Пасля ў вар'ятні білі санітары
(няспраўджаны дагэтуль варыянт).
Агент «Нуль-Сем», кароль усёй шклатары,
ягоны цёзка і фаміліянт.

Цяпер яго не вабяць пагулянкі:
а мо шатэнкі й насамрэч шатанкі?
Не, досыць! Ён *адгарцаваў* сваё!

Як радца, мае ў Ваймары заробак,
чытае Аляксандра-бацьку, то бок
прыгоды д'Артаньяна й Рышэльё.

### II. Бессань у ноч Вальпургіі

Праз горы й красавіцкі ночны холад
у месяц травень рушыш напраслкі.
У небе два сузор'і – Серп і Молат –
плывуць, прычым, у розныя бакі.

Красуня на мятле й рагаты волат
мілуюцца й рагочуць па-людскі,

твой сябра Мефістофель (ён жа – Воланд).
Што за народ? Вядома ж, землякі,

што раз на год збіраюцца на Гарцы.
Кульнуць па чарцы ды з'ядуць па скварцы –
і браму пекла разаб'юць ушчэнт.

І ўратаваны шараговец Каін,
як гаспадар ад Брокена да ўскраін,
паўсюдна здзейсніць поўны хэпі-энд.

**III. Гамункул**

Гаспара, Мельхіёра й Бальтазара
не будзе – я не веру ў трох чароў.
З набыткамі вяртаюся з базара,
каб хлопец не застаўся без дароў.

Мне ж падарункам – здзейсненая мара:
праз кропельніцу ўведзеная кроў
бруіцца ў жылах, ажыла пачвара,
ён нарадзіўся, Вагнер! Будзь здароў,

чатырохкротны доктар і магістар,
загартаваны ведаю філістар,
няўдзячны імітатар хараства,

ледзь не забіты скіўіцай аслінай!
Ты па начах над колбай пырскаў слінай –
і стаўся зоркай новага Раства!

Але памрэш, як жыў, – напаўраслінай.

### IV. Алена

Ты ўзнёс у ейны гонар не хаціну –
гатычны замак, велічную цвердзь!
Схуднеўшы ад кахання на траціну
й цвярозы розум страціўшы на чвэрць,

намаляваў уяўную карціну:
мілосны вір, пяшчотаў кругаверць.
Ды творац неадольную плаціну
яе каханкі, час, прастора й смерць.

Ты прагнеш немагчымага, упарты,
з нябыту клічаш валадарку Спарты,
царыцу старажытнагрэцкіх сноў.

Ды мара не скараецца нахабу:
над прывідам схіляешся – і зноў,
гаротны, узасмак цалуеш жабу.

## Курдупель Мур

Вандроўнік, валацуга, ашуканец,
шукальнік немавед чаго і дзе,
што добра зведаў танец і ружанец,
але жыццё гаротнае вядзе,

каб некалі найхаладнейшай з раніц
па самагубстве боўтацца ў вадзе...
Не, ратавальнік скарыстае шанец,
тапельцу зноў пашчасціць у бядзе!

Нібы ў рацэ, забоўтаешся ў кайстры
у Крайслера.
– Машыны?
– Капельмайстра,
што мецэнатам станецца кату.

Хай дзесь на межах хмары ходзяць хмура,
ты святкавацьмеш масленіцу Мура
наконадні вялікага пасту.

## Пошукі абсалюту

### I.

У бессані загартаваўшы розум,
штоночы ўпарта не скарацца сну;
заўсёды быць галодным і цвярозым,
сказаць «бывай!» гарэліцы й віну;

насуперак завеям і марозам,
чакаць сваю святоўную вясну;
старэчым не хварэючы склерозам,
не пераблытаць праўду і ману;

жыццё пражыць сярод даўгоў і кпінаў,
стаць лекарам, што з гонарам пакінуў
на целе чалавецтва свой гузак;

і трапіць назаўсёды ў картатэку
пісьменнікам бальзакаўскага веку
з невыпадковым прозвішчам «Бальзак».

**II.**

Дзе хараство люструецца ў калюзе
й калюга ззяе ў люстры хараства,
ты пасвіш статкі страчаных ілюзій,
што патрабуюць ежы і пітва.

Бляск і мізэрнасць у блюзнерчым блюзе
нядрэмным вокам сочыш з-пад брыва.
– Чым ёсць, дарэчы, блюз?
– Журбе-падлюзе
твой сумны блюз сыграць як двойчы два!

Чым скурвіцца з шчыгрынаваю скурай,
лепш серафічнай птушкай мчыся ў вырай,
бо не ў Бальзаку для душы бальзам.

Спыніся пад красоўнаю сакурай
(ці сакурай?) і фудзіяму вырый,
куды у рэшце рэшт патрапіш сам.

## Першае спатканне

*...jedzmy, nikt nie wola.*
**A. Mickiewicz**

Бязлітасная прыяцелька Кітса,
праўдзівая красуня без згрызот,
прывабная самотная саміца,
якой падзеш на грудзі, як на дзот,

з юрлівым пацалункам чараўніцы

ўдыхаючы атручаны азот.
Яна здымае, толькі не спадніцу –
твайго кіно апошні эпізод,

бязносая выява Боны Сфорца.
А ты, закаркаваны ў вершы творца,
сабе вярхоўнай рады не дасі.

Джакондаю ў гагарынскім абліччы
ўсміхаецца *la belle dame sans sourcils:*
паехалі, маўляў, – ніхто не кліча!

## Маленькі жабрак

Я ведаю, няма тваёй віны
ў тым, што кагось прыручыш алкаголем.
Учора ўночы мне прысніўся Голем,
пітушчы прывід пражскае вясны.

Кітайскім матылям тлумачым сны,
а раз на месяц роспачна скуголім
на месяц – голым каралём дэ Голем
з кінематаграфічнай прасціны.

Раскоша чалавечага сумоўя,
цяпельца выпадковага зімоўя...
Тапелец, што прачнууся ў немавед

якім паветры без вады і сябры,
спрабуе надзімаць пялёсткі-жабры,
самотнай ружай кінуты ў сусвет.

## Паслямова

Ты занураўся ў сене, нібы ў Сене,
з цыганскаю красуняю Кармэн,
ёй недарэчна дорачы насенне
й нічога не жадаючы ўзамен.

Пара збіраць плады, цяжар асенні
узважваць, ды марнее твой бязмен.
А ты ўсё прагнеш боўтацца ў басейне
й мяркуеш, што дагэтуль супермэн.

Ты б мог сягнуць вышэй за піраміды,
але ў кампутары Семіраміды
твой сад завіс яшчэ ў палеяліт.

Гадуючы жыгучку і дзядоўнік,
чакаеш, покуль з'явіцца садоўнік,
які націсне «ctrl»-«alt»-«delete».

## Куртуазна-макабрычнае пасланне

*У вашым голасе квітнеюць астры…*
**Л. Дранько-Майсюк**

У пляшцы для паэта-лаўрэата
цвітуць цвікі радзімы гваздзікі.
Ён сёння з мэтрамі запанібрата,
знячэўку трапіўшы ў нью-майсюкі,

вандруе ў электрычным сне наяве
(пакуль ад болю мозаг не засох)

па доблесці, па вычынах, па славе –
праз аспірын па астры ў галасох.

Парыпвае катрынка, й нат няёмка,
бо ў гэты міг, як ісціна ў віне,
знаходзіцца – напраўду! – незнаёмка,
ці стацца ёй магутна, гучна мкне.

Бы катарсіс па соднях у папойцы,
бы «невермор», што крумкнуў чорны дрозд, –
паэтка-згуба з прозвішчам забойцы
й драпежным псеўданімам навырост.

Гайдаючыся, быццам на арэлях,
і не знаходзячы патрэбных слоў,
гарэліцы ёй налівае ў келіх –
празрыстых, нібы неба, «двух буслоў».

Сякера дактылічнае цэзуры
апошні верш расцяла кагадзе,
а ваявода з вартаю па скуры
ужо, нібы па аркушы, брыдзе.

І цёплай парай на халодных шыбах
патроху праступае новы верш,
што ў ейным голасе квітнее выбух.
(І астры, але выбух насамперш!)

## Падвойны агент

Адбіваючы крокі ў няроўнай хадзе
ды гарлаючы песню сумнеўнага зместу,

на зімовым вятрыску нястомна брыдзе
шараговы насельнік вялікага места.

Нібы ў вушка іголкі – пітушчы вярблюд,
з пятай спробы прайшоў цераз вузкую брамку
і, сустрэчнаму д'яблу аддаўшы салют,
пакульгаў пакрысе ў невядомым напрамку.

Ён не проста паэт, якім грэбуе мент,
не бяскрыўдны удзельнік нацдэмаўскіх гульняў –
ён дзяржаўны злачынца, падвойны агент,
што гісторыю здрадаў сабой падагульніў.

Ён француз, які змушаны піць самагон,
італьянец, што есць макароны без спецый;
сэрцам прагне туды, дзе стаіць Пентагон,
але печань і ныркі прадаў "дзяржбяспецы".

Так жыве, задаволены светам, сабой
і закускай – пуд солі і ліха паўфунту, –
ды знаёмы здаўна непразрысты напой
можа стацца прычынай рашучага бунту.

І тады ён амаль забывае пра ўсё:
што на вуліцах места халодна і слізка,
што народ не чытае Лі Бо і Басё
й перамога над ворагам покуль няблізка.

Бо за цемрай раней ці пазней паўстае
непазбежная раніца, велічны золак!
Толькі б стала напояў у крамах яе
і пітушчым вярблюдам хапіла іголак!

Хай пазнаюць свабоду на ўласным гарбе!

Ну а ён не вярблюд, хоць напэўна пітушчы:
ён цяпер партызан, што жыве ў барацьбе,
шараговы жыхар Белавежскае пушчы!

У нябачнай вайне не шкадуе сябе;
у варожай прасторы згубіўшы кірунак,
па сумётах хаваецца ад КДБ
і замёрз, як апошні сібірскі ЦРУльнік!..

Вось спыніўся – і лёг пад драўляным, старым,
не згаданым у нашай гісторыі плотам,
бы ў кульгавы радок – раптам знойдзены рым,
бы загорнуты том дагары пераплётам...

Прагу шчасця спатоліўшы ў танным віне,
спіць закладнік шырокай славянскай натуры.
Ні рукой, ні нагой не варушыць у сне –
нерухомая ўласнасць айчыннай культуры!

 





## Надзея СІНЬКЕВІЧ

* * *

Супакаенне прыходзіць
з мяккімі аблокамі
на даляглядзе,
прасякнутым
ружовасцю раніцы
Супакаенне прыходзіць
з бясконцым голасам,
што чытае гатычныя тэксты
пад сівыя гукі
велічнага аргана
Супакаенне прыходзіць
вузкай сцяжынкай
страчаных сусветаў
і згаслых сонцаў
У блакітным пакоі
з пахам язміну
і талага воску
прыходзіць супакаенне.





 

Эжэн ІЯНЭСКА

# АДЗІНОТНІК

*Раман*

Затое ў доме яны не стралялі. Я працягваў жыць сваім жыццём. Наняў нямую пакаёўку. Дзве гадзіны на дзень яна прыбірала ложкі, падмятала, мыла шкляначкі, з якіх я піў, праветрывала кватэру, потым зачыняла вокны. Чысціла таксама шторы.

Не, яны не пачнуць страляць у доме. Бітва ішла яшчэ досыць далёка ад мяне. Выгляд у прахожых на вуліцы не быў неспакойны. Пані з сабачкам выходзіла тым самым часам. Двое пенсіянераў, якія жылі насупраць мяне, па-ранейшаму выбіраліся на сваю штодзённую прагулянку, падтрымліваючы адно аднаго. Спакойна вяртаўся да сябе сівы рускі, буйны кульгавы мужчына, – з кульбаю ў адной руцэ, з хлебам у другой. Яшчэ я бачыў пастаянна аднаго пажылога мужчыну з нагружанай прадуктамі сумкаю. Ён, напэўна, хадзіў на рынак, жонка ў яго была паралізаваная, сказала мне кансьержка, якая пачала ставіцца да мяне з большай, чым раней, пачцівасцю. Яна прызвычаілася да мяне, як прызвычайваюцца да ўсяго. Здалёку ўжо даносіліся стрэлы, нават асабліва ўслухоўвацца не трэба было. Я пра гэта, праўда, шмат не думаў. Увечары страляніна ўзмацнялася. Падымаўся я позна. Прыводзіў сябе ў парадак, каб выйсці з дому да моманту прыходу пакаёўкі. Час ад часу думаў пра першую афіцыянтку. Як яе звалі? Івона ці Марыя? Новая афіцыянтка была са мною ветлівая. Не больш. Часам, калі я згадваў пра ранейшую, мяне апаноўваў жаль. Але адбывалася гэта ўсё радзей і з меншай сілаю. Ува мне ўсё-

---

*Працяг. Пачатак у № 1, № 2-3.*

такі была дзірка. Былі і ў іншых дзіркі. Ці мусіў я ўзяць ініцыятыву на сябе і сказаць новай афіцыянтцы, да якой ступені хацеў бы я бачыць яе ў падменнай ролі той – Івоны ці Марыі?

На праспекце, дзе месціўся шынок, можна было ўбачыць людзей, што праходзілі міма са стрэльбамі – двух, трох. Яны змешваліся са звычайнымі прахожымі. Напэўна, кіраваліся да плошчы, дзе адбывалася бітва. З выгляду яны хутчэй былі падобныя больш на людзей, якія бадзяюцца проста таму, што ім няма чаго рабіць. Іх ніколі нельга было ўбачыць на спакойнай правінцыйнай вулачцы. Тым не менш страляніна ў нас чулася ўсё мацней і мацней. Хаця жыхары выходзілі з дому ў той самы час – праўда, сівы рускі і пані з сабачкам нахілялі галовы ў бок плошчы: мабыць, прыслухоўваліся. Я бачыў іх з майго акна. Выгляд у іх быў крыху занепакоены ці здзіўлены, альбо мне так проста здавалася. Аднак з майго акна на чацвертым паверсе я бачыў, як над прысадамі, што атачалі дамкі, успыхвалі з боку плошчы чырвоныя агні.

У шынку, на абедзе ці вячэры, кліенты па-ранейшаму сядзелі ўткнуўшыся насамі ў талеркі. Таго чалавека са стрэльбаю я больш там не бачыў. Ён, напэўна, быў дужа заняты. А мажліва, быў паранены ці забіты, альбо трапіў у вязніцу, мажліва, адмовіўся ад удзелу ў бітве; ці рушыў у падарожжа, сказаў сабе, што з гэтага не атрымаецца нічога вартага, бо рэвалюцыя не тлумачыць сэнс нашага існавання. Так думаў я. Ніштo не магло выявіць таямніцу быцця. Людзі хвалююцца, дзейнічаюць, падштурхоўваюць іншых да дзеяння, каб забыцца на сэнс існавання, для іх гэта ўцёкі, як для мяне – алкаголь.

Аднойчы, калі я збіраўся ісці ў шынок палуднаваць, я ўбачыў у акне чалавека, які абліваўся крывёю – ён уцякаў ад трох паліцыянтаў. Неўзабаве яны зніклі за рогам. Гэтым разам вокны суседніх дамоў расчыніліся. У іх з'явіліся цікаўныя твары. Я спусціўся па лесвіцы. У канцы калідора нашая кансьержка гаварыла з кансьержкаю з суседняга параднага, пажылою жанчынай са зморшчаным тварам – я яе раней не бачыў, але чуў пра яе. Падышлі чалавек з жонкаю – пенсіянеры. Муж паралізаванай жанчыны – сівы рускі з хлебам. Яны ўсхвалявана абмяркоўвалі тое, сведкамі чаго сталі. Такога на нашай вуліцы яшчэ ніколі не бачылі. Кансьержка з суседняга параднага казала, што яна чула, як паліцыянты крычалі чалавеку, што ўцякаў: "Стаяць!"

– Гэта злодзей, – сказаў пенсіянер.

– А можа, рэвалюцыянер, – сказаў рускі.

– А, вы ўсюды бачыце адных рэвалюцыянераў! Тут не так, як у вас, – гэта Францыя.

– У вас таксама былі рэвалюцыі, – запярэчыў рускі.

– Ды была адна, – адказаў пенсіянер, – але даўно, у тысяча семсот восемдзесят дзевятым годзе. У нас усе зразумелі, што да чаго, гэта ніколі больш не паўторыцца.

Чалавек з сумкаю, нагружанай прадуктамі, меркаваў, што адбываецца нешта дужа незвычайнае.

– А што вы скажаце пра гэтыя крывавыя высверкі святла і пастаянную траскатню?

– Гэта нават перашкаджае нам спаць, – сказала пенсіянерка.

Чалавек з прадуктамі дадаў:

– Гэта стрэлы, я ведаю, калісьці я паляваў.

Я ўмяшаўся ў гамонку:

– А гэтыя крывавыя высверкі, што гэта такое?

Ні адна, ні другая кансьержка ўспышак не бачылі.

– Гэта таму, што вы сядзіце на першым паверсе, – растлумачыў я, – а вокны вашых пакояў выходзяць на двор!

– Усё гэта не па-каталіцку, – сказала кансьержка з суседняга параднага.

– Ну не, вядома! – згадзілася з ёю нашая кансьержка.

– Супакойцеся, нічога не будзе, – сказала пані з сабачкам. – Мне мой муж казаў.

Людзі разышліся. Я пайшоў палуднаваць. Збочыўшы за рог, убачыў на тратуары каля шынка чатырох мужчын з карабінамі на плячы – яны хутка ішлі, выцягнуўшыся ў ланцужок, у накірунку да плошчы і ўвесь час азіраліся. Выглядала, што яны гатовыя былі абараняцца. Ад каго, падумаў я. Двое паліцыянтаў, якія стаялі непадалёку, нават не паварушыліся. Зрэшты, не іхняя гэта была справа, яны адказвалі за парадак вулічнага руху. Я адчыніў дзверы шынка, увайшоў. Скіраваўся да свайго століка. Агледзеўся. Людзі абменьваліся рэплікамі.

– Штосьці здарылася? – запытаўся я ў афіцыянткі, якая прынесла мне букач з віном.

– Не ведаю, не ведаю, у газетах нічога не пішуць.

– А чырвоныя агні, якія відаць на плошчы?

Усе людзі на гэтай ціхай вуліцы, дзе ніколі нічога не адбывалася, дзе нічога не мусіла адбывацца, былі крыху ўсхваляваныя. Вялікая частка яе жыхароў былі людзьмі старымі. Яны жадалі аднаго: спакойна дачакацца смерці. А я жыў у катастрофе, незалежна ад таго, што адбывалася дзесьці побач. Ці, хутчэй, тое, што адбывалася там, адбывалася ўва мне. Або наадварот. Але толькі цяпер пачаў я гэта ўсведамляць.

Я зразумеў, што я хворы. Але, гэта так, сказаў я сабе, я адчуваю сябе блага ў сваёй скуры з тае пары, як нарадзіўся. Чаму? Што ў мяне не ладзілася? Столькі ж людзей жыве – і нічога. Да самага апошняга часу ўсе людзі здаваліся мне задаволенымі альбо скаронымі. Ва ўсякім разе яны не ставілі перад сабою праблем. Яны не баяліся смерці ці, хутчэй, не думалі пра тое, што аднойчы памруць. А я ўвесь час пражыў з гэтай неадступнай думкаю. Пасля зыходу маёй сяброўкі кожнага разу, калі я прачынаўся ўначы, мяне апаноўвала трывога: халодны пот, панічны страх – вось памру зараз на золку. Яе ўжо больш не было побач, няма каму сказаць мне: “Ну паспрабуй заснуць”, – я памятаю, мне было дастаткова пачуць ейны голас ці дакрануцца да яе, альбо яна сама працягвала мне руку, і трывога рассейвалася. Ва ўсіх астатніх, можа, жыла тая ж трывога. Яны знаходзілі лекаванне ў дзеянні. Яны не любілі жыццё, бо паўставалі. На шчасце, грамадства было дрэнным. Што б яны рабілі, калі б аднойчы грамадства зрабілася добрым? Яны не змаглі б болей паўставаць супраць яго, тады аб’ект трывогі сам з’явіўся б перад імі ва ўсёй сваёй аголенасці, ва ўсім сваім жаху. Для мяне трывога была ў самой трывозе – тут вылекаваць не магло ніякае грамадства. І потым, усе грамадствы дрэнныя, хіба калі-небудзь хоць з адным выйшла што спраўнае? Людзі забіваюць адны адных у войнах ды рэвалюцыях. Даюць сябе забіваць. Забіваюць сябе ў іншых. Альбо, можа, гэтак яны спрабуюць забіць саму смерць. Раптам мною авалодала бясконцая туга, невыносная роспач. Я заўсёды пакутаваў праз яе, нават калі не ўсведамляў гэтага. Гэтае вечнае “навошта?” перашкаджала мне радавацца. Гэтае не дужа ўсвядомленае “навошта?”. Цяпер яно было ўсвядомленым.

Я думаў пра ўсё гэта, ходзячы па кватэры, блукаючы са спальні

ў калідор, з калідора ў вялікі пакой, потым узіраўся ў акно – крывавыя ўспышкі над вялікай плошчаю было відаць усё больш выразна. Я прызвычаіўся да гэтых высверкаў, яны ўжо больш не займалі мяне. Прыгнятаў унутраны краявід. Перад вачыма разгортвалася ўсё маё мінулае: краявід роспачы, пустэльня без аазісу. Але нейкая халодная пустэльня. Ад аднаго далягляду да другога, пазначаных крывавымі высверкамі, – суцэльнае нішто, аніводнай кветкі – то сухая зямля, то пыл, то бруд. Ці была ў гэтым толькі мая віна? Я не ведаў, з якога боку да гэтага падступіцца. Якая горыч, які боль, якая туга, якая неўцямніца! Магла ж быць і нейкая радасць? А ці магла яна быць – радасць? Мог жа быць зіхоткі свет замест гэтае бруднае шэрасці, бясконцых прыцемак? Магло ж быць каханне? Магло. Колькі страчаных мажлівасцяў! Жанчыны кідалі мяне, таму што я не быў здатны на каханне. Маім апошнім шанцам была гэтая Івона ці Марыя. Але ці існавала каханне ўва мне самім? Ці было яно ў сутарэннях і засценках, у “каменных мяшках” маёй душы? Там усё замкнёна. Дзверы былі зачыненыя, ключа я не меў. На жаль, усё сапраўднае сплыло ад мяне вельмі далёка ў нікуды. Так, якая няўцямніца! Я зноў адчуваў бясконцы жаль. Трэба з гэтым канчаць. Я блага пачаў. Я ўвогуле не пачынаў. Пэўна, я ўжо прапусціў свае цягнікі. Што зараз рабіць? Чакаць, чакаць у трывозе. Чаго?.. Ах, калі б жыццё магло пачацца зноў. Я хацеў бы пачаць усё нанова. Каб нешта зноў распачалося, трэба, каб тое, што ёсць, закончылася. Ці можна было на нешта спадзявацца? Хіба мог я на штосьці спадзявацца? Усё было страчана. Ці не ўсё яшчэ страчана? Я думаў, што ўсё страчана.

Аднак іх было шмат вакол мяне, яны хадзілі, рухаліся, яны былі празрыстыя, яны елі, спалі, нічога сабе не казалі, размаўлялі, каб нічога сабе не сказаць.

Ці мелі гэтыя самнамбулы нейкае дачыненне да жыцця? Я бачыў, што пакрысе яны абуджаліся, што прынамсі многія сярод іх абуджаліся. У іх з’явілася настальгія. Яны штось рабілі. Гэтыя людзі са стрэльбамі, гэты агонь, гэтая мітусня...

Ад самага пачатку былі мільярды людзей. Сёння нас тры мільярды. Як яны ладзілі стагоддзямі, стагоддзямі, стагоддзямі? Я думаў пра гэтыя незлічоныя мноствы. Галавакружэнне. Бясконцая няўцямнасць.

 

# Яны

Назаўтра ці праз дзень я ўстаў уранку пазней, чым звычайна. Пазванілі ў дзверы, гэта, мусібыць, прыйшла пакаёўка, нямая. Я выйшаў з ваннага пакоя і пайшоў адчыняць дзверы. Выгляд у пакаёўкі быў перапалоханы. Яна спрабавала нешта выказаць сваімі невыразнымі гукамі. Я прызвычаіўся ўжо да яе і пачынаў крыху разумець. Яна нават штосьці выкрыквала. Паказала рукою на акно ў вялікім пакоі. Я падышоў да яго, адчыніў. На тратуары ў лужыне крыві ляжаў чалавек. Ён агнізаваў. Вакол яго сабраліся суседзі. Я зачыніў акно, спусціўся па лесвіцы; твар, дарэчы, быў у мяне намылены.

Я падышоў да чалавека, рассунуўшы рукамі пенсіянераў, якія ківалі галовамі.

– Такога мы яшчэ не бачылі,— сказаў мужчына.

Жонка, ведама ж, згадзілася.

– Што мы бачым? – усклікнула кансьержка. – У які час жывем!

– Гэта ж сын тае жанчыны, удавы, што жыве на рагу, яна страціла летась свайго чалавека!

І насамрэч, калі пажылая кансьержка падвяла да забітага жанчыну, тая з лямантам прыпала да сына.

– Казала ж я яму, каб супакоіўся, казала ж! – ускрыквала яна.

– Сёння маладыя людзі не ўсведамляюць, што такое небяспека, – заўважыў мужчына з сумкаю, поўнай прадуктаў.

– Мой бедны хлопчык, – енчыла маці, – мой бедны хлопчык!

– Дзіцятка маё беднае, – лямантавала маці, – беднае маё дзіцятка!

Ранены – малады хлопец гадоў дваццаці – дваццаці пяці – быў кволым і дробным чалавекам. Цела ягонае ўздрыгвала.

– Гэта жахліва, – казалі людзі.

Маці ўсё яшчэ крычала і стагнала:

– Што яны з ім зрабілі! Ён быў такі лагодны, такі выхаваны!

Пад'ехала паліцэйская машына. Ранены ўжо не ўздрыгваў. З машыны выйшла чацвёра паліцыянтаў. Яны рашуча рассяклі натоўп. Мяне выцялі локцем.

– Прэч, прэч, – выкрыквалі яны.

– Вы ж не вулічныя рэгуліроўшчыкі, – сказаў сівы рускі.

– Маўчыце і сыходзьце, – штурхнуў яго паліцыянт. – Гэта не вашая справа, вы што, будзеце вучыць мяне, што рабіць?

Урэшце паліцыянты разагналі натоўп.



 

– А што гэтая тут робіць? – закрычаў трэці паліцыянт, паказваючы на маці, якая ўчапілася ў труп свайго сына, – цяпер ужо было відаць, што ён мёртвы.

Чацверты паліцыянт схапіў бедную жанчыну і пачаў адцягваць ад трупа, – тая адбівалася. Першы паліцыянт нешта запісваў у нататніку. Жанчына па-ранейшаму плакала і ўскліквала:

– Раймон, хлопчык мой!

– Уставайце, уставайце, ён ужо не падымецца. Вы ж бачыце, ён не дыхае.

Мёртвы быў адзеты ў блакітную кашулю і джынсы. Кашуля была ўся ў крыві. На нагах у яго былі пантофлі. Адзін паліцыянт пакорпаўся ў кішэнях ягоных джынсаў і дастаў нож.

Двое паліцыянтаў паднялі цела, з якім маці ўсё не хацела расстацца. У рэшце рэшт яны з сілаю адштурхнулі яе. Кінулі цела ў машыну. Двое другіх паднялі маці з тратуара — яна ўпала акурат на кроў і працягвала плакаць; рукі яе былі ў крыві. Дык паліцыянты і кабету кінулі ў машыну.

– Паехалі, дасце нам паказанні!

Машына ад'ехала, павезла разам з нябожчыкам маці памерлага.

На тратуары расплывалася велізарная пляма крыві. Людзі, быццам загіпнатызаваныя, глядзелі на гэтую пляму. Сабачка маёй суседкі панюхаў кроў і пачаў яе лізаць. Дама адцягнула яго за павадок. Я рукою выцер з твару мыла. Людзі сталі разыходзіцца.

– Вы згадваеце, – адчайна жэстыкулявалі яны, – гэта ён бегаў на мінулым тыдні з тварам у крыві.

– Не, гэта быў іншы, ягоны вораг.

Напалову паголены, без гальштука, я накіраваўся да шынка.

– На тое жыццё, каб людзі паміралі, – пачуў я ў сябе за спінаю.

– Ат, рана, позна!

Страшэнна хацелася піць. Чагось моцнага. Я збочыў за рог, увайшоў у шынок.

Штосьці змянілася. Я нават падумаў, ці мой гэта шынок? Але, мой. Многія з тых, што сядзелі за столікамі, былі са стрэльбамі, прытуленымі да крэслаў. З кішэняў выглядвалі рукаяткі пісталетаў. Былі і старыя кліенты, і новыя. Амаль усе ўзброеныя – як незнаёмыя мне людзі, так і заўсёднікі.

– Чорт, трэба бараніцца, – сказала мне афіцыянтка, гледзячы на мой спалоханы твар.

– Дайце віна, – сказаў я, – віна.

Я глядзеў на людзей. Яны елі. Я з цяжкасцю пазнаваў кліентаў, якіх прызвычаіўся бачыць тут. У іх цяпер былі іншыя твары. Штосьці ў гэтых людзей істотна змянілася. Яны заставаліся самімі сабою, не будучы ўжо самімі сабою. З'яўляўся новы від чалавека, нейкая іншая асабовасць.

Усе вакол мяне гаварылі, не звяртаючы на мяне аніякае ўвагі. Да вушэй даходзілі абрыўкі размоў:

"Класавая барацьба", "мяснік Чырвонай Плошчы", "нож у зубах", "багатыя", "бедныя", "пралетарыят", "першасны антырэвалюцыянарызм", "дыктатура – так, але ў свабодзе", "добраахвотныя", "заўтрашні дзень спявае", "Крывавыя золкі", "гэта будзе новая варфаламееўская ноч", "гэта акупіцца крывёю і ў крыві", "яны гэтага хацелі, з іхняй карупцыяй", "гэтыя брудныя буржуа", "рабочыя бедныя, бо яны п'юць, яны ўсе алкагалізаваныя", "а яшчэ і наркотыкі", "калектывізм", "індывідуалізм", "таталітарызм", "грамадства спажывання", "яны п'юць народную кроў", "усе яны прадаліся, нашыя кіраўнікі". Адзін наведнік, высокі, худы чалавек раптам узняўся з раз'юшаным выглядам, грукнуў кулаком па сталу з гэткай сілаю, што нажы і відэльцы зляцелі на падлогу, і зароў: "І братэрства! Нельга забывацца на братэрства!"

Запала цішыня. На нейкі час людзі перасталі есці. Потым распачаліся спрэчкі:

"Цярпенне перапоўнена", "тры чвэрці чалавецтва жыве ў жабрацтве", "людзі паміраюць з голаду", "мы прывілеяваныя".

"Мы не прывілеяваныя ў дачыненні да нашых прывілеяваных", "Больш прывілеяў", "Далоў прывілеі", "Нешта павінна змяніцца", "Людзі застаюцца такімі ж", "Рэвалюцыі мінаюць", "Эвалюцыя ці рэвалюцыя?"

"Усё мае свой канец. Ва ўсяго ёсць пачатак".

"Гэта квадратура круга".

"Толькі ў моладзі стае энтузіязму дзеля таго, каб..."

"Маладыя цверазейшыя за нас".

"Вопыт старых".

"Маладыя – ёлупы".

“Старыя – ёлупні”.

“Ёсць маладыя ёлупні й старыя ёлупы”.

“Калі ты боўдзіла, дык гэта на ўсё жыццё”.

“Мы больш не дазволім гэтак з сабою абыходзіцца”.

“Рэвалюцыя дзеля задавальнення”.

“Больш так немагчыма, вы ж бачыце: склеп; завіхаемся, што коні; спінагрызы”.

“Свята, разумееце, мы можам жыць у свяце!”

Я быў уражаны тым, што ўзровень размоў павышаўся. Быў уражаны клопатам, што адольваў усіх гэтых людзей, якія да гэтага дня, здавалася, спалі. Уяўлялася, што ўва мне штосьці рухалася: з’явілася жаданне рухацца. Можа, яшчэ нешта было мажлівым. Можа, межы мажлівасцяў пашыраюцца. У гэты дзень было столькі народу, што афіцыянтка проста заматлялася, нават гаспадар быў змушаны дапамагаць ёй. Справа заладзілася, у іх абаіх быў задаволены выгляд ва ўсім гэтым гармідары. Некаторыя кліенты лічылі, што іх абслугоўваюць не надта хутка. Адзін, дужа тоўсты чалавек, можна сказаць, вяпрук, нагрубіў афіцыянтцы: вельмі ўжо яна была непаваротлівая, сказаў ён. Ён казаў, што яны спяшаюцца і што праз паўгадзіны яны мусяць далучыцца да народу, каб ведаць, што адбываецца на вялікай плошчы. Афіцыянтка была з ім рэзкаю: я старалася як магла, сказала яна, не падабаецца – сыходзьце. Чалавек адказаў:

– Вы камерсанты. Па сутнасці вы самыя сапраўдныя эксплуататары.

– Эксплуатацыя чалавека чалавекам, – пачуў я.

Зала зноў усхвалявалася.

– Я працоўная, – адказала афіцыянтка, – кручуся як на патэльні, каб зарабіць на жыццё, а вы толькі й робіце, што гаворыце; словы, гэта ўсё адно словы.

– Шлёндра! – кінуў ёй у твар таўстун.

Гэтага я вытрываць не мог. Усё гераічнае, што было ўва мне, абудзілася. Я ўзняўся:

– Мсьё, як вам не сорамна!

– Брудны дробны буржуа! – адказаў мне таўстун, пабарвавеўшы ад шалу. – Ану, падыдзі бліжэй.

Што я і зрабіў, неабачлівы. І адразу ж атрымаў удар кулаком у твар. Я ўпаў на сваё крэсла. Афіцыянтка была раз'ятраная, яна заляпіла таўстуну дзве звонкія поўхі, ён сеў, мацаючы рукою скіўіцу. Потым афіцыянтка падышла да мяне з сурвэткаю і выцерла кроў, якая цекла ў мяне з носа.

– Не для вас усё гэта, – сказала яна мне ўдзячна.

Інцыдэнт застаўся незаўважаным. Але ўзнерваванасць у шынку ўзрастала. Тым часам, як я піў адмысловую вінаградную гарэлку і трымаў каля носа насоўку, на вуліцы пачуліся стрэлы, – адразу, нібыта па камандзе, людзі ўзялі ў рукі стрэльбы і пайшлі да дзвярэй.

– Рахунак, рахунак! – закрычалі ў адчаі афіцыянтка і гаспадар.

Некаторыя кліенты кінулі ім у твар папяровыя асігнацыі:

– Бярыце свае брудныя грошы!

Іншыя пацініулі плячыма і не сталі плаціць. А некаторыя і плячыма не пацініулі. Яны выходзілі, штурхаючыся.

– Грамадзяне, да зброі! – раўлі яны.

– Мы ім пакажам!

– Яшчэ як пакажам!

Яны ручаём выліліся на вуліцу, рушылі ў накірунку да вялікае плошчы, на яе правую палову. Далучыліся да велізарнага натоўпу ўзброеных доўбнямі ды стрэльбамі людзей. Вуліца поўнілася народам, людзі крычалі, лаяліся, спявалі. Я таксама паспяшаўся туды. Трымаўся каля сцяны, а паўз мяне ўсё ішлі і ішлі людзі. Пачуліся стрэлы. Вуліца апусцела. Здалёку даносіліся праклёны і песні. На дарозе ляжалі двое паліцыянтаў і старая жанчына.

Я глядзеў у акно вялікага пакоя маёй кватэры. Вуліца была надзвычай ажыўленая. Людзі дыскутавалі, гуртамі пераходзілі з аднаго канца вуліцы ў другі. Былі й новыя твары. Маладыя людзі, саракагадовыя, пяцідзесяцігадовыя барадачы. Яны былі са стрэльбамі. У некаторых былі пісталеты. Яны стралялі ў паветра. Выходзілі з дворыкаў, з садкоў, развітваліся з сем'ямі, з бацькамі. Дзе яны былі да сённяшняга дня? Я іх ніколі не бачыў. Яны, мусібыць, жылі ў маленькіх мансардах, магчыма, працавалі ўначы. Амаль кожнага з іх хто-небудзь суправаджаў. Жанчыны – іхнія маткі, жонкі – трымалі ў руках хусткі, выціралі слёзы. Я адчыніў акно. Старыя, яшчэ на нешта годныя, энергічна падбадзёрвалі іх. Я пачуў словы, якія данёс да мяне лёгкі вецер (надвор'е было добрае, яснае):

 



– Я браў удзел у вайне чатырнаццатага года – казаў стары з невырагодна зморшчаным тварам.

Другі, трохі маладзейшы, сказаў:

– Супраціўленне.

– Я таксама быў на барыкадах, у дваццаць сёмым ці ў трыццаць сёмым, у сорак сёмым ці ў трыццаць пятым годзе, – сказаў яшчэ адзін.

А я і не ведаў, што было гэтак багата барыкад у апошнія дзесяцігоддзі. Не заўсёды гэта адбывалася ў Францыі. Магчыма, у Бразіліі, магчыма, у Іспаніі, магчыма, у Конга, магчыма, у Палесціне, магчыма, у Адэсе, магчыма, у Кітаі, магчыма, у Ірландыі. Гэта, бадай, былі французскія валанцёры рэвалюцыі або замежныя рэвалюцыянеры, якія знайшлі сабе прытулак у Францыі. Падобнае было ва ўсіх краінах. І, ведама ж, меліся вынікі. Я карыстаўся, можа быць, імі, не ўсведамляючы гэтага. Былі, ведама ж, і правалы, дзеля ліквідацыі іх і мусіла ўсё зноў распачацца...

Адзін са старых заўважыў мяне, узняў галаў:

– Хадзі й ты сюды, што ты там робіш наверсе?

– Гляджу на вас, – выкрыкнуў я, – і дзіўлюся.

– Ёлуп, – сказаў другі.

Я зачыніў акно, сеў у фатэль. Можа, сказаў я сабе няўпэўнена, можа, трэба, каб і я туды пайшоў? Я мушу паводзіць сябе так, як усе астатнія. Але, на няшчасце або на шчасце, я стомлены... А дзеля чаго, казаў я сабе, я пайду туды, калі нельга перамясціць сонца, калі мы не можам змусіць адступіць смерць. Я лічу, што яны забівалі адзін аднаго таму, што не маглі адштурхнуць смерць. Узамен яны кідаліся адныя на адных, адштурхоўвалі адныя адных ад сябе... Яны не маглі растлумачыць невытлумачальнае. Вайну, рэвалюцыю, мір, нуду, задавальненне, хваробу, каханне, прыгожых і непрыгожых жанчын, крыклівых дзяцей і гэтую доўгую вуліцу. Гэтая доўгая вуліца. Слова "каханне", якое прыйшло ў галаву, выклікала раптам безыменную настальгію. Я зразумеў, што каханне магло б мне дапамагчы, замяніць тлумачэнне. Звар'яцець ад кахання. На самой справе, каханне было настолькі верагодным, што магло спакусіць да жыцця. А яшчэ – падарожжа на прыгожым караблі. Мора, неба... Альбо пустэльня. А можа – шукаць пакінутыя гарады? Яны ж павін-



 

ны былі яшчэ заставацца недзе – бязлюдныя мясціны. Вобраз бязмежнага мора, спакойнай пустэльні ўзняўся ўва мне, нібыта радасць, нібыта надзея. Любіць пустэльню, любіць блакіт мора, любіць беласнежныя караблі, гэта здавалася мне мажлівым. Любіць людзей, здавалася мне, – складаней. Не ненавідзець іх – згодны. Аднак любіць іх, гэтых істотаў, што рухаюцца, гавораць, хвалююцца, гвалтуюць, патрабуюць, жадаюць, паміраюць? Гэта, хутчэй, смешна. Чым можа вершыцца нянавісць, бойня ці звычайная гамонка? Мы брыдзем у невытлумачальным. Чакаць. Давяраць. Сэрца напоўнена любоўю. Гэта рэальнасць – сэрцы, напоўненыя любоўю. Гэта існавала – сэрцы. Не, у мяне не было страху. Не страх мне перашкаджаў, спыняў мяне ад апошняга кроку. А нават калі й быў у мяне страх? Гэта па-чалавечы – страх. “Гэта па-чалавечы, гэта па-чалавечы”, – пачаў я рагатаць. Выраз “па-чалавечы” выклікаў у мяне смех. Баяцца чагось або не баяцца – тут няма крытэрыя. Адны баяцца, іншыя не. Ва ўсякім разе, гэта, хутчэй, смешна. Мною рухаў не-рух. Мною ўсё роўна як нешта адно спрабавала рухаць, але людзі, падобныя да мяне, не рухаюцца. Я не павінен быў пакутаваць. Аднак я пакутаваў. Мною рухала пакута. Трэба было яе прыняць. Ува мне была адно непрытульнасць, якая, як гэта ні дзіўна, мяне паралізоўвала. Процілеглыя і супярэчлівыя памкненні. Яшчэ раз я пашкадаваў аб тым, што не вывучаў філасофію. Мажліва, уведаў бы тады штонебудзь, спазнаў бы сутнасць рэчаў.

Пастукаліся ў дзверы. Гэта была кансьержка, яна прыйшла сказаць мне, што мая нямая пакаёўка была забітая, невядома кім, паўстанцам ці паліцыянтам. Ёй загадалі спыніцца, а яна не пачула.

Кансьержка прапанавала мне свае паслугі, яна магла б купляць прадукты, наводзіць парадак у кватэры.

– Вам трэба дапамагаць, мсьё, трэба прыносіць вам гарбату, цукар, пячэнне, вэнджанае мяса, канфіцюры, каву, бульбу. У вас ёсць кватэра. А хавацца можна ў сутарэнні. Невядома яшчэ, ці зможам мы выходзіць.

Стрэлы насамрэч рабіліся ўсё часцейшыя. Хоць былі й моманты зацішша. Яна ведала аднаго бакалейшчыка, установа ягоная была зачыненая, але быў чорны ўваход. Вядома, ён бярэ крыху даражэй.

Я сказаў ёй, што, вядома, згодны. Аднак не хадзіць у шынок мне было б сумна, шынка мне будзе не хапаць. Бо я не здольны да фантазій

у адзіноце. Як я мог нічога не прадчуваць? Як я мог не пайсці з дому адразу, пасля першых трывожных знакаў, са сваімі грашыма, якія будуць, вядома, абясцэньвацца з-за ўсіх гэтых хваляванняў і змен, якія ўжо наступалі; я мог бы ўжо даўно ўзяць квіток на блакітны цягнік, абсалютна белы самалёт, карабель ці проста наняць машыну з шафёрам. Цяпер я мог бы спакойна прагульвацца па горадзе, які б зіхацеў на сонцы, мог бы хадзіць уздоўж ружовых дамоў, уздымацца на вежы, што ўжо пахіліліся ад часу, мог бы наведаць музеі ў замежных краінах. Я мог бы там сумаваць у адзіноце. Трэба было прапанаваць рушыць у гэтае падарожжа Івоне ці Марыі; можа, яна менавіта гэтага чакала – падарожжаў, падарожжаў... Але мне было лепей тут, сярод усяго гэтага неспакою, тут мне было на што паглядзець.

Я ўжо больш не вытрымліваў у адзіноце. Карыстаўся момантам зацішша і выходзіў.

– Спяшайцеся, – крычала мне кансьержка, – у іх цяпер перапынак, яны палуднуюць, але рэвалюцыя хутка зноў распачнецца, яны страляюць на нашай вуліцы па ўсім, што рухаецца. Не праходзьце вуліцу, пабудзьце ў вашым шынку і хутка вяртайцеся.

Я ішоў, крыху спяшаючыся, збочваў за рог, апынаўся на праспекце, уваходзіў у шынок, які, на шчасце, быў адчынены.

– Уваходзьце хутчэй, – крычала мне афіцыянтка. – Мажліва, заўтра яшчэ будзем працаваць. Паслязаўтра – наўрад ці.

Я сядаў на сваё звычайнае месца. Пліты былі прадзіраўленыя, расколатыя.

– Але, – сказала яна, – тыя, што былі тут, стралялі ў тых, што былі знадворку, а тыя, што былі знадворку, – у нашых кліентаў.

– Вы зачыняеце шынок?

– Гаспадар не захацеў стаць на чале Рэвалюцыі. Не той узрост. І потым, ён не ўпэўнены, што пераможа. Вядома, на яго злуюць.

– Калі б гэта былі сапраўдныя рэвалюцыянеры, – сказаў гаспадар, уваходзячы ў залу, – я, можа, і ўвязаўся б у бойку. Але напраўду гэта рэакцыянеры.

– А іншыя, іхнія праціўнікі?

– Гэта таксама рэакцыянеры. Гэта дзве банды рэакцыянераў. Адным плацяць лапландцы, другім – туркі.

Перад вокнамі шынка прайшлі ўзброеныя атрады. Некаторыя

байцы памахалі нам з вуліцы кулакамі. Другія крыўляліся. А некаторыя стукалі па шкле вітрыны, пагражаючы разбіць яе. Афіцыянтка перанесла мой абед на другі столік – бліжэй да сярэдзіны залы.

– Бачыце, – сказаў гаспадар, – у іх атаманскія пашчы.

– Не будзьце расістам, – заўважыў я. І змоўк, праглынаючы сліну.

– А я вось расістка, – сказала афіцыянтка, – таму што люблю ўсе расы.

– Расаў няма, – заўважыў у сваю чаргу гаспадар.

– Тады я нікога не люблю, – адказала афіцыянтка, – апрача жоўтых.

– Жоўтыя ўсе здраднікі, – сказаў гаспадар. – Калі я працаваў на заводзе, яны зрывалі ўсе страйкі. Ва ўсякім разе я ў гэтую прыгарадную рэвалюцыю не ўмешваюся. Мы ўладкуемся ў цэнтры – там спакойна.

У шынок увайшоў вусаты чалавек. На ім былі кацялок і гетры.

– Я прайшоў цераз лагеры паўстанцаў, каб трапіць у ваш квартал. Хацеў паглядзець, ці не спалілі яны маё прадпрыемства. Напраўду, у цэнтры горада, за вялікай плошчаю, за кіламетр адсюль, – спакойна. Суцэльныя спакойныя раёны. Вуліцы спакойныя. Толькі паменела руху. Людзі застаюцца ў сябе дома. Сядзяць перад тэлевізарамі, глядзяць на рэвалюцыю. А там, за цэнтрам, у заходнім прыгарадзе, на дрэвах распусцілася лістота. А яшчэ ёсць вялікія дарогі... Ёсць, нарэшце, вёскі. Яблыні квітнеюць. Прыгожая рэчка цячэ ў мора. Ёсць і пляжы, вялікія пляжы. Ёсць нават акіян. Цяпер ён спакойны, такі ж спакойны, як горныя азёры.

– Затым, ёсць яшчэ астравы. Лістота. Вечная вясна. Аголеныя жанчыны. Мы знаходзімся ў вязніцы, вядома, але ў вязніцы вялікай і прыгожай, з паркамі й садамі. Вартаўнікі ў садах – людзі лагодныя. Яны ўсміхаюцца нам, дубінкамі не лупцуюць. А на астравах вартаўнікоў увогуле няма, ва ўсякім разе іх не відаць, яны хаваюцца ў гаях, спяць.

Раптоўна сусвет адкрыўся перада мною ва ўсёй сваёй бязмежнасці, усёй сваёй разнастайнасці. У свеце ёсць дарогі, ёсць горы, ёсць краявіды, ёсць крыніцы, неба, якое ўсміхаецца, людзі-браты. Ёсць краіны, дзе любяць іншаземцаў і дзе іх прымаюць. Ім даюць папіць і паесці, яны жывуць у дамах без дахаў, бо там ніколі не йдзе

дождж. Зоркі вісяць настолькі нізка, што, здаецца, да іх можна дакрануцца рукою...

У мяне былі грошы ў банку ў цэнтры горада. Я вырашыў трапіць туды любой цаною. Мне пазычылі каску. Узяць карабін не захацеў. У магазіне трыкатажу, які адкрыў збройных справаў майстар, прадаваліся куленепрабівальныя камізэлькі. Але толькі для змагароў. Я рушыў у накірунку да вялікае плошчы, з намерам перайсці яе, каб з другога боку трапіць у цэнтр горада, да мірных раёнаў. Праспект быў перакрыты барыкадаю. Я памахаў белаю хусткаю. Яе адразу ж прадзіравіла куля. Тады я пайшоў у другі канец вуліцы. Там раней знаходзіліся змрочныя заводы з невысокімі камінамі, цяпер іх разабралі, яны непраходным мурам ляжалі пасярод дарогі. Іх нельга было абысці ні справа, ні злева. Справа знаходзіліся ўмацаваныя лагеры паўстанцаў, вартавыя стралялі ў кожнага, хто насмельваўся да іх наблізіцца, здаралася і так, што яны стралялі чэргамі дзеля забавы. Злева месціліся лагеры паліцыянтаў, гэтыя арыштоўвалі ўсіх запар. Я быў змушаны вярнуцца. Пятляючы, дайшоў да дзвярэй майго шынка, ён быў ужо зачынены. Убачыў, як нагнулася афіцыянтка, збіраючыся прапаўзці пад вялізным жалезным шчытом, ужо на тры чвэрці апушчаным.

– Скажыце Івоне, каб чакала мяне, – крыкнуў я ёй.

– Я яе больш не бачу, – адказала яна. – Ужо больш як год не бачыла.

– Яна выйшла замуж? У яе з’явіліся дзеці?

– Чацвёра. – Гэта было яе апошняе слова, якое я пачуў. Афіцыянтка знікла.

Колькі часу мінула з тае пары, як мяне пакінула Івона? Месяцы, гады. Час ідзе хутка. Я ўжо ад многіх людзей чуў пра гэта. І не ўпершыню сам адчуваў праўдзівасць гэтага цверджання. Час ідзе, час сыходзіць – і вось ужо я на краі прорвы.

Я збочыў за рог, каб вярнуцца дамоў. Гэта было не проста. У канцы вуліцы якраз тым самым часам ладзілі барыкаду. Я паспяшаўся прайсці міма, сказаўшы, што жыву ў гэтым квартале.

– Вы жыхар гэтай вуліцы, – сказалі мне, – і нават не ведаеце пароль? Ну добра, праходзьце.

Я прайшоў наперад і ўбачыў, што ў другім канцы вуліцы таксама ладзяць барыкаду.

# Яны

Мой дом знаходзіўся якраз паміж імі. Прыйшоўшы да дзвярэй параднага, я заўважыў, што на барыкадзе з другога канца вуліцы лунае сцяг. Ён быў такі ж, што і на процілеглай барыкадзе. Зялёны сцяг з паўмесяцам і снапом пшаніцы.

– Але ж гэта той самы сцяг! – усклікнуў я.

Да мяне падышоў стары з дамка насупраць.

– Скажыце ім пра гэта. Яны з аднае партыі. І забіваюць адзін аднаго.

– У іх ёсць біноклі. Яны самі ўсё добра бачаць. У іх, напэўна, камандзіры варагуюць.

Ледзь толькі я прамовіў гэтыя словы, як з двух бакоў загучалі стрэлы. Мы апынуліся пад перакрыжаваным агнём. У мяне быў прадзіраўлены капялюш. Стары грымнуўся, паспеўшы выкрыкнуць: “Няхай жыве...” – з яго ручаём хлынула кроў, і я не даведаўся, што ж павінна было жыць паводле перакананняў старога. Ягоная жонка, цяпер ужо ўдава, якая выходзіла тым часам з дому, убачыўшы, што яе чалавек ляжыць на зямлі, жудасна закрычала. І паказала мне кулак:

– Гэта з-за вас усё, брудныя буржуа!

Стрэлы працягваліся, яны сталі яшчэ больш частымі.

Я ўскочыў у дом, не думаючы ўжо ні пра старога, ні пра ягоную ўдаву. Апынуўшыся ў бяспецы, я кінуў капялюш на зямлю.

– Ніколі больш не надзену капялюш, – крыкнуў я.

– Хутчэй, мсьё, падымайцеся ў кватэру, – сказала кансьержка. – Я запаслася харчамі. Ёсць усё неабходнае, на доўгія месяцы.

– Вы не забыліся на...

– Я ні на што не забылася. Я падумала пра тое, пра што вы думаеце. У вас і гэтага хопіць на доўгія месяцы, на гады. Паколькі вы любіце самоту, вы будзеце шчаслівы. Адно б не адключылі электрычнасць і унітаз працаваў.

Я падняўся на чацвёрты паверх, адчыніў дзверы маёй кватэры. Насамрэч, тут было ўсё, што трэба. Усё. Паўным-паўнютка бутэлек па ўсёй кватэры: віны – бардо, бургундскае, савойскае, эльзаскае, турэньскае; мінеральная вада па ўсім калідоры. Хоць заліся. Торбы з харчамі. Пацукі й мышы да чацвёртага паверха ні за што не дабяруцца. Зрэшты, я збіраўся зладзіць супраць пацукоў ды мышэй барыкады каля дзвярэй і вокнаў. Каля трубаў. І атрута ў мяне мелася. І нават пісталет. Я з цяжкасцю змог наблізіцца да вокнаў. І до-

бра, бо некаторыя кулі, заблукаўшы, далятаді сюды. З кутка аднаго акна я ўсё ж мог бачыць вуліцу. Людзі на барыкадах пайшлі ў атаку адзін супраць аднаго. Стрэлы, грукат, крыкі шалу, стогны раненых, хрыпы, санітары. Канца гэтаму не было. Уся вуліца была засцелена мёртвымі. Доўжылася гэта дні тры-чатыры. Тых, што загінулі, і ўранку, і ўвечары змянялі на барыкадах навабранцы. І ўсё гэта стагнала, усё гэта выла, усё гэта спявала і лаялася. Людзі, якія жылі на вуліцы і не бралі ўдзелу ў змаганнях, здавалася, забаўляліся, гледзячы на тое, што адбываецца. Яны сядзелі каля шырока расчыненых вокнаў, не зважаючы на небяспеку. Час ад часу нехта з іх гінуў. Кулі, заблукаўшы, траплялі ў гледачоў. Не заўсёды. Здаралася, кулі ляцелі ўверх. Гэта ўзбуджала гледачоў. Што і натуральна. Гэта можна растлумачыць. Гэта па-чалавечы. Бо людзі рызыкавалі жыццямі ва ўласных дамах. Часам яны выпадалі з вокнаў: шмяк! На сярэдзіну дарогі, уявіце сабе. Час ад часу гэтыя бязвінныя ахвяры падбіраліся змагарамі з абедзвюх барыкад. І за трупы вялася барацьба. Бо з гэтага кожны лагер мог папракнуць праціўніка ў тым, што той уяўляе сабою банду забойцаў, якая не шкадуе ні старых, ні жанчын, ні дзяцей. Па праўдзе кажучы, мяне гэта мала забаўляла. Мяне засмучалі лужыны крыві, горы трупаў.

Я вырашыў больш не чакаць. Для мяне дастаткова было крывавых далягядаў, гэтых тэатральных альбо кінематаграфічных руінаў, усіх гэтых падзей, якія далі б сюжэты і тэмы для цэлай літаратуры, для дзесяткаў тысяч кніг. Іх хапіла б на гады і гады для твораў з, натуральна, святлом надзеі ў канцы. Полымя пажараў і густы дым засланялі ад мяне зорнае неба касмічнай вязніцы. У нейкім усходнім паданні, здаецца, арабскім, распавядаецца пра тое, што за нябесным дахам, за гэтай посцілкаю, разліваецца яркае святло, якое мы бачым праз дзіркі, – зоркі.

Я вырашыў уладкавацца так, каб адсланіцца ад усяго астатняга свету.

Сэнсу выходзіць з дому не было ніякага. Вада, газ, электрычнасць, ацяпленне – усё гэта функцыянавала выдатна. Усё прыходзіла да нас па магутных падземных трубаправодах, якія размяшчаліся дастаткова глыбока, каб паўстанцы, як і іхнія праціўнікі, звычайнымі рыдлёўкамі і ламамі не маглі вывесці са строю ўсе гэтыя сістэ-

мы. Змагары разбуралі ў квартале, як маглі, заводы, гаражы, адміністрацыйныя будынкі. Але паколькі час ад часу яны былі змушаныя адпачываць, то трымалі ў парадку некалькі дамоў, вуліц, у тым ліку і маю, дзе пражывалі іхнія бацькі, якіх яны перыядычна наведвалі. Заходзілі яны, верагодна, і ў свае мансарды. Да таго ж у сваіх дамах яны захоўвалі прадукты, боепрыпасы. Праўда, час ад часу які-небудзь дом рушыўся, але здаралася гэта зазвычай выпадкова. У нашым доме боепрыпасаў не захоўвалі, і ніхто з яго жыхароў раднёю каму-небудзь са змагароў не даводзіўся. Прыходзіў, праўда, адзін, з доўгімі валасамі й доўгай барадою, – яго прымала нашая адзіная ўдзельніца гэтых векапомных падзей, дама з сабачкам, у якой, усё роўна як выпадкова, памёр нядаўна муж. Іншым разам дама з сабачкам прыводзіла паўстанца, з барадою і цалкам паголенай галавою, які, па ідэі, мусіў належаць да процілеглага лагера апанаванага вайною народа. Двайная гульня называецца. Некалькі разоў працаўнікі сустракаліся ў дамы, але паколькі наш будынак лічыўся нейтральнай тэрыторыяй, яны між сабою ладзілі.

Я думаў пра ўсе гэтыя трубаправоды і гэтыя падземныя камунікацыі, якія прыносілі нам цяпло ды святло з цэнтра горада, дзе заставаліся мае калегі па бюро. Як павінны былі яны цяпер смяяцца з мяне. Канфлікт у нашым прыгарадзе працягваўся ўжо досыць доўга, і яны маглі паспець разбіць за гэты час у цэнтры горада паркі з лужкамі. Ужо, можа, і дрэвы выраслі, і ўсё там было прыгожа ды весела. А я, я быў аблажаны ў гэтым небяспечным прыгарадзе, дзе лютаваў шал, лілася кроў ды множыліся смерці.

Ад нейкага часу пачалі страляць і па маіх вокнах. Можа, мяне лічылі небяспечным нейтралістам? Але я нічога не разумеў у іхніх справах. І ўсё-такі нейкая прычына павінна была быць.

Аднойчы – я ўжо зусім прызвычаіўся да гвалту й небяспекі – я спакойна чытаў старую газету, якая выйшла яшчэ да ўсіх гэтых падзей, як раптам мне захацелася ў прыбіральню. Там я пачуў звон разбітага шкла і, вярнуўшыся да канапы, убачыў на тым месцы, дзе зусім нядаўна сядзеў, даволі вялікі асколак ад снарада. Я вырашыў надалей гарантаваць сабе адпаведную бяспеку, каб такое не магло паўтарыцца. Трэба было прымусіць змагароў паверыць, што маё жытло пустуе. Я шчыльна закаркаваў вокны тоўстымі матрацамі і падушкамі. У кватэру не мог пранікнуць аніводзін прамень.

Да таго ж я вырашыў перайсці жыць у далёкі пакой, акно якога выходзіла на двор. З таго боку не было ніякага шуму. Святла хапала, таму што я жыў на чацвертым паверсе і на паўднёвым баку, так што нават сонца было відаць. Прамень, промні сонца. Маленькіх дзяцей адвезлі ў вёску ці ў пансіянаты ў цэнтры горада. Бацькі ад'ехалі разам з імі. Дзеці, старэйшыя ад дванаццаці гадоў, былі ўцягненыя ў барацьбу, сказала мне кансьержка, паказваючы ў пацвярджэнне сваім словам газету паўстанцаў, знойдзеную каля ўваходу ў наш дом. З гэтых дзяцей было складзена асобнае ваеннае фарміраванне ці нешта накшталт гэтага – "Кагорта парыжскіх гаўрошаў", а з процілеглага боку – "Легіён новых Бара". Была яшчэ і трэцяя групоўка падлеткаў – "Бойскаўты прыгарада". Апошнія былі абавязаны падбіраць раненых з абодвух лагераў, красці куранятаў ды іншыя прыдатныя для ежы прыпасы і збіраць іх у склады, прызначаныя адначасна для байцоў двух, трох, чатырох варагуючых бакоў. Тая частка ўнутранага двара, якую я мог разгледзець з вышыні майго чацвертага паверха, была занятая гурбай адкідаў. Гэтая гурба была ўжо такая вялізная, а галоўнае, даўняя, што на ёй, нібыта на пагорку, расла трава і нават цягнуліся да сонца нейкія квітнеючыя кусты і дрэўцы. Так што я мог кідаць туды сваё смецце, на якім з часам таксама вырасталі зялёная трава і кветкі. Па ўсёй даўжыні калідора стаяла столькі торбаў з харчам і пляшкамі, што мне давялося рассунуць іх да сценаў, каб утварылася нейкая сцяжынка, па якой магла б прайсці кансьержка, мая апошняя сувязь са светам пораху і агню, што аблажыў мяне з усіх бакоў.

Я паставіў свой ложак у далёкім пакоі. Гэта быў аазіс, маленькая Швейцарыя. Можа, няхутка я адсюль выйду, бо мне тут было ўтульна. Які спакой панаваў у гэтым пакойчыку! Як прыемна было ўсведамляць, што за гэтымі глухімі вокнамі нікога няма. Я ведаў, што тут мне будзе добра пачувацца, бо ў мяне будзе час і аддацца марам, і выпіць столькі, колькі захачу.

Міналі месяцы. Можа, сплывалі гады. Кансьержка сяды-тады прыносіла мне газеты з карцінкамі, на якіх былі выявы ваяроў паўстання – з карабінамі, барадамі, каўпакамі, альбо без барадаў ды каўпакоў. Гэта ўжо сталася гісторыяй. На адной карцінцы можна было ўбачыць гераічную смерць Бара, які падаў, праткнуты шты-

ком. На другой быў гаўрош, які працягнуў, перш чым памерці, рукі да неба. А злыя людзі ўсё яшчэ стралялі ў яго. Адзетыя яны былі ў зялёную уніформу.

Аднойчы кансьержка распавяла мне, што ў рэшце рэшт усе дамы на нашай вуліцы ўзарвалі. Дык вось чаму на днях я адчуваў нейкія нібыта падземныя штуршкі. Я напружана ўслухоўваўся, але нічога, апрача даволі далёкае страляніны, не пачуў.

– Цяпер, – сказала мне кансьержка, – страляюць толькі на вялікай плошчы.

Але нават і адтуль страляніна даносілася ўсё слабей і слабей. Паміж перастрэлкамі або ў час зацішшаў людзі ўжо хадзілі на іпадром. Мне закарцела даведацца, што стала з маім шынком.

– Яго ўжо больш няма, мсьё, – сказала кансьержка, – ад усіх гэтых дамоў нічога не засталося.

Наш дом і два ці тры побач з ім складалі маленькую выспу высокіх пабудоваў. Народу на нашай вуліцы амаль не засталося. Удава забітага пенсіянера, сівы рускі, дама з сабачкам – вось і ўсе, хто застаўся, астатнія ўжо мёртвыя. Не ўсе з-за грамадзянскае вайны – былі й такія, што памерлі ад старасці, інфарктаў, іншых хвароб.

– Але ўсё будзе адноўлена. Людзі атрымаюць працу. Вы ведаеце, колькі цяпер каштуе квадратны метр зямлі на нашай вуліцы?

Кансьержка неўзабаве таксама памерла. Яе змяніла дачка. Я заўважыў гэта адно праз нейкі час. Яна прыносіла прадукты. Забірала пустыя бляшанкі з-пад кансерваў. Радзей змінала, а неўзабаве ўвогуле перастала турбаваць.

У маім пакоі было светла. Шмат было святла. Я прымушаў сябе штодня хадзіць у ванны пакой, прыводзіць сябе ў парадак, галіцца. Калі неба зацягвала хмарамі, я не галіўся. Потым вяртаўся па вузкай сцяжынцы паміж штабелямі напояў ды прадуктаў. Засцілаў ложак, падмятаў. Адчыняў дзверы пакоя, каб выставіць у калідор брудную бялізну і ўзяць чыстую. Усё гэта адымала ў мяне не так ужо і мала часу і дастаткова стамляла, таму пасля працы я мог дазволіць сабе выпрастацца на ложку, з якога бачыў неба ці столь. Жыў чаканнем. Чаканнем не ведаю чаго. Але чаканнем жывым, якое хвалявала. Калі лёгкія аблокі рассейваліся, змяшаўшыся з блакітным небам, я спрабаваў штосьці зразумець, спрабаваў прачытаць неба. Я ўжо не быў такі няшчасны, як раней. Альбо стаў з узростам мудры,

альбо ўва мне ўраўнаважыліся сілы, якія хвалявалі мяне і процідзейнічалі адна адной? Нельга сказаць, што я быў шчаслівы. Так сталася – вось і ўсё. У сярэдзіне вялізнай усеагульнай турмы я зладзіў, як мог, сваю маленькую вязніцу. Стварыў сабе кут, у якім мог жыць. Гэта быў зусім маленькі свет, я ўсведамляў гэта. Але прынамсі мне яго хапала. Маленечкі куток на катарзе, які хаваў мяне ад катаргі. Катарга без працы. Хіба я сумаваў? Хіба я скарыўся? Стаміўся, несумненна. Але я мог выпрастацца як хацеў, калі хацеў. Я праводзіў на ложку цэлыя гадзіны, дні. Аніякіх намаганняў, аніякіх, за выняткам гэтага чакання. Гледзячы ў неба, я заўсёды спрабаваў глядзець далей: а што там – за ім? Ці існую "я"? Існую, напэўна, але як дзве бясконцасці, вялікая і малая. Чым быў я? З аднаго боку, кропкаю. З другога – кангламератам галактык. Ува мне нараджаліся сусветы, яны квітнелі, паміралі, разбураліся. Я быў галактыкамі, я быў мільярдамі стагоддзяў – для касмічных сістэм. Я быў мільярдамі й мільярдамі кіламетраў для істотаў, якіх не ведаў, для мільярдаў істотаў, якія хваляваліся ўва мне, абураліся, паўставалі, змагаліся, якія любілі сябе і ненавідзелі. Але, усё гэта было ўва мне.

Мой дом ды два ці тры суседнія дамы былі цяпер выспаю, аточанаю велізарнай будоўляю. Аднаўлялі тое, што разбуралі. Разбураюць дзеля таго, каб аднаўляць. Ацалелыя будынкі не баранілі ад шуму будоўляў. У мяне быў, дарэчы, свой метад. Я не проціпастаўляў сябе гэтым шумам, не затыкаў сабе вушы, не нерваваўся, не раздражняўся. Наадварот, прыслухоўваўся да іх як мага больш уважліва. Гэта было штосьці накшталт музыкі. Грукат будоўлі не прыгнятаў мяне, а ўзвышаў.

Стаялі пагодныя дні. Мажліва, таму, што я жыў у паўднёвым прыгарадзе, дзе надвор'е было лепшае, дзе заўсёды было цяплей, чым у паўночным прыгарадзе. Аднойчы ўранку, калі я глядзеў на блакітнае неба над дахамі – я рабіў гэта досыць часта, – заўважыў, што на блакітным небасхіле з канца ў канец працягнулася лёгкая трэшчына. Яна свяцілася, і святло яе было мацнейшае ад звычайнага дзённага святла, я сказаў бы – больш блакітнае за блакітнае святло неба. Я на нешта спадзяваўся. Шум будаўнічых работ, што цягнуліся сваім парадкам, не сціх, усё роўна як нічога і не адбывалася. Відавочна, трэба было мець час, каб глядзець у неба, і глядзець да

таго ж уважліва. Аднак людзі не падымалі вачэй. Праца, розныя клопаты не пакідалі ім на гэта часу. Толькі я ўглядаўся ў гэтую яшчарку неба. Балелі вочы, але я не адводзіў позірку. Прамень святла, святло ў святле, спакваля знік, не пакінуўшы і следу. Аднак гэтая расколінка зноў з'явілася на зорным небе, і цяпер яна была шырэйшая, чым удзень. Гэта выдавала на высверк маланкі праз увесь небакрай, ад аднаго ягонага канца да другога. Суседнія зоркі бляклі, здавалася, што яны гаснуць; аднак менавіта ад зоркі, пачынаючы ад маленькае зоркі, працягнулася гэтая расколіна, і святло гэтае расколіны было мацнейшае, чым святло двух сонцаў. Я зноў напоўніўся радасцю, бо прыняў гэты знак як надзею, а не як пагрозу. Настаў золак, і калі расколіна знікла з неба, ён здаўся мне шэрым. Маладая кансьержка прынесла каву а восьмай гадзіне раніцы – яна не мела звычкі глядзець на неба. Яна нічога не бачыла. Уначы яна спала. Удзень была занадта занятая. У яе была праца. Яна глядзела на неба ў нядзелю. Апрача таго, ніхто ў доме і ніводзін з будаўнікоў, сярод якіх у яе былі сябры, ні булачніца – ніхто з іх нічога ёй пра гэта не казаў. Акрамя мяне. Я сказаў ёй, што феномен, мажліва, больш не паўторыцца, так што нявартa чакаць нядзелі.

– Я не сплю з расплюшчанымі вачыма, – адказала яна са злосцю.

– Запэўніваю вас, я добра бачыў, – дадаў я.

– А я вам кажу, што ніхто мне пра гэта анічога не казаў.

Яна папрасіла падпісаць чэк, каб атрымаць працэнты з маіх укладаў. А яшчэ мяне прасілі, паведаміла яна, наперад унесці даволі значную суму дзеля таго, каб у нашым парадным усталявалі ліфт, які пажадалі мець новыя жыльцы. Яна падкрэсліла, што я часта буду ім карыстацца, як захачу хоць трохі рухацца. У мяне не было падставы працягваць жыць у ізаляцыі. Небяспекі больш не было. Час ад часу яна яшчэ чула нейкія выбухі – мусібыць, недзе ўдалечыні рваліся бомбы. Мы за гэта дорага заплацілі, але цяпер квартал быў спакойны. Рэвалюцыя перамясцілася да цэнтра горада і паўночнага прыгараду.

– Цяпер іхняя чарга, мы ўдосталь пашалелі.

Увесь гэты дзень, усе наступныя дні, весь наступны тыдзень я, абапершыся локцем на падваконне, глядзеў на неба над дахамі ў спадзеве зноў убачыць феномен. Многія нядзелі, многія тыдні. Аднак нічога падобнага больш у нябёсах не адбывалася.

Я зноў прызвычайваўся да яснасці дня. І сумаваў. Захацелася выйсці на вуліцу. Мусібыць, пабудавалі новы шынок на месцы ранейшага. Скончыўся непрыемны перыяд майго жыцця. Я прайшоў па доўгім калідоры, застаўленым з абодвух бакоў харчамі, падышоў да дзвярэй, адчыніў іх. Спусціўся па лесвіцы, здзіўлены тым, што змог зрабіць гэта так лёгка. Прамінуў пакой кансьержкі – тая адсутнічала. Ранейшая заўсёды была на месцы. Яна нават не варушылася. Іншыя норавы. Я ступіў крок, другі па ходніку. Я не пазнаваў дамоў. Яны былі зусім новыя, высокія, падобныя адзін да аднаго. Нашую вуліцу перасякала новая вуліца, бо новыя дамы спланавалі інакш. З гэтага можна было хутчэй выйсці на праспект. Дамкоў з іхнімі садкамі й дворыкамі больш не было. Я не ведаў новых суседзяў. Удалечыні, мусібыць, насамрэч рваліся бомбы. Я дайшоў да шынка. Памяшканне заняў той самы гаспадар. Урад, за які ці супраць якога ён змагаўся, адвёў яму тое ж месца, і ўжо адбудаванае. Ён дужа пастарэў, кульгаў. Я, напэўна, таксама дужа пастарэў, бо ён мяне не пазнаў. Наведнікі былі пераважна маладымі людзьмі. Ім было весела. Зусім іншая публіка. Адны гралі на гітары. Другія пілі безалкагольныя напоі. Яны моцна смяяліся. Многія, адкінуўшыся на спінку крэсла, трымалі ногі на стале. Свет памаладзеў, сказаў я сабе, а я пастарэў. Яны таксама пастарэюць.

– Вы ведаеце, – сказаў я гаспадару, – я той пан, які штодня прыходзіў сюды і сядаў вунь у тым месцы, дзе цяпер сабралася моладзь.

– Але, але, згадваю, – сказаў стары. – Не, афіцыянткі ў мяне болей няма. У яе, мусібыць, ужо дарослыя дзеці. Мажліва, нават унукі ёсць. Давайце вып’ем разам па шкляначцы. А як вы, што ў вас з працаю?

– Вы ведаеце, я пайшоў на пенсію вельмі маладым, вы проста забыліся. Я ўжо дужа даўно на пенсіі.

– Вам пашанцавала. Тады ў вас добрае жыццё. Але мне здаецца, выгляд у вас крыху няважны. Хаця, мы ўсе пройдзем праз гэта. Вы, можа, менш пастарэлі б, калі б працавалі. Як сыходзіш на пенсію, трэба падшукаць сабе занятак. Памяняць спецыяльнасць, чаму б і не? Пачынаецца новы цыкл. Вы згадваеце: грамадзянская вайна, барыкады – добры быў час! Стралялі нават у рэстаранннай зале.

– Я ведаю, выдатна памятаю, таму што бываў тут тады.

– Але, я згадаў. Згадаў нават тое, як вы камусьці заехалі ў твар

кулаком. Жыццё, жыццё. На шчасце, заўсёды ёсць добрае віно, – сказаў ён, наліваючы за стойкаю ў шкляначкі. – Але камамбэр цяпер ужо не той. Няма больш добрага камамбэру. Усё цяпер вырабляецца на прамысловай аснове. Так лягчэй. Маладыя сталі гультаяватымі. Не паварушацца нават, каб разок стрэліць, як гэта было ў наш час. Хоць, можа, яшчэ і зварухнуцца. Ніколі не ведаеш, што калі стукне людзям у галаву.

– Вядома. Ёсць у нас тэндэнцыя да агрэсіі. Гэта можа здарыцца ў любы момант.

Калі я выйшаў, маладыя людзі праводзілі мяне позіркам – насмешлівым поглядам. Штурхаліся ў бакі і падміргвалі адзін аднаму. Вядома, я быў апрануты старамодна. Да таго ж я належаў іншаму свету. Можа, свету, які ўжо сышоў. Ці засталіся яшчэ буржуа? Раптам я ўжо быў апошнім? Ці я не быў ні буржуа, ні кім іншым?

Я вярнуўся дамоў настолькі хутка, наколькі змог. Трымаючыся за бок, узняўся па лесвіцы, адчыніў дзверы, зачыніў іх на ключ і, нікуды не зазіраючы, схаваўся ў свой пакой.

Патроху да мяне пачаў даносіцца шум. Здалося, здалёку. Я змог, аднак, распазнаць, што гэта: буравыя машыны, пнеўматычныя малаткі, бетонамяшалкі, пад'ёмныя краны. А яшчэ песні, галасы рабочых. Паколькі ўсе гукі чуліся прыглушанымі, я падумаў, што, мусібыць, страціў вастрыню слыху. Будаваўся новы свет, гэта трэба было прызнаць...

Я, мабыць, раздражняў кансьержку. Тры разы на дзень падымацца наверх, прыносіць ежу, бялізну, атрымліваць працэнты з укладу, – у яе са мною было не так ужо і мала клопату. Яна папрасіла мяне плаціць болей.

– Жыццё зрабілася такое дарагое, – сказала яна, – грошы зусім абясцэніліся.

Я згадзіўся. Мяне ахапіла паніка. Ці не буду я змушаны пайсці працаваць? Гэтая думка здавалася мне жахліваю. Я пытаўся ў сябе, ці здольны я яшчэ штосьці рабіць? Мне спатрэбіўся нейкі час, каб адважыцца напісаць ліст у банк майму натарыусу. Адказ мяне супакоіў. Грошы мае былі ў абароце. Даходы ўзраслі, хоць і жыццё зрабілася даражэйшае. Аднак, з асцярогі, я вырашыў больш не курыць. Я не мог абысціся без спіртнога, але пастанавіў абмежаваць сябе ў выпіўцы. Мяса буду есці толькі два разы на тыдзень. Я ўвогуле пачаў есці менєй. У квартале ёсць просценькі шынок, там прадаюць на вынос гато-

вьгя стравы, паведаміла мне кансьержка. І я аддаў ім перавагу перад кансервамі й смажаным мясам з гароднінаю, якое кансьержка гатавала для мяне. Дарэчы, я хацеў бы як мага меней яе стамляць, менш адымаць у яе часу. Ёй жа трэба яшчэ займацца маленькімі дзецьмі сваёй сястры, якая ўжо выйшла замуж і працавала на будоўлі. Чалавек у яе быў хворы, сацыяльная дапамога была недастатковая.

Я стараўся як мог, каб супакоіць кансьержку – яна бурчэла, ляпала дзвярыма, смяялася мне ў твар. Я спрабаваў нават жартам спрачацца з ёю. Але мая падманлівая весялосць, мае кепікі яе не ўлагодзілі. Мяркую, што ёй былі не даспадобы ўвесь мой лад жыцця, мае паводзіны, мая адзінота. Спачатку яна адно намякала на маё лайдацтва, а потым сказала прама ў вочы:

– Мне няма чаго ад вас утойваць, я кажу тое, што думаю, кажу людзям праўду ў твар.

Каб не быць з ёй залішне непрыемным, змякчыць хоць троху яе антыпатыю, я кожнага ранку падоўгу займаўся сваім туалетам. Скроні мае сівелі. Дык вось колькі часу ўжо прамінула... Па яе словах, я не меў права быць на пенсіі, рана яшчэ, “асабліва пасля такога жыцця, вы ж нічога не рабілі. Дзеля чаго вы патрэбны?” І яна яшчэ мусіла мяне абслугоўваць? Я не спрачаўся з ёю на гэтую тэму.

– Вам хутка трэба будзе параязджаць, хутка будуць зносіць наш дом і суседнія дамы, гэта апошні астравок старызны. Будуць узводзіць новыя дамы.

– Новыя дамы, якія састарэюць, як і ранейшыя. Нават не паспееш сказаць “уф!”.

Яна не адказала, адно сцепанула плячыма. Неўзабаве будуць зносіць мой дом? Ад гэтага рабілася крыху страшна. Я супакойваў сябе. Гэтая пагроза яшчэ, напэўна, не хутка здзейсніцца. Гэта працягнецца, несумненна, некалькі гадоў. І потым, я мог быць супраць зносу дома. Я быў уладальнікам кватэры. Але існавалі ж яшчэ і грамадскія інтарэсы. Мяне маглі абавязаць. Аднак не зараз жа.

Што сталася з іншымі? З калегамі па бюро, з маімі сяброўкамі? Памерлі яны ці толькі пастарэлі? Што калі наведаць іх як-небудзь? Але, можа, грамадзянская вайна яшчэ працягвалася ў іхніх кварталах, у цэнтры горада? Як мне навесці аб іх даведкі?

Мяне апанавала штосьці накшталт смутку, настальгіі па мінулым часе. Так, настальгіі па старым бістро, па аперытывах з гаспа-

дардм бістро, з маім былым калегаю... Як яго звалі? Жак? Здаецца, Жак. Але не, Жак быў мужам Люсьен. Ці яго звалі П'ерам? П'ерам... а як далей?.. Ягонае прозвішча пачыналася, здаецца, на Б... ці ж на Б? Нешта накшталт Буя. А пра прозвішча шэфа я ўвогуле ніякага ўяўлення не маю. Прапала ў мяне памяць. А ўсё ж не так ужо і даўно было. Гэта не надта даўно было. Ды не, дужа даўно. Мая маладосць. Старыя вулкі, старыя вулкі Парыжа, прыгожы горад – Парыж. Гэта было прыгожа: нядзеля, калі я сядаў на тэрасу кавярні ці ў піўніцы і глядзеў, як праходзяць міма людзі. Нядзеля... Гасцініца. Я адчыняў акно, узіраўся ў натоўп. Гэта было да вайны. А потым яшчэ была афіцыянтка, Івона. Аб ёй я шкадую найбольш. Але дні не вяртаюцца! Я філасофстваваў. А што яшчэ было? Дождж, сонца, кіно. Я хадзіў туды мала калі. А столькі было цікавых фільмаў! Залішне позна. Я даведаўся б пра многія рэчы. Я ні аб чым бы не даведаўся. Што можна ўведаць? Успамін, успамін, чаго ты хочаш ад мяне? А яшчэ было святло, ноч – у горадзе. Было яшчэ шэрае неба, шэрыя дамы, шэрыя людзі. Была яшчэ аднойчы цалкам белая дарога. Аднойчы, калі было вельмі светла. Гэта было не ў горадзе. Але, я быў тады ў дарозе, на машыне, разам з Люсьен. Гэта Люсьен была? Я дзівіўся кветкам у вёсцы, чырвоным макам у жоўтым полі пшаніцы. Мы выйшлі з машыны, прайшлі некалькі сотняў метраў па пустой дарозе, у канцы яе сонца гуляла сваімі промнямі ў зялёнай лістоце дрэваў. Былі таксама ўспаміны, якія распавядалі мне іншыя. Мой калега па бюро – як яго звалі, ніяк не магу згадаць – падарожнічаў на машыне па Бельгіі. Ён даўно ўжо ладзіў гэтае падарожжа, калі яшчэ быў малады. Гэта было весела. Яны смяяліся, гаварылі, пілі віно, якое даставалі з сумкі ў аўтамабілі. Яны перасеклі мяжу. Мытнікі альбо паліцыянты падышлі да машыны, папрасілі паказаць пашпарты. Яны прадоўжылі свой шлях. Копанкі, гарадкі з дамамі з чырвонае цэглы. Яны прыехалі ў Брусэль. Каля вакзала іх заспеў дождж, божа мой, якая гэта была залева! Яны выйшлі з машыны і перабеглі цераз вуліцу, знайшлі сабе прытулак у маленькім бістро, вузкім ды доўгім, са сталамі з фарбаванага дрэва. Яны пілі піва, вы ведаеце гэтае асаблівае бельгійскае піва, піва "гёзаў", яго багата выпілі, усе былі вельмі вясёлыя. Гэта было забаўна. А потым яны паехалі ў Анвэр. У партовым квартале дахі дамоў былі завостраныя, зусім не так, як у нас. Былі жанчыны ў вітрыне. Квартал быў небяспечны. Тут часта здараліся бойкі. Але калі яны былі там, аніводнай не зда-

рылася. Ён дужа хацеў убачыць такую бойку. Гэта не было небяспечна, бо яны тут здараліся часта. І на ўсіх рагах стаялі паліцыянты. Бельгійскія паліцыянты.

Згадваў я і пра дзяўчыну, якая памерла ў дзевятнаццаць гадоў. Груда кветак ды вянкоў каля труны. Кветкі чырвоныя, белыя, жоўтыя. З тае пары я страціў вастрыню нюху. Здаецца, гэтак здараецца тады, як нюхаеш кветкі, прызначаныя для нябожчыка. Вельмі доўга я чуў толькі благія пахі. Потым нюх часткова вярнуўся. Калі я быў маленькі, яно ў мяне было дужа тонкае. Мне завязвалі вочы, і я пазнаваў сваіх сяброў па паху іхніх паліто. Гэта ўжо ніколі не вярнулася цалкам.

Гэта няпраўда, не ўсё было шэрым. Аднак успаміны пра яркія дні былі рэдкія – адзін ці два, – а ўсё астатняе – брудная брукаванка, мокрая брукаванка, ноч. Да мяне часта прыходзіў вобраз маёй маці. Хударлявая, сівыя валасы, шэрая сукня, шэры твар і амбіцыі: “Мой сын даб’ецца поспеху!” А ці дабіваюцца хоць дзе поспеху? А потым – бюро, аркушы прысутнасці, палітычныя спрэчкі з калегаю, іхні працяг ужо на вуліцы, у шэры час аперытыву. Столькі змрочных перыядаў, чорных, бо я піў залішне шмат, і вобразы сціраліся. То тут, то там цьмянае святло, паўсвятло ў засені прыцемак. Былі яшчэ рэвалюцыі, грамадзянскія войны, удар кулаком, які мне нанеслі ў шынку. Багата чаго здарылася вакол мяне. Без мяне. Тым не менш гэта мяне цікавіла. Былі трупы. Былі рэвалюцыйныя маршы, раз’ятраныя людзі. Мёртвы малады чалавек на тратуары, акружаны суседзямі па вуліцы, якая цяпер так перамянілася. Гэтыя старыя, гэтыя пенсіянеры, такія худыя, такія дробныя. Ці было гэта? Уражанне такое, што гэтага ніколі не было. Маленькі стары з белымі вусамі, ці была ў яго барада? Да рэвалюцыі яна была прыемнаю, гэтая вуліца, з усімі яе старымі, з кульгавым рускім. Я яго не надта любіў. Я абыходзіў квартал. Далей быў праспект, сцены заводаў, і нашая вуліца тут выглядала чымсьці чужародным. Мне трэба было больш гуляць па ёй, карыстацца мажлівасцю. Трэба было пайсці наведаць прыяцеляў, калег па бюро. Я часта збіраўся гэта зрабіць. Але, усё знікла. Усё. Смешны жаль. Я столькі ўсяго бачыў! Карабіны, узнятыя кулакі, працягнутыя рукі, розныя салюты. Гэта кранала. Не хапала ў маім жыцці разнастайнасці, калі я пасяліўся ў гэтай кватэры. Я часта сумаваў. Наколькі яна мела рацыю, Івона, што пайшла. Івона ці Марыя... Я сам знёс валізы на тратуар, дапамог шафёру паставіць іх

у багажнік. Цудоўна ўсё памятаю. А яна не такая ўжо і благая, мая памяць. Што яшчэ было? Што было? Быў таксама гэты выкладчык, у школе, з чорнымі вусамі й валасамі, што пачыналі ўжо сівець.

– Я выхаваў сябе сам, сціснуўшы зубы, я сам сябе зрабіў, – казаў ён мне, седзячы за сваім сталом, потым дадаваў: – Вы нічога не дасягнеце, мой сябра, вы згадаеце гэтую фразу, мяне ўжо тут не будзе, але вы, вы згадаеце гэтую фразу: вы нічога не дасягнеце.

Так і адбылося.

Гледзячы маці ў твар, ён паказваў на мяне ўказальным пальцам.

– Ён нічога не дасягне, мадам, – казаў ён бязлітасна маёй маці, не пакідаючы ёй аніякіх ілюзій, нягледзячы на слёзы, што стаялі ў яе вачах.

Асабліва моцным было ў мяне пачуццё ўпушчанага. Па сутнасці, усё склалася б прыгожа, калі б я ўмеў напаўняць кожнае імгненне сэнсам. А ў мяне хвалі жыцця каціліся як хацелі. Ва ўсякім разе ўсё ўжо было скончана. Але гэтыя згадкі – яны цяпер разгортваліся ў карціны на тле памяці! Карцінамі крыху зблытанымі, крыху зацемненымі, – столькі ўсяго ўжо было забыта. Гэтыя забытыя фрагменты былі нібыта чорныя плямы, якія закрывалі ад мяне жывыя вобразы. Гэтае вечнае пачуццё ўпушчанага. У мяне заўсёды было такое адчуванне, што я нешта ўпусціў: значыцца, у мяне толькі й заставалася ўпушчанае. Што я ўпусціў? Што мяне абмінула? Чаго мне не хапала? Я хацеў бы ўсё ведаць. Вось чаго мне не хапала. Не хапала ведання. Ведання ўсяго. Я нічога не ведаў, але не настолькі, каб не ўсведамляць, што я нічога не ведаю. А ці ведаюць што-небудзь вучоныя? Ім гэтага дастаткова? А што яшчэ ёсць? Можа, дрэвы ведаюць больш. Жывёлы ведаюць шмат. Я не зрабіў аніводнага намагання, бо адчуваў, што ведаць немагчыма. З-за гэтага быў самотны. Магчыма, калі-небудзь усё спазнаюць. Іншыя спазнаюць усё. Гэтая стома, якая ўвесь час прыдушвала мяне сваім цяжарам. Гэта была стома нямогласці. Але, былі мільярды й мільярды людзей. Былі мільярды тых, хто жыў, і для кожнага з іх была ўсеагульная трывога. Кожны, як Атлант, вынес на сабе ўвесь цяжар свету, нібыта кожны быў самотны, прыгнечаны цяжарам непазнавальнага. Гэта і суцяшала мяне – тое, што найвялікшы вучоны не ведаў нічога, гэтаксама, як я, і ўсведамляў сваё няведанне. Але ж ці так гэта?

Аднойчы мяне разбудзіла гамана птушак. Я адчыніў акно – да яго цягнулася дрэва, у белых кветках. Да аднае галіны я мог дакрануцца. Блакітныя й зялёныя птушкі ўспырхнулі з галінаў, але неўзабаве зноў вярнуліся. Я, стары дамасед, зусім не ведаў прыроды. З груды адкідаў на двары, якая ператварылася ў зялёны лужок, вырасла дрэва. Ствол у яго быў гладкі, карона галінаў з кветкамі была побач з маім акном. Я сарваў тры самыя блізкія кветкі.

– Хадзіце глядзець! – крычаў я, – хадзіце глядзець!

У адказ пачуў толькі рэха. Трохі пазней кансьержка асцярожліва пастукала ў мае дзверы. Я заўважыў, што яна ўжо старэе.

– Якое прыгожае дрэва на двары, – сказаў я. – Вырасла за ноч. Глядзіце, калі вы мне не верыце! Чуеце, як спяваюць птушкі?

– Нічога не чую, – сказала яна.

І без якогась жадання падышла да акна.

– Няма там ніякага дрэва, што вы мне расказваеце? – сказала яна.

Тады я паглядзеў у акно і ўбачыў, што дрэва больш не было.

– Але ёсць жа кветкі, якія я сарваў з галіны! Вось, бачыце! Я паклаў іх на стол.

Яна паглядзела на іх:

– Але, на самой справе кветкі, я такіх ніколі не бачыла. Адкуль яны?

– З дрэва, з дрэва, пра якое я вам казаў!

Яна зноў паглядзела на тры кветкі. Паставіла іх у шклянку з вадою, потым пайшла, пацiснуўшы плячыма і не сказаўшы ні слова.

Я быў расчараваны. Куды гэтае дрэва магло знікнуць? Яно ж было – вось тры кветкі. Я дакрануўся да іх, адчуў іхні пах. Кансьержка іх таксама бачыла. Я здзівіўся, але і супакоіўся. Зноў падышоў да акна. Сцены і дахі, якія мяне абкружалі, нібыта задрыжэлі, і я ўбачыў, што дрыжэнне гэтае свяцілася. Святло было ўсёпранікальнае. Сцены і дахі, здавалася, раз'ядноўваюцца, іхнія контуры робяцца размаітыя. Яны страцілі сваю грунтоўнасць, сталі, здавалася мне, гранічна крохкімі. Цяпер гэта былі ўсяго толькі нейкія фіранкі, яны рабіліся ўсё больш празрыстыя – гэта былі цені ў прыцемках, і цені гэтыя рассейваліся. Я бачыў, як яны крыху нахіляліся, налева, направа, дрыжэлі, быццам адлюстраванні ў хуткаплыннай вадзе, я бачыў, як яны зморшчваюцца і паволі аддаляюцца. Яны загубіліся

ў святлявай далечыні, зніклі ў празрыстай смузе. Перад маімі вачыма раскінулася пустэльня, велізарная пад зіхоткім небам, залітая сонечным святлом, – распрасцерлася да далягляду. Цяпер было відаць адно зіхоткі пясок. Мой пакой здаваўся мне падвешаным у моўчы, – гэта была кропка ў неабдымнасці.

Да гэтага моманту доўга была цішыня – я ляжаў на сваім ложку, глядзеў на двухстворчатую шафу, што стаяла каля далёкае сцяны. Створкі расчыніліся. Яны здаліся мне велізарнымі варотамі. Я не бачыў больш ні вопраткі, ні бялізны. Толькі голая сцяна. Але і сцяна неўзабаве знікла. Дзве рассунутыя створкі ператварыліся ў дзве пазалочаныя калоны, якія трымалі трыумфальную арку. На месцы сцяны спакваля вымалёўваліся нейкія вобразы. Яны набрыньвалі святлом. З'явілася дрэва з каронаю з кветак і лісткоў. Потым – другое. Трэцяе. Шмат дрэваў. Велізарныя прысады. У канцы іх было святло, ярчэйшае за сонечнае святло ўдзень. Усё гэта наблізілася, запаланіла пакой. Як усё гэта можа ўмяшчацца ў маім пакоі? Гэта нашмат больш за мой пакой. Спачатку я не адчуў ветру, ад подыху якога дрыжэлі галіны і кветкі, блакітныя і белыя. Але не, ёсць лёгкі ветрык над поплавам. Якая яна прыгожая – трава! Для каго гэты поплаў, гэты сад, гэтае святло? Стройныя прысады знікалі ў далечыні. У сярэдзіне іх узвышалася вялізнае дрэва. Дрэва ці неверагодна вялікі куст? Справа ад яго, злева ад мяне, у блакіце неба гублялася срэбная лесвіца, падвешаная амаль да зямлі. Я доўга глядзеў на яе, але не насмельваўся наблізіцца і ўчапіцца за яе, баючыся, што яна знікне. Святло было вельмі моцнае, але вачам праз гэта балюча не было. Зіхацелі прыступкі. Сад набліжаўся, акружаў мяне, я рабіўся ягонай часцінаю, я знаходзіўся ў ягонай сярэдзіне. Прамінулі гады альбо імгненні. Лесвіца пасунулася зусім блізка. Цяпер яна была амаль што ў мяне над галавою. Прамінулі гады альбо імгненні.

Потым усё пачало аддаляцца; здавалася – свет разбураецца. Знікла лесвіца, потым – куст, пасля – дрэвы. Нарэшце – калоны разам з трыумфальнай аркаю. Але штосьці з таго святла, што было тут, засталося ўва мне.

Я прыняў гэта за знак.

**Пераклаў з французскай**
**Алесь АСТАШОНАК.**

**Эжэн Іянэска** нарадзіўся ў 1909 годзе ў Слаціне ў Румыніі. Бацька ягоны быў румынам, маці – францужанкаю. Неўзабаве сям'я перабралася ў Францыю. (Паводле многіх выданняў, год нараджэння пісьменніка – 1912: гэта вынік розыгрышу самога Іянэскі.) Родная мова пісьменніка – французская. У 1927 годзе, ва ўзросце 18 гадоў, ён вяртаецца на радзіму. Вучыцца ва універсітэце, атрымлівае кваліфікацыю выкладчыка французскай мовы. У 1931 г. піша свае першыя вершы, эсэ. У 1935 г. з'яўляецца першая публікацыя, на румынскай мове. У 1938 г. Іянэска едзе ў Францыю працаваць над доктарскай дысертацыяй "Грэх і смерць у французскай паэзіі ад Бадлера" – ён стыпендыят румынскага ўраду. Неўзабаве Францыя назаўсёды становіцца ягонай краінаю. У 1948 г. ён піша сваю першую п'есу, якая пазней атрымае вялікую вядомасць, — "Лысая спявачка". У 1950 г. Іянэска атрымлівае французскае грамадзянства. Таго ж года ў тэатры, дзе ён выконваў ролю ў спектаклі "Прыніжаныя і абражаныя" паводле Дастаеўскага, ставіцца "Лысая спявачка" – п'еса адразу была ацэненая прафесіяналамі.

Найбольш вядомыя п'есы: "Крэслы" (1952), "Насарогі" (1958), "Кароль памірае" (1962). Сярод іншы' п'ес: "Урок" (1951), "Паветраны пешаход" (1963), "Лакуна" (1966). У 1962 г. друкуецца зборнік навелаў "Фатаграфія палкоўніка". У 1967 г. – "Дзённік у кроках", у 1970 г. выходзіць тэлефільм, а ў 1972 г. кінафільм "Ваза" (сцэнарый паводле ягонай аднайменнай навелы, напісанай у 1956 г.), у якім Іянэска заняты як актор. У 1970 г. яго абіраюць дзейсным сябрам Французскай Акадэміі (найвышэйшае ўшанаванне літаратара ў краіне).

"Адзінотнік" (1973) – адзіны вядомы раман Эжэна Іянэскі.

Іянэска лічыцца, разам з Сэмюэлем Бэкетам і Арцюрам Адамавым, адным з заснавальнікаў так званага тэатра абсурду (тэрмін вынесены ў загаловак эсэ англійскага тэатральнага крытыка Марціна Эсліна; эсэ было перакладзена на французскую мову ў 1963 г.).

Памёр Эжэн Іянэску 28 красавіка 1994 года.

**Падрыхтаваў**
**Алесь АСТАШОНАК.**

# Я маю твор...



## Вікторыя САЛАЎЁВА



* * *

Кропелькі золку дрыжаць у надхмар'і,
Сутарга ночы прайшла, бы насланне...
Пырснулі бісерам сонцакаралі
Ў вокны, у вочы, у неба, у далі....

Зімы на вершы заўсёды скупыя...
Марныя – марыць між слоў – намаганні
Ў час, калі вея злуецца і вые, –
Спяць у аблоках радкі залатыя...

Сутарга ночы прайшла, бы насланне...
Рыфмы казычуць паўсоннае вушка, –
У перламутравым сонечным ранні
Крочыць Вясна да Зімы на спатканне!

Вось happy end у зімовае п'есы –
Думкі і мары – як вольныя птушкі...
Лашчыць матыў галубінае месы
Дзень нескайчальны, азораны сэнсам!

**Пытанні анкеты:**

**1. Якую падзею ў Беларусі Вы лічыце самаю галоўнаю ў XX ст.?**

**2. Якую падзею Вы лічыце галоўнаю ў мінулым тысячагоддзі?**

**3. Пра якую падзею ў Беларусі XXI ст. Вы марыце?**

## Максім КЛІМКОВІЧ

1. Экстрэмальная праява нацыяналізму — эгаізм. Таму ўласнае нараджэнне і першае каханне, якія адбыліся ў мінулым стагоддзі, для мяне больш важкія падзеі, чым абвяшчэнне БНР, хаця і апошняя не з паганых.

2. Падзеі ўтвараюць ланцуг — сённяшняя пазбаўлена сэнсу без папярэдняй і наступнай. Вось і атрымліваецца, што ўсё мінулае тысячагоддзе чалавецтва змагалася і працавала дзеля таго, каб на маім працоўным стале паўстаў нацюрморт: камп'ютар, пачак цыгарэт і філіжанка кавы.

3. Выпіць з сяброўкамі і сябрамі шампана на пляцы перад Домам ураду ў гонар яшчэ аднога Дня незалежнасці.

## Мар'ян ДУКСА

1. Можна назваць некалькі падзей, важных для Беларусі ў 20 стагоддзі.

Галоўную падзею сярод іх вызначыць не так проста. З улікам адвольнасці і суб'ектыўнасці зрабіць гэта ў прынцыпе магчыма.

Падзеяй, вартай увагі нашчадкаў і гісторыкаў, з'яўляецца абвяшчэнне 25 сакавіка 1918 года БНР. Гэты факт засведчыў юрыдычна і палітычна, што Беларусь не згінула ў катле бурлівага часу, не згарэла на вогнішчы войнаў, шматлікіх этнічных і рэлігійных разборак. 25 сакавіка 1918 года над Беларуссю ўзняўся сцяг надзеі – надзеі на нацыянальнае адраджэнне.

А можна разважыць і так. Усе катастрафічныя для беларусаў падзеі 20 стагоддзя – першая сусветная вайна, калектывізацыя, сталінскі генацыд, другая сусветная вайна, чарнобыльская трагедыя – не змаглі знішчыць беларускі этнас, ён працягвае існаваць, працягвае верыць у сваю перспектыву, а гэта гаворыць аб нязломнасці, неўміручасці нас, беларусаў. Рэальнасць такога факту і з'яўляецца галоўнай падзеяй для Беларусі 20 стагоддзя.

2. Мазаіка найвялікшых падзей у адыходзячым тысячагоддзі настолькі шматгранная, што выдзяляць з яе штосьці самае галоўнае – справа даволі легкадумная. Рэнесанс, фарміраванне рыначнай эканомікі, вынаходніцтва паравой машыны, радыё, тэлефона, тэлебачання, камп'ютараў, робатаў, лазераў, ядзерная экспансія, генная інжынерыя, Інтэрнэт – усё гэта фундаментальныя падзеі апошняга тысячагоддзя, якія карэнным чынам паўплывалі на лёс усяго чалавецтва. Але ўсе гэтыя фенаменальныя з'явы ў рэшце рэшт прывялі нас да фатальнай высновы, што без духоўнага, без маральнага прагрэсу мы асуджаны на дэградацыю, і ніякая навука нас не ўратуе. На парозе новага тысячагоддзя мы нарэшце зразумелі, што толькі ў сферы матэрыяльнай чалавек не можа сябе рэалізаваць дастаткова поўна, што гармонія і шчасце магчымы пры спалучэнні зямной дзейнасці і прысутнасці Бога як Абсалютнага Гаранта ўсёабдымнага сэнсу быцця і далучэння да вечнасці. Аб'ектыўнае фарміраван-

 



не такога светапогляду і з'яўляцца галоўнай падзеяй адыходзячага тысячагоддзя.

3. Што б я хацеў, каб адбылося ў Беларусі ў наступным стагоддзі? Спадзяюся на трэцюю – на гэты раз паспяховую – спробу рэанімацыі нацыянальнай самасвядомасці, бо без гэтага росквіт нашай дзяржавы праблематычны. Вялікай падзеяй для Беларусі можа быць такая сітуацыя ў грамадстве, пры якой абсалютная большасць грамадзян, заканадаўчая і выканаўчая ўлады, Прэзідэнт будуць спавядаць адну ідэалогію – ідэалогію патрыятызму, што дазволіць плённа вырашыць і праблемы эканомікі, і праблемы міжнародных зносін, і праблемы культуры, мовы, якая нарэшце стане фактам пільнай патрэбы і маральнага прынцыпу, чаго зараз не назіраецца.

Зрэшты, хай здзейсніцца купалаўскае жаданне, каб Беларусь упэўнена заняла "свой пачэсны пасад між народамі". Гэта і будзе знамянальнай падзеяй для нашай дзяржавы ў 21 стагоддзі.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

Усё старэе, але, дзякаваць Богу, абнаўляецца.

Ужо і самому – пяцьдзесят, таму ёсць пра што ўспомніць і ёсць што аналізаваць.

Адсюль – і як бы падвойныя адказы на пытанні: за сябе і за ўсё чалавецтва, суб'ектыўныя і аб'ектыўныя...

1/а. Палёт чалавека ў Космас і высадка яго на Месяц – несумненны штуршок для інтэлектуальнага развіцця чалавецтва.

Я памятаю, як гэта ўскалыхнула светлыя душы цёмных вяскоўцаў... Як усе мы былі ўзрушаны! Гэтая падзея адарвала пануры сялянскі погляд ад зямлі і змусіла ўзняць вочы ў паднебную выш... Ад зямлістай бульбы і цяжкіх працадзён – да таемнага іншасвету і мігатлівых зорак...



 

Для савецкіх людзей гэта была пераломная веха.

1/б. Асабіста ж на мяне найбольшае ўражанне зрабіў распад СССР. Тым больш, што гэта здарылася без усялякіх рэвалюцый і крывавых вызваленчых войнаў. Беларусы, бадай, адзіная нацыя, як трынаццатае парася ў свінні – альбо выжыве без цыцкі, альбо прападзе... Сумна і балюча.

2/а. Безумоўна – кнігадрукаванне. Гутэнберг у 15 стагоддзі змусіў чалавека зазірнуць у самога сябе, каб нарэшце жахнуцца сваім неўтаймоўным жывёльным інстынктам...

На жаль, да гэтага часу чалавек так і не навучыўся чытаць мудрых кніжак.

2/б. Мне ж здаецца, што адкрыццё Старым светам Новага, інспанскімі мараходамі Амерыкі – не менш важная падзея ў гісторыі чалавецтва.

3/а. Хацелася б, каб мае нашчадкі дажылі да слаўнага 100–га юбілею суверэннай Рэспублікі Беларусь (1991—2091 гг.)...

3/б. Людзі ўжо столькі награшылі на зямлі, што хацелася б, у рэшце рэшт, быць сведкам з'яўлення Хрыста народу...

## Васіль ЗУЁНАК

“Пераход” з аднаго стагоддзя ў другое, як і з аднаго тысячагоддзя – у наступнае, ёсць катэгорыя чыста ўмоўная. Чаму б, скажам, дзеля “памежных” арыенціраў не пакарыстацца той жа славутай “сямёркай” – лічбай з магічнымі атэстацыямі і таму, у параўнанні з “нулём”, больш прывабнай?.. Штучнасць “падзелу” бясконцага часу (гэтак жа, як і прасторы) – відавочная... Аднак, дамовіўшыся весці адлічэнні ў сістэме дзесятковай, маем і “скокі” ладзіць у гэтым рытме...

Дык што ў мінулым тысячагоддзі? Для нас, беларусаў, і ў тым мы сцвердзіцца павінны былі даўным-даўно, – гэта Зорка Скарыны. Яна ўспыхнула на нашым небе светлым водбліскам Зоркі Віфлеемскай: разам з кнігадрукам Францішак Скарына прынёс на нашу зямлю (і не толькі на нашу!) Слова Кнігі Кнігаў – Слова Боскае – людзям паспалітым для добрага навучання.

Постаць Скарыны – лёсавызначальная для нацыі, і ці не таму так доўга і ўпарта, цягам вякоў, насуперак фактам, афіцыйна-імперскай гістарыяграфіяй не прызнавалася за ім права Першадрукара... Як і сёння робяцца афіцыйныя захады выкарыстаць яго імя, хоць і з іншага боку, але з тымі ж імперскімі мэтамі: “Наша радасць з нагоды аб’яднання рускіх павінна быць большай, чым радасць немцаў пасля падзення берлінскай сцяны... Калі я сказаў “аб’ядноўваюцца рускія”, я не памыліўся. Пра гэта сведчыць гісторыя, у прыватнасці, тэксты Францішка Скарыны...” – так “радаваўся”, нібы з царскага 19-га стагоддзя голас падаваў, выступаючы з нагоды ратыфікацыі Саюзнай дамовы РБ і РФ, новаяўлены, так бы мовіць, “скарыназнаўца” Руслан Ігнацішчаў. Бачым: Францішак Скарына мабілізуецца ўжо на антыскарынаўскую службу. І маем усе падставы з’едліва зазначыць: “так нам і трэба...” Бо не ўмелі і не ўмеем цаніць свайго, не маем рашучасці ўзняць над светам свой нацыянальны геній. Хто ж зробіць гэта за нас?

Як было са Скарынам, так сталася і з Каліноўскім. Як скарынаўскія кнігі Бібліі, калі браць па вялікім рахунку, засталіся толькі гістарычным фактам, а не самой Гісторыяй, так і кліч Каліноўскага да Волі, да барацьбы за Волю, слова ягонае з-пад шыбеніцы прагучала адно толькі надзеяй, каб не сказаць – шкадаваннем...

Подзвіг асобных герояў, выдатных сыноў Айчыны не ўскалыхнуў душу ўсенародную. Яму, подзвігу эпахальнаму, не суджана было зрабіцца светачам (Сонцам ці

іншаю зоркай) з полем пастаяннай гравітацыі. Ён праляцеў каметай – каб вярнуцца, магчыма, на небасхіле нашчадкаў нашых, людзей новага пакалення і гарту...

А што ў 20-м стагоддзі? Як блукалі ў 19-м, так і працягвалі блукаць здані... І толькі "пад заслону" лёс падаў нам – зноў як выпрабаванне, як запытанне Скарыны і Каліноўскага, – Незалежнасць. Ці ўправімся з ёю?..

Пытанні, пакліканыя нашымі, беларускімі, "тысячагоддзем" і "стагоддзем", такімі па сваёй "кардыяграме" ірванымі – ад успышкі да летаргічнага замірання, – спыніліся на парозе новай вяхі летазлічэння ў маўклівым чаканні. І самае трагічнае ў ім: нацыянальная духоўнасць і афіцыйна-чыноўная палітыка ў гістарычным руху, як і заўсёды ў нас, ці амаль заўсёды, скіроўваюцца па розных рэчышчах і часцей – у розных напрамках... Пад скляпеннямі, здавалася б, аднаго і таго ж храма молімся розным багам...

І памагаюць народу адгарадзіцца ад Кнігі Скарыны, ад Волі Каліноўскага ўсё тыя ж "здані", чужыя ідалы...

Беларусь выпакутавала свайго Прарока. І таму – жаданне на 21-е стагоддзе: хай прыйдзе Ён, Беларускі Прарок, якога заклікаў Янка Купала:

– Паўстань з народу нашага, Прарок!..
– Паўстань з народу нашага, Пясняр!..
– Паўстань з народу нашага, Ваяк!..
Прарок, пясняр, змагар – з народу нашага...

**Леанід МАРАКОЎ**

1. Напрыканцы дваццатага стагоддзя абставіны склаліся так, што галоўнай станоўчай падзеяй для беларусаў лічу тое, што не зрабілася самае адмоўнае. Тое, што Беларусь жывая як самастойная дзяржава. І значыць, як гаварылі "нацдэмы" яшчэ ў дваццатыя, "ёсць шанс для працягу барацьбы". Барацьбы за поўную незалежнасць, за ро-

дную мову, за нашу самабытную культуру, за аднаўленне інтэлектуальнага генафонду нацыі, якая страціла ў гэтым стагоддзі лепшых сваіх сыноў.

У 20-я, 30-я, 40-я гады была вынішчана інтэлектуальная моц нацыі, якая была назапашана многімі папярэднімі пакаленнямі. За мінулыя пасля генацыду 50—60 гадоў (два пакаленні) яна, безумоўна (і гэта мы бачым на канкрэтных прыкладах), да канца не аднавілася. Інтэлектуальны патэнцыял нацыі, як мне здаецца, пакажа сябе ў наступным стагоддзі...

2. Калі маецца на ўвазе ўвесь Сусвет, то, як мне здаецца, галоўныя падзеі для чалавецтва пачнуцца якраз у бліжэйшыя некалькі дзесяцігоддзяў пасля заканчэння гэтага тысячагоддзя. Ніякія падзеі мінулага тысячагоддзя – ці то сусветныя войны ці адкрыццё “тайны” атама – не змогуць зраўняцца з тым, што чакае нас нават, да прыкладу, у бліжэйшыя пяцьдзесят – сто гадоў. Магутнасць і хуткасць працы камп’ютараў будзе дастатковай для стварэння штучнага інтэлекту, прасцейшых людзей-робатаў, пасля стварэння якіх перастане існаваць, да прыкладу, “самый эксплуатируемый” (кажучы мовай класіка марксізму і заснавальніка Сусвету канцлагераў і “інстытута” заложнікаў) рабочы клас. У дыктатараў, якія яшчэ засталіся на зямлі, знікне іхняя адзіная інтэлектуальная “крыша” абаронцаў простага народа, эксплуатуемага капіталістамі рабочага класа. Сусвет без дыктатараў – гэта Сусвет без войнаў, з-за якіх у гэтым тысячагоддзі і не адбыўся “поўны” прарыў да зорак, Галактык і, магчыма, да іншых цывілізацыяў. Сусвет без дыктатараў і таталітарных рэжымаў – гэта Сусвет дабра, прагрэсу, шчасця...

Калі ж гаварыць пра падзеі, маючы на ўвазе навукова-тэхнічныя адкрыцці, то галоўнай, як мне здаецца, тут з’яўляцца “авалоданне” энергіяй электрычнасці і атамнага ядра.

3. Хацелася б, каб адбылося "прасвятленне" нацыі, адыход яе ад лініі вечнай "памяркоўнасці", тактыкі "каб толькі не было вайны", а часам і "мая хата з краю..." Каб маладое пакаленне, якое вырастае, скажам так – у іншых умовах, не баялася спальваць масты паміж сабой і адыходам назад, у рабства. Толькі наперад – у будучыню, у цывілізацыю, нават калі не ўсе адолеюць шлях...

**Уладзімір АРЛОЎ**

1. Аднаўленне беларускай дзяржаўнасці ў выніку Акта 25 сакавіка 1918 года.

2. Такіх падзей дзве: вынаходніцтва кнігадрукавання Ёганам Гутэнбергам і стварэнне Інтэрнэту.

3. Мару, каб прэзідэнтам незалежнай Беларусі была абраная жанчына.

**Максім ЛУЖАНІН**

1. 25 сакавіка 1918 года.

2. 9 мая 1945 года.

3. Хачу бачыць Беларусь, занятую клопатам касманаўтыкі і астранаўтыкі.

**Аляксандр ГАРЦУЕЎ**

1. Набыццё незалежнасці Беларусі.

2. Нараджэнне дачкі.

3. Мару, каб Беларусь стала раўнапраўным членам аб'яднанай і квітнеючай Еўропы.